

*Нікола Пізано.*
*Баптыстэрый катэдры саборнага комплексу.*
*1257–1260 гг., мармур. Піза.*



Кс. Ян Твардоўскі

## Пра веру

Часта веру трэба згубіць
афіцыйную
надзьмутую
з задраным носам
для перастрахоўкі
там і тут абяцаную
каб знайсці адзіную тую
як вугалёк зялёны
тую якая проста
ёсць спатканнем упоцемку
калі няпэўнасць
становіцца пэўнасцю
такую сапраўдную веру
што цяжка паверыць

*Пераклад з польскай мовы*
*Данугы Бічэль*



У нумары 1/2011


НАША ВЕРА



**Да беатыфікацыі Слугі Божага Яна Паўла ІІ**
2 *Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ*
СВЯТАСЦЬ У НАВУЧАННІ ЯНА ПАЎЛА ІІ

**Новая евангелізацыя**
5 *БЭНЭДЫКТ XVI*
ПРАЎДА, ЯЕ АБВЯШЧЭННЕ І АЎТЭНТЫЧНАСЦЬ ЖЫЦЦЯ Ў ЛІЧБАВУЮ ЭРУ

**Постаці**
7 *Павел БЯЛІНЬСКІ*
СВЯТАЯ АД ЦЕМРЫ

**Галерэя**
12 *Валеры БУЙВАЛ*
НІКОЛА ПІЗАНО. ЗВЕСТАВАННЕ, НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТА І ПАКЛАНЕННЕ ПАСТУХОЎ

**Пераклады**
14 КВЕТАЧКІ СВЯТОГА ФРАНЦІШКА

**Ad Fontes**
17 *Тамаш КЭМПІЙСКІ*
СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

**Асобы**
20 *Наталля ТРАЎБЕРГ*
ПРА ПАКОРУ І ГОДНАСЦЬ

22 *Здзіслаў СІЦЬКА*
СОДНІ КСЯНДЗА ШАПЛЕВІЧА

**Літаратуразнаўства**
27 *Ганна СЕРЭХАН*
КАНТАТА У. СЫРАКОМЛІ «ФРАНЦІШАК АСІЗСКІ» І ДУХОЎНЫЯ ПОШУКІ ЛІТАРАТУРЫ РАМАНТЫЗМУ

**ВЕРА & SOCIUM**
33 *Пётр РУДКОЎСКІ OP*
АСОБА, НАРОД, УЛАДА

**Асветнікі**
35 *Уладзімір КОНАН*
КАЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАЙ ТЭАЛОГІІ: КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

**Паэзія**
42 *Васіль ЗУЁНАК*
ВЕРШЫ

45 *Алесь ЧОБАТ*
ПАЛАНЭЗ

**Пераклады**
46 *Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ*
НЯМЕЦКІ НАСТАЎНІК БЕЛАРУСКІХ МАГНАТАЎ: МАРАЛЬНА-ДЫДАКТЫЧНЫЯ ВЕРШЫ ЁГАНА МЮЛІУСА З ЛІБЕНРОДЭ

**Паэзія**
52 *Крыстына ЛЯЛЬКО*
ВЕРШЫ

**На кніжнай паліцы**
55 *Галіна ТЫЧКО*
БЕЛАРУСКІ РЭЛІГІЙНЫ ДРУК НА ЭМІГРАЦЫІ

59 *Алесь ЧОБАТ*
ДАНУТА БІЧЭЛЬ НА МОСЦЕ СВЯТОГА ФРАНЦІШКА

61 *Міхась СКОБЛА*
МОСТ У КРАІНУ НЕМАНІНУ

**З архіваў часу**
64 *Юры ЛАЎРЫК*
РУКАПІС, ЗНОЙДЗЕНЫ НА ГАРЫШЧЫ, АБО ЛІСТЫ ДА БЭРНАРДЫНА ФІЛІПА ШЧАРБІНСКАГА

70 *Вадзім КОШМАН*
АРХЕАЛАГЧНЫЯ РАБОТЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЭРНАРДЫНСКАГА КЛЯШТАРА Ў МІНСКУ

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч

# Святасць у навучанні Яна Паўла II

*«Santo subito» — такія надпісы з'явіліся на плошчы св. Пятра ў Рыме 8 красавіка 2005 г. падчас пахавання Яна Паўла II. Гэта было спантаннае сведчанне вернікаў пра святасць Вялікага Пантыфіка. Менавіта яно распачало яго культ, аб якім сведчаць доўгія чэргі людзей да магілы Яна Паўла II ў Вытыканскіх гротах.*

*Пасля завяршэння складанага працэсу беатыфікацыі, у якім мне таксама давялося прымаць удзел у якасці сведкі, папа Бэнэдыкт XVI абвясціў дату вынясення да хвалы алтара Яна Паўла II — 1 мая 2011 года. Каталікі ва ўсім свеце, і не толькі яны, з радасцю прынялі гэтую вестку, якая з'яўляецца пацвярджэннем спантаннага заклiку вернікаў шэсць гадоў таму.*

*Калі адбываюцца беатыфікацыі ці кананізацыі, якія сведчаць пра жыццёвасць лакальных Касцёлаў (пар. ТМА 37), натуральна, што многа разважаецца пра святасць, таму гэты артыкул прысвячаецца навучанню пра святасць таго, хто сам афіцыйна прызнаецца Касцёлам святым — Слугі Божага Яна Паўла II.*

У сваім навучанні папа Ян Павел II прысвячае многа ўвагі менавіта святасці. Яго прамовы, афіцыйныя дакументы магістэрыума, гаміліі і найперш шматлікія беатыфікацыі і кананізацыі паказваюць, што гэта справа была ў яго сэрцы і ён прысвячаў ёй шмат увагі. Без сумнення, святасць з'яўляецца адной з найбольш важных тэмаў яго навучання.

У сваёй візіі святасці Ян Павел II акцэнтуе і далей развівае дактрыну Другога Ватыканскага Сабору пра паўсюднае пакліканне да святасці, вымярэннем якой ёсць дасканалая любоў. Сама ж хрысціянская святасць укаранёная ў прыналежнасці да Хрыста праз веру і хрост[1]. Менавіта сакрамэнт хросту з'яўляецца падмуркам эклезіяльнай камуніі ў святасці. Ва ўдзел у жыцці Хрыста праз сакрамэнт хросту імплантавана анталагічная, эклезіялагічная і этычная святасць кожнага верніка. Так зразуметая святасць з'яўляецца дарам і адначасова заданнем і выклікам для чалавека[2].

Найбольш сінтэтычнай трактоўкай навучання Яна Паўла II аб святасці з'яўляецца яго трыптых апостальскіх адгартацый, прысвечаных паасобным станам у Касцёле: у «Christifideles laici» — аб місіі і пакліканні свецкіх у Касцёле і свеце (1987 г.), у «Pastores dabo vobis» — аб фармацыі святароў у сучасным свеце (1992 г.), у «Vita consecrata» — аб кансэкраваным жыцці і яго місіі ў Касцёле і свеце (1996 г.). Але найбольш сістэматычна і абгрунтавана візія святасці прадстаўлена ў прысвечаным завяршэнню Вялікага Юбілею 2000 года апостальскім лісце «Novo millennio ineunte». Гэта прафетычны, праграмны і хрыстацэнтрычны тэкст, у якім увага акцэнтуецца на святасці і «тэалогіі святасці» Другога Ватыканскага Сабору.

Тым, што аб'ядноўвае гэтыя дакументы ў канцэпцыі святасці Яна Паўла II і складае іх супольны назоўнік, з'яўляецца мадэль святасці, якую Папа ставіць перад усімі хрысціянамі. Гаворка ідзе пра святасць, якая ажыццяўляецца ў сучасных абставінах праз выконванне місіі чалавека кожнага стану ў Касцёле. Такая мадэль прадугледжвае ўключэнне кожнага каталіка ў місію Касцёла ў сучасным секулярным і патрабуючым аздараўлення свеце. Гэта ні што іншае, як заклік да духоўнай рэформы сучаснага свету[3].

Другі Ватыканскі Сабор нанова адкрыў пакліканне і місію Касцёла ў свеце, падкрэсліў сувязь і адносіны паміж імі, бо Касцёл і свет цесна звязаны паміж сабою. Гэтае ўсведамленне адкрыла новыя перспектывы як для місіі Касцёла ў свеце, так і для паўсюднага паклікання да святасці паводле заклiку Езуса: «Будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны»[4].

У сваім навучанні аб святасці Ян Павел II стараўся перамагчы дуалізм і насцярожанасць у адносінах паміж Касцёлам і светам, у тым ліку і адносна святасці. Для гэтага ён вельмі шырока карыстаўся навучаннем Другога Ватыканскага Сабору, які ў Дагматычнай канстытуцыі пра Касцёл падкрэслівае, што «ўсе хрысціяне любога стану і прафесіі пакліканыя да паўнаты хрысціянскага жыцця і дасканалай любові. Дзякуючы гэтай святасці таксама і ў зямным грамадстве развіваецца больш гуманны лад жыцця»[5]. Касцёл па сваёй прыродзе з'яўляецца святым, хоць складаецца з недасканалых і грэшных людзей. Як Містычнае Цела Хрыста, Касцёл пакліканы прадстаўляць сапраўднае Яго аблічча, быць Яго сакрамэнтам, Яго бачным знакам, Яго святлом сярод людзей. Місія Касцёла заключаецца ў асвячэнні людзей, таму святасць Касцёла — гэта яго своеасаблівае «ДНК». Мова святасці з'яўляецца аўтэнтычнай мовай Касцёла, ад якой ён ніколі не можа адмовіцца. І ў гэтай яго мове асабліва моцна гучыць голас Вялікага Папы Яна

Паўла II, які імкнецца абудзіць у сучасных людзях імкненне да святасці.

Развіццё хрысціянскай дасканаласці адпавядае годнасці чалавечай асобы, таму святасць у навучанні Яна Паўла II становіцца місіяй Касцёла ў сучасным свеце, каб вярнуць чалавеку вобраз і падабенства Божае, паводле якога ён быў створаны. Гэту місію Папа Вайтыла назваў новай евангелізацыяй. Развівае яе далей папа Бэнэдыкт XVI, які, чытаючы знакі часу і зважаючы на небяспеку, што існуе як у маральным жыцці сучаснага чалавека, так і ў імкненні да святасці, утварыў спецыяльную Папскую раду па справах новай евангелізацыі.

У гэтым кантэксце святасць становіцца адказам на выклікі і патрэбы новай евангелізацыі. Заміранне святасці і нават яе высмейванне ёсць вынікам працэсаў секулярызацыі і мае сваю крыніцу ў эгаізме і спажывальніцтве. Таму святасць павінна стаць супрацьяддзем на выклікі секулярызму.

Паводле навучання Яна Паўла II, святасць з'яўляецца той рэчаіснасцю, якая найлепей перадае таямніцу Касцёла і ёсць жывым адлюстраваннем аблічча Хрыста[6]. Таму кожная пастырская акцыя павінна ўпісвацца ў перспектыву святасці з захаваннем, дастасаваным да кожнага паклікання педагогікі святасці[7]. Такім чынам, святасць, зразумелая як адказ на Божы план у гісторыі чалавецтва, сама становіцца знакам і плёнам часу[8], гэтым самым служачы свету і прадаўжаючы Божы намер збаўлення.

Касцёл ад самога пачатку сваёй дзейнасці аналізуе знакі Божай ласкі, што таксама належыць да яго дэпазіту святасці і адначасова з'яўляецца сувяззю з гісторыяй чалавецтва. Гэтымі знакамі з'яўляюцца самі святыя, а беатыфікацыйныя і канацызацыйныя працэсы пацвярджаюць святасць той ці іншай асобы і паказваюць яе пасланне нашаму часу.

У навучанні Яна Паўла II аб святасці асаблівае месца адводзіцца святым як «знакам часу». Пры гэтым падкрэсліваецца, што святасць з'яўляецца спецыфічнай субстанцыяй гэтага знаку, менавіта ёй з'яўляецца, укаранёная ў акрэсленым часе і месцы, гісторыя[9].

Гістарычны элемент тут выходзіць на першае месца, бо для папы Яна Паўла II важным ёсць укараненне гісторыі збаўлення ў часе. Ён кажа, што гэтая субстанцыя святасці з'яўляецца плодам свайго часу, на які глядзяць мінулыя пакаленні і які адначасова вядзе ў будучыню. У гэтым плодзе мы распазнаём гісторыю мінулых пакаленняў і сведчанне, якое яны пакінулі будучым пакаленням[10]. Такім чынам харызма святога інтэрпрэтуе мінулае і адначасова нясе ў сабе будучыню.

У аснове святасці як «знаку часу» знаходзіцца нейкая асаблівая справа, дзякуючы якой Бог праз святога дае вечнатрывалае сведчанне, каб яно магло застацца ў гісторыі чалавецтва як «знак часу». Ян Павел II перадае гэтую спецыфічную субстанцыю святасці як «знаку часу» ў катэгорыі сведчання, якое, з аднаго боку, звязана з дадзенай эпохай, а з іншага, набірае трансцэндэнтны характар у адносінах да гісторыі чалавецтва[11]. Таму святыя не мінаюць, а заклікаюць да святасці[12]. Яны з'яўляюцца прадстаўнікамі Бога, які прамаўляе праз іх. Таму святыя — гэта своеасаблівыя словы, якія Бог вымаўляе ў гісторыі для дабра людзей.

Святыя бароняць Касцёл ад памяркоўнасці, навучаючы дзейнічаць паводле «высокай меркі» звычайнага хрысціянскага жыцця[13] і рашучага адпрэчвання ідалаў гэтага свету.

Святыя, як аўтэнтычныя сведкі святасці Касцёла, прыкладам свайго жыцця пабуджаюць да духоўнага аднаўлення і з'яўляюцца сапраўднымі архітэктарамі гісторыі чалавецтва[14].

Найбольш пераканаўчым з'яўляецца экуменізм святых, бо *Communio sanctorum* прамаўляе мацней за ўсе падзелы[15].

Нагадваючы пра вечнатрывалае сведчанне, якое становіцца «знакам часу» ў гісторыі чалавецтва, Папа найперш разумее прысутнасць Божай любові ў чалавеку, любові, якая асаблівым чынам праявілася ў яго перамозе на Галгоце. Тады любоў становіцца мацнейшай за смерць і перамагае там, дзе, здавалася, будзе трыумфаваць нянавісць і пагарда да чалавека[16]. Таму мучаніцтва з'яўляецца найвышэйшаю праяваю сведчання і прысутнасці Божай любові ў чалавеку. Гэта ўжо не толькі «знак часу», але і «знак збаўчы»[17]. Менавіта мучанікі з'яўляюцца «невядомымі жаўнерамі», якія змагаюцца ў служэнні вялікай Божай справе[18].

Такім чынам у навучанні Яна Паўла II аб святасці праяўляецца яе сутнасны хрысталагічны крытэрый. Менавіта праз прыпадабненне да Хрыста, нават аж да мучаніцкай смерці, святасць набірае асаблівы знакавы і збаўчы характар. Дух Святы фармуе душы пакліканых, прыпадабняе іх да Хрыста і заахвочвае да прыняцця Яго місіі. Яны ж пад кіраўніцтвам Духа на шляху пастаяннага ачышчэння становяцца сфармаванымі па вобразе Хрыста асобамі — гістарычным прадаўжэннем прысутнасці Змёртвыхпаўсталага Пана[19].

Такім чынам асабістая канкрэтызацыя гісторыі ажыццяўляецца праз прыпадабненне Хрысту, дзякуючы чаму Ён становіцца прысутным у гэтым свеце ў вобразе сведчання святога, якое мае збаўчы характар.

Чытаючы ў святых «знакі часу», Ян Павел II чытае іх як знакі Божыя, як Божую інтэрвенцыю ў гісторыю чалавецтва і як спецыфічныя збаўчыя знакі, якія чыняць Хрыста прысутным у свеце. Менавіта таму святасць набірае вечнатрывалае сведчанне, а яго пасланне атрымлівае экстраардынарнае значэнне і адначасова становіцца пацвярджэннем хрысціян-

скага Аб'яўлення, што так важна для місіі Касцёла ў сучасным свеце. Святыя з'яўляюцца трывалымі «пунктамі» перад абліччам прамінальнасці чалавека і свету. Тое, што ёсць у святых, — гэта заўсёды трывалае і непрамінальнае. З іх сведчання чалавек чэрпае ўсведамленне свайго паклікання і ўпэўненасць у прызначэнні. У гэтым напрамку святыя вядуць Касцёл і чалавецтва[20].

Такім чынам святыя ў навучанні Яна Паўла II праз сваё сведчанне аднаўляюць усведамленне Касцёла адносна яго паклікання і місіі, а таксама адносна трывалых і вечных каштоўнасцяў, асабліва годнасці чалавека.

Асаблівай увагі ў дактрыне Папы Вайтылы аб святасці заслугоўваюць евангельскі заклік і прароцкая перасцярога, як ключ да прачытання і актуалізацыі паслання святых. Пад евангельскім заклікам Папа разумее адносіны чалавека да Бога, які заклікае да святасці на шляху любові і сведчання. Прароцкая перасцярога — гэта скіраваны да чалавецтва заклік да ўшанавання правоў чалавека і народаў[21]. Гэтыя два элементы з'яўляюцца сінтэзам паслання святых як «знакаў часу», якія ўказваюць на яго вертыкальнае і гарызантальнае вымярэнні.

Евангельскі заклік указвае на чалавека, які, прыпадабняючыся Хрысту ў дары Духа Святога і дзякуючы веры, перамагае ў любові. Тут гаворка ідзе пра асабовую канкрэтызацыяю гісторыі збаўлення, якая становіцца імпульсам да наследавання і сведчання аб чалавеку і для дабра чалавека. У гэтым сэнсе евангельскі заклік пераpаджаецца ў прарочую перасцярогу, у якой бярэ голас этычнае вымярэнне праўды пра чалавека, пра яго правы, годнасць, пакліканне і абавязкі.

Праведзены вышэй аналіз навучання папы Яна Паўла II аб святасці ўказвае на святасць як «знак часу» і заклікае да яго сведчання. Сведчанне святасці мае прарочы і вечнатрывалы характар, указвае на Хрыста і актуалізуе таямніцу святасці ў чалавеку, што праяўляецца як перамога ў выпрабаваннях веры, нагадвае аб прымаце маральнага ладу і аб іерархіі хрысціянскіх каштоўнасцяў. Гэта таямніца з'яўляецца працэсам супрацоўніцтва з Божай ласкай, моцай якой чалавек прыпадабняецца да Хрыста.

Сведчанне святасці мае эклезіяльны характар, бо яно будуе Касцёл і сведчыць аб яго святасці, а таксама з'яўляецца «духоўнай тэрапіяй» для сучаснага свету, у якім занікае ўсведамленне граху і Божай прысутнасці. Таму Ян Павел II падкрэслівае вялікае значэнне сведчання для новай евангелізацыі, дзе слова Божае пацвярджаецца сведчаннем жыцця. Менавіта тады сведчанне веры становіцца імпульсам да наследавання.

Таму можна нават сказаць, што сведчанне нараджае сведчанне. Для таго, каб сведчанне магло стаць «знакам часу», патрэбна малітва, удзел у жыцці Касцёла, асабліва ў сакрамэнтах, і давер Богу. Толькі тады хрысціянскае сведчанне праявіцца як поўная гармонія паміж верай і жыццём, гармонія, якая вядзе да святасці.

З навучання Яна Паўла II вынікае, што сучаснаму свету патрэбны святыя, як падвержаным эпідэміі людзям патрэбныя лекары і лекі. Яму патрэбныя святыя, якія пераклалі б на сучасную мову Евангелле і сталі б эпіфаніяй васьмі благаслаўленняў Езуса. Патрэбны святыя, праз якіх Дух Святы будзе дзейнічаць і ў якіх людзі будуць бачыць Бога. Патрэбны святыя, якія былі б сапраўднымі сведкамі Хрыста і Яго Евангелля, бо сучасны чалавек больш слухае сведкаў, чым настаўнікаў, а калі іх слухае, то таму, што яны з'яўляюцца сведкамі, — як навучае папа Павел VI[22].

Таму, прымаючы глыбока да сэрца навучанне Яна Паўла II аб святасці, нам не трэба баяцца быць святымі новага тысячагоддзя, як да гэтага заклікае Вялікі Пантыфік[23], бо святыя з'яўляюцца бачнымі сведкамі святасці Касцёла.

**Выкарыстаная літаратура і прынятыя скарачэнні:**


1. Дакументы Другога Ватыканскага Сабору. Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл *Lumen gentium* (LG).
2. Павел VI. Апостальская адгартацыя *Evangelii nunziandi* (EN).
3. Ян Павел II. Энцыкліка «*Vita consecrata*» (VC).
4. Ян Павел II. Апостальскае пасланне «*Terbio millennio adveniente*» (TMA).
5. Ян Павел II. Апостальскае пасланне «*Novo millennio ineunte*» (NMI).
6. http://zadane.pl/zadanie/566314
7. http://www.kkbids.episkopat.pl/anamnesis/40/9.htm.
8. http://www.parafia.strzebielino.eu/sw-maksymilian/przemowienie. html
9. http://www.katolik.pl/index1.php?st=artykuly&id=1504
10. http://zyciezakonne.pl/index.php?option=com_content&task= view&id=5340&Itemid=51
11. http://wiadomosci.onet.pl/jp2/5169,2974,1327292,text.html
12. http://nowezycie.archidiecezja.wroc.pl/numery/042006/07.html
13. http://www.opoka.org.pl/biblioteka/T/TS/byc_swietymi.html
14. http://www.vatican.va/holy_father/john_paul_ii/messages/youth/documents/hf_jp-ii_mes_29061999_xv-world-youth-day_it.html
15. Insegnamenti di Giovanni Paolo II. 15, 1, 1992 (gennaio-giugno). [Watykan] : Libreria Editrice Vaticana, 1994.


[1] пар. LG 40.
[2] пар. http://www.kkbids.episkopat.pl/anamnesis/40/9.htm
[3] пар. http://www.kkbids.episkopat.pl/anamnesis/40/9.htm
[4] Мц 5, 48.
[5] LG 40.
[6] пар. NMI 30.
[7] пар. NMI 30–31.
[8] пар. http://www.parafia.strzebielino.eu/sw-maksymilian/przemowienie.html; http://www.katolik.pl/index1.php?st=artykuly&id=1504 http://zyciezakonne.pl/index.php?option=com_content&task=view&id=5340&Itemid=51; http://wiadomosci.onet.pl/jp2/5169,2974,1327292,text.html
[9] пар. http://wiadomosci.onet.pl/jp2/5169,2974,1327292,text.html
[10] пар. http://www.parafia.strzebielino.eu/sw-maksymilian/przemowienie.html
[11] пар. http://wiadomosci.onet.pl/jp2/5169,2974,1327292,text.html; http://www.parafia.strzebielino.eu/sw-maksymilian/przemowienie.html
[12] пар. http://www.opoka.org.pl/biblioteka/T/TS/byc_swietymi.html
[13] пар. NMI 31.
[14] пар. http://zadane.pl/zadanie/566314
[15] пар. TMA 37.
[16] пар. http://www.parafia.strzebielino.eu/sw-maksymilian/przemowienie.html
[17] пар. тамсама.
[18] пар. TMA 37.
[19] пар. VC 19.
[20] пар. http://www.parafia.strzebielino.eu/sw-maksymilian/przemowienie.html
[21] пар. тамсама.
[22] пар. EN 41.
[23] пар. http://www.vatican.va/holy_father/john_paul_ii/messages/youth/documents/hf_jp-ii_mes_29061999_xv-world-youth-day_it.html

# Праўда, яе абвяшчэнне і аўтэнтычнасць жыцця ў лічбавую эру

## Пасланне Святога Айца Бэнэдыкта XVI на 45-ы Сусветны дзень сродкаў масавай камунікацыі

Дарагія браты і сёстры!

З нагоды 45-га Сусветнага дня сродкаў масавай камунікацыі мне хацелася б прадставіць некаторыя разважанні, падставаю для якіх з'яўляецца характэрны для нашага часу фenomен: распаўсюджанне інтэрнэту як сродку камунікацыі. Усё больш пашыраным становіцца меркаванне, што як некалі прамысловая рэвалюцыя праз нaваўвядзенні ў вытворчым цыкле і ў жыцці працуючых выклікала радыкальныя змены ў грамадстве, гэтаксама сёння грунтоўныя перамены ў сферы камунікацыі, якія менавіта цяпер адбываюцца, паказваюць кірунак для вялікіх культурных і сацыяльных пераўтварэнняў. Новыя тэхналогіі змяняюць не толькі характар і спосаб камунікацыі, але і саму камунікацыю; таму можна сказаць, што мы стаім перад абліччам усёабдымных культурных зменаў. Разам з гэтым новым спосабам распаўсюджання інфармацыі і ведаў нараджаецца новы спосаб навучання і мыслення з небывалымі дагэтуль магчымасцямі для наладжвання адносінаў і будавання супольнасці.

Акрэсліваюцца мэты, якія да нядаўняга часу былі неверагоднымі; яны ўражваюць магчымасцямі, што адкрываюцца перад гэтымі новымі мас-медыямі, і ў той жа час усё больш неадкладна патрабуюць сур'ёзных рэфлексій пра сэнс камунікацыі ў лічбавую эру. Гэта становіцца асабліва відавочным, калі разважаеш пра надзвычайны патэнцыял інтэрнэту і шматпланавасць яго выкарыстання. Як і ўсе іншыя плады чалавечага генія, новыя тэхналогіі камунікацыі павінны быць пастаўленыя на службу інтэгральнаму дабру асобы і ўсяго чалавецтва. Калі яны выкарыстоўваюцца мудра, то могуць садзейнічаць таму, каб заспакоіць прагненне сэнсу, праўды і адзінства — прагненне, якое застаецца самым глыбокім і гарачым для кожнай асобы.

У лічбавым свеце ўсё часцей перадача інфармацыі азначае змяшчэнне яе ў сацыяльнай сетцы, дзе веды паведамляюцца ў межах прыватнага абмену. Выразнае адрозненне паміж вытворцам і спажыўцом інфармацыі рэлятывізуецца, а камунікацыя ўсё больш становіцца не толькі абменам данымі, але таксама ўдзельнікам гэтага абмену. Такая дынаміка прычынілася да новай ацэнкі міжасабовай камунікацыі, якая разглядаецца перадусім як дыялог, абмен, салідарнасць і будаванне пазітыўных адносінаў. Аднак, з іншага боку, гэтаму перашкаджаюць некаторыя тыповыя для лічбавай камунікацыі абмежаванні: аднабаковасць інтэракцыі; тэндэнцыя паведамляць толькі часткова пра сваё ўнутранае жыццё; небяспека паддацца жаданню так ці інакш канструяваць свой уласны вобраз, каб ён мог даваць пачуццё самазадаволенасці.

Гэтыя змены ў камунікацыі перадусім адчувае на сабе менавіта маладое пакаленне, з усімі жаданнямі, пярэчаннямі і ўсёй крэатыўнасцю, уласцівымі тым, хто з захапленнем і цікаўнасцю адкрываецца на новы жыццёвы досвед. Усё большая актыўнасць на публічным лічбавым форуме, які ствараюць так званыя сацыяльныя сеткі, прыводзіць да завязвання міжасабовых адносінаў новага тыпу, уплывае на ўспрыманне самога сябе і таму непазбежна ставіць пад сумненне не толькі карэктнасць уласных дзеянняў, але таксама аўтэнтычнасць свайго быцця. Прысутнасць у гэтых віртуальных прасторах можа быць прыкметаю аўтэнтычнага пошуку асабовай сустрэчы з іншым, калі звяртаецца ўвага на тое, каб пазбегнуць такой яе небяспекі, як напрыклад, уцёкі ў нейкі паралельны свет або празмернае экспанаванне сябе ў віртуальным свеце. У пошуках таго, з кім можна падзяліцца, у пошуках «сяброўства» аказваешся перад выклікам: як быць аўтэнтычным і верным самому сабе, не паддаючыся ілюзіі штучнага будавання свайго публічнага «профілю».

Новыя тэхналогіі дазваляюць людзям сустракацца па той бок межаў прасторы і ўласных культураў і будаваць такім чынам цэлы свет новых патэнцыяльных сяброўстваў. Гэта вялікі шанц, але пры ўмове большай уважлівасці і ўсведамлення магчымай рызыкі. Хто з'яўляецца маім «бліжнім» у гэтым новым свеце? Ці не існуе небяспека, што мы будзем у меншай ступені прысутнымі тут, для тых, каго мы сустракаем у нашым звычайным штодзённым жыцці? Ці не існуе небяспека, што мы будзем усё больш рассеянымі, таму што наша ўвага раздвоеная, яна занятая «іншым» светам, не такім, як той, у якім мы жывём? Ці маем мы час на тое, каб крытычна паразважаць над сваімі рашэннямі і паклапа-

ціцца пра тыя міжасабовыя адносіны, якія сапраўды глыбокія і трывалыя? Важна заўсёды памятаць пра тое, што віртуальны кантакт не можа і не павінен замяніць непасрэдны, асабовы кантакт з людзьмі ва ўсіх сферах нашага жыцця.

У лічбавую эру кожны стаіць таксама перад неабходнасцю быць аўтэнтычным і разважным чалавекам. Зрэшты, дынаміка, уласцівая сацыяльным сеткам, паказвае, што чалавек заўсёды ўцягнуты ў тое, чым ён дзеліцца. Пры абмене інфармацыяй людзі дзеляцца ўжо самімі сабою, сваім бачаннем свету, сваімі надзеямі, сваімі ідэаламі. З гэтага вынікае, што існуе хрысціянскі стыль прысутнасці таксама ў лічбавым свеце: ён ажыццяўляецца ў форме шчырай і адкрытай камунікацыі, з усведамленнем сваёй адказнасці і выказваннем павагі да іншых. Дзяліцца Добраю Весткаю, Евангеллем праз новыя мас-медыі — азначае не толькі змяшчаць інфармацыю яўна рэлігійнага зместу на розных медыйных платформах, але таксама паслядоўна даваць у сваім лічбавым профілі і ў сваім стылі камунікацыі сведчанне пра тое, як выбіралася рашэнне, чаму аддавалася перавага, якім меркаванням — сведчанне, што цалкам адпавядае Евангеллю, нават калі яно не кажа пра гэта выразна. Зрэшты, у лічбавым свеце таксама нельга абвяшчаць нейкае пасланне без паслядоўнага сведчання таго, хто яго абвяшчае. У новых кантэкстах і з новымі формамі ўвасаблення хрысціянін зноў пакліканы даць адказ кожнаму, хто пытае пра надзею, што яго напаўняе (пар. 1 П 3, 15).

Заданне сведчыць на карысць Евангелля ў лічбавую эру патрабуе, каб звярталася асаблівая ўвага на той аспект гэтага паслання, які можа ўяўляць выклік для пэўнай, тыповай для інтэрнэту ментальнасці. Перадусім мы павінны ўсведамляць, што праўда, якою мы стараемся падзяліцца, чэрпае сваю каштоўнасць не са сваёй «папулярнасці» або з маштабаў увагі, якая ёй аказваецца. Мы павінны знаёміць з ёю ва ўсёй яе паўнаце замест таго, каб спрабаваць зрабіць праўду прымальнаю, можа, нават коштам яе размытасці. Яна павінна стаць штодзённым пасілкам, а не тым, што прыцягвае ў той ці іншы момант. Праўда Евангелля — гэта не нейкі аб'ект, які можна спажыць або проста прыняць да ведама; гэта хутчэй дар, які патрабуе свабоднага адказу. Калі яна абвяшчаецца ў віртуальнай прасторы інтэрнэту, яна заўсёды павінна ўвасабляцца ў рэальным свеце і адносіцца да канкрэтных абліччаў братоў і сясцёр, з якімі мы дзелім сваё паўсядзённае жыццё. Таму ў справе перадачы веры прамыя чалавечыя адносіны і надалей маюць фундаментальнае значэнне!

У любым выпадку, мне хацелася б заахвоціць хрысціянаў упэўнена, са свядомай і адказнай крэатыўнасцю ўключыцца ў сетку тых адносінаў, якія робіць магчымымі лічбавая эра. Не толькі для таго, каб заспакоіць жаданне прысутнасці ў ёй, але таму што гэтая сетка з'яўляецца інтэгральнаю часткаю чалавечага жыцця. Інтэрнэт садзейнічае развіццю новых і больш комплексных формаў інтэлектуальнай і духоўнай свядомасці, а таксама агульнай дасведчанасці. Мы пакліканыя да таго, каб і ў гэтай сферы абвяшчаць нашую веру ў тое, што Хрыстус з'яўляецца Богам, Збаўцам чалавека і гісторыі, Тым, у кім усё знаходзіць сваё спаўненне (пар. Эф 1, 10).

Абвяшчэнне Евангелля патрабуе такой формы дзялення, якая поўная павагі да іншых і не назойлівая, якая кранае сэрца і ўскалыхвае сумленне; формы, якая нагадвае стыль уваскрослага Езуса, калі Ён спадарожнічаў вучням на дарозе ў Эмаўс (пар. Лк 24, 13–35) і крок за крокам вёў іх да зразумення таямніцы — дзякуючы сваёй блізкасці, дзякуючы сваёй размове з імі, а таксама дзякуючы таму, што Ён далікатна ўчыніў так, каб выявілася тое, што было ў іх сэрцах.

Праўда, якою ёсць Хрыстус, — гэта, у канчатковым выніку, поўны і аўтэнтычны адказ на тое чалавечае прагненне адносінаў, супольнасці і сэнсу, якое праяўляецца таксама ў масавым удзеле ў розных сацыяльных сетках. Калі людзі веруючыя выступаюць у абарону сваіх перакананняў, яны ўносяць каштоўны ўклад у тое, каб інтэрнэт не станавіўся інструментам дэперсаналізацыі людзей, спрабуючы эмацыйна маніпуляваць імі, каб не даваў магчымасці тым, хто мае ўплыў, манапалізаваць меркаванні іншых. Наадварот, няхай веруючыя заахвочваюць усіх да ажыўлення адвечных пытанняў чалавека, якія сведчаць пра яго прагненне трансцэндэнтнага і пра яго тугу па аўтэнтычных формах жыцця, вартага таго, каб яго пражыць. Менавіта гэтыя духоўныя намаганні, у найвышэйшай ступені ўласцівыя чалавеку, ляжаць у аснове нашага гарачага прагнення праўды і супольнасці, натхняючы нас да сумленнай і шчырай камунікацыі паміж сабою.

Заахвочваю перадусім моладзь, каб добра карысталася сваёю прысутнасцю ў лічбавым свеце. Пацвярджаю звернутую да яе нашу дамоўленасць адносна бліжэйшага Сусветнага дня моладзі ў Мадрыдзе, падрыхтоўка якога адбываецца шмат у чым дзякуючы новым тэхналогіям. Малюся за працуючых у сродках масавай інфармацыі праз заступніцтва іх апекуна, святога Францішка Сальскага, просячы Бога, каб даў ім здольнасць выконваць іх працу заўсёды з вялікай добрасумленнасцю і руплівым прафесіяналізмам. Перадаю ўсім ім сваё апостальскае благаслаўленне.

*Ватыкан, 24 студзеня 2011 г., ва ўспамін святога Францішка Сальскага.*

*Падрыхтавала Ірына Бурак.*

# СВЯТАЯ АД ЦЕМРЫ



*Маці Тэрэзу яшчэ пры жыцці называлі святой, і не толькі католікі. Людзі падалі на калені і цалавалі яе зморшчаныя спрацаваныя далоні. Яны бачылі ў ёй жывы вобраз Бога на зямлі і прамень Яго любові. «Маліцеся за мяне», — з усмешкаю прасіла яна кожнага, хто паціскаў яе заўжды цёплую далонь.*

*Толькі калі ў 2003 годзе яна была аб'яўленая благаслаўлёнай, сталі вядомыя таямніцы яе духоўнага жыцця: містычныя аб'яўленні і адчуванне адсутнасці Бога, якое доўжылася 50 гадоў. Айцец Браян Каладзейчук, кіраўнік яе кананізацыйнага працэсу, дапускае, што з цягам часу маці Тэрэза «будзе прызнаная адным з найбольшых містыкаў Касцёла». У жніўні мінулага года споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння благаслаўлёнай маці Тэрэзы.*

### Малая ўлюбёная Езуса

26 жніўня 1910 года ў Скоп'е, сучаснай сталіцы Македоніі, у албанскай сям'і з Косава нарадзілася Гонджа Агнэс Баяджыў. Аднак сваім днём нараджэння яна лічыла 27 жніўня, калі атрымала хрост. «З дзяцінства Сэрца Езуса стала маёй першай любоўю, — узгадвала яна. — Ужо тады ўва мне была вялікая любоў да душаў». Першую Камунію дзяўчынка прыняла, калі не мела яшчэ і шасці гадоў, а ў дванаццаць яна ўжо вырашыла стаць місіянеркаю, каб «абвяшчаць Хрыстовае жыццё людзям у місійных краінах».

Каб ажыццявіць свае намеры, яна стала законніцаю, што было плёнам яе глыбокага сяброўства з Богам. «Я ні аднаго імгнення не вагалася, што зрабіла правільна, — тлумачыла яна. — Гэта была Божая воля. Гэта быў Яго выбар. У лісце, дасланым настаяцельцы Супольнасці Найсвяцейшай Марыі Панны (ларэтанак) дзяўчынка з надзвычайнай шчырасцю пісала: «Я скончыла пяць класаў сярэдняй школы, ведаю албанскую мову, якая з'яўляецца маёю роднаю, і сербскую мову, трошкі ведаю французскую. Ангельскай мовы я не ведаю зусім, але ўскладаю надзею на добрага Бога, што Ён дапаможа мне навучыцца ўсяму, што мне патрэбна, і таму адразу ж <...> пачынаю вучыцца. Я не маю асаблівых жаданняў, толькі хачу быць місіянеркаю, а ў астатніх справах да канца аддаюся добраму Богу».

«Падай Яму далонь і кроч толькі з Ім. Ідзі наперад, бо калі паглядзіш назад, вернешся», — сказала на развітанне маці, калі ў верасні 1928 года Гонджа паехала ў Ірландыю, каб там распачаць жыццё законніцы. У гонар святой Тэрэзы ад Дзіцятка Езуса, апякункі місійнай дзейнасці, яна атрымала імя Марыя Тэрэза.

Яна пажадала паехаць на місіі ў Бенгалію, і ўжо ў студзені 1929 года прыплыла ў Калькуту. Двухгадовы навіцыят яна прайшла ў Дарджылінгу ў гімалайскім перадгор'і. У 1931 годзе, склаўшы першыя шлюбы, сястра Марыя Тэрэза стала настаўніцаю ў дзявочай школе ў Калькуце. «Калі б ты магла ведаць, якая я шчаслівая, што з'яўляюся малою ўлюбёнаю Хрыста. Я цешуся паўнатою шчасця, нават калі цярплю дзеля майго Улюбёнага», — пісала яна сваёй сяброўцы. А ў лісце ў часопіс «Blagovijest» ў 1932 годзе законніца прызнавалася, што «жыццё місіянеркі не ўсланае ружамі, насамрэч, хутчэй цернямі, але пры ўсім гэтым такое жыццё напаўняецца шчасцем і радасцю, калі думаеш, што робіш тое, што рабіў Езус, калі жыў на зямлі».

### Смяялася часцей, чым пакутавала

Здаровы розум, пачуццё гумару, адвага, запал, малітоўны настрой, міласэрнасць — такімі цнотамі ахарактарызавалі сястру Тэрэзу, калі яна ў 1937 годзе складала вечныя шлюбы. «Якая я была шчаслівая, што па сваёй волі магу запаліць агонь пад сваёю ахвяраю. Цяпер я Ягоная, і гэта на ўсю вечнасць!» — адразу ж запісала яна. Аднак пра яе глыбокую еднасць з Хрыстом ведалі толькі спаведнікі.

Яна прызнавалася ў лісце свайму быломў пробашчу са Скоп'е, айцу Франьё Ямбрэковічу, што хоць і «з'яўляецца шчаслівейшай, чым калі-небудзь», усё часцей ёй спадарожнічае цемра. «А калі ноч становіцца вельмі цёмнаю, і мне здаецца, што я апынуся ў пекле, тады я проста ахвяруюся Езусу. Калі Ён хоча, каб я была там, — я гатовая, але толькі пры ўмове, што гэта сапраўды зробіць Яго шчаслівым. Аднак <...> няхай

айцец не думае, што я толькі пакутую. О не, я смяюся часцей, чым пакутую, так што некаторыя прыйшлі да высновы, што я распешчаная ўлюбёная Езуса, якая жыве з Ім у Назарэце, далёка ад Кальварыі».

Тады яна першы раз распавяла пра цемру, якая праяўлялася ў адчуванні адсутнасці Бога і балючага суму па Ім, аж да духоўнай сухасці. Бог паволі вёў яе да этапу містычнага жыцця, які Ян ад Крыжа называў «цёмнаю ноччу»: «ноччу пачуццяў» і «ноччу духа», праз якія Бог ачышчае чалавека ад духоўнай недасканаласці.

«Я хачу належаць толькі Езусу — сапраўды, а не толькі паводле наймення і ўбору, — запэўнівала сястра Тэрэза. — Часта атрымліваецца наадварот, так, што маё правялебнае "я" займае найважнейшае месца. Тая ж самая, поўная пыхі Гонджа. Толькі адно змянілася: мая любоў да Хрыста, я ўсё аддала б дзеля Яго, нават сваё жыццё».

Сястра Тэрэза скардзілася на сваю пыху, з якою яна змагалася, а ў гэты ж час сёстры з супольнасці дзівіліся яе... пакоры. «Я думаю, што Езус вельмі любіць сястру Тэрэзу. Я бачу, як яна штодня імкнецца прынесці Яму радасць. У яе шмат працы, але яна не шкадуе сябе. Яна надзвычай пакорная. Ёй дорага каштавала дасягнуць гэтага, але мне здаецца, што Бог выбраў яе для вялікіх справаў. Сапраўды, яна робіць самыя звычайныя рэчы, але дасканаласць, з якою яна іх робіць, — гэта менавіта тое, чаго чакае ад нас Езус», — пісала ў 1937 г. сястра Габрыэль.

Адною з такіх «звычайных рэчаў» было наведванне ўбогіх у трушчобах Калькуты. Сястра Тэрэза хадзіла туды кожную нядзелю. «Я не магу дапамагчы ім, бо нічога не маю, але я іду даваць ім радасць», — распавядала яна ў лісце ў часопіс «Katolicke Misije» ў 1937 годзе, узрушаная крайнім убоствам жыхароў трушчобаў. «Я бачыла, якія яны шчаслівыя, што я наведваю іх». Адна з такіх убогіх кабетаў папрасіла: «Прыходзь яшчэ! Твая ўсмешка прывяла сонца ў гэты дом!». Вяртаючыся ў кляштар, сястра Тэрэза малілася: «Божа, як лёгка мне зрабіць іх шчаслівымі! Дай мне моц, каб я заўжды была святлом ў іх жыцці і такім чынам вяла іх да Цябе!» Ці прадчувала яна тады, што праз 11 гадоў аддасць ім усё сваё жыццё?

### Ні ў чым не адмаўляць Яму

У красавіку 1942 года са згоды спаведніка сястра Тэрэза склала прыватны шлюб. Яна ўзяла на сябе абавязак «даць Богу ўсё, аб чым Ён папросіць, — ні ў чым Яму не адмаўляць». Праз многія гады яна зразумела, што хацела ахвяраваць Богу «што-небудзь вельмі прыгожае» і «без умоваў» казаць Яму «так» у кожнай сітуацыі, каб не вызначаць межаў для Ягоных планаў. Яна тлумачыла: «Чаму мы павінны да канца аддаваць сябе Богу? Бо Ён аддаў сябе нам. Калі Бог, які нічым нам не абавязаны, гатовы аддаць нам не менш, чым сябе самога, то ці можам мы адказаць Богу, аддаўшы сябе Яму часткова? Аддаваць сябе да канца — гэта спосаб прыняць самога Бога. Я для Бога, а Бог для мяне. Я жыву для Бога і адмаўляюся ад свайго "я", і такім чынам раблю так, што за мяне жыве Бог. Таму, каб атрымаць Бога, мы павінны дазволіць Яму атрымаць нашую душу». Сястра Тэрэза хацела адказаць любоўю на Божую любоў.

«Калі я бачу, што хтосьці з вас сумуе, — казала яна законніцам, — мне заўжды здаецца, што гэта па той прычыне, што вы ў нечым адмаўляеце Езусу». Яна была перакананая: калі, яднаючыся з Богам, забыць пра сябе, нараджаецца лагода духу, а «той, хто мае гэты дар лагоды духу, вельмі часта дасягае высокага ўзроўню дасканаласці».

Паколькі яна да канца ахвяравала сябе Богу, то верыла, што і Ён ні ў чым ёй не адмовіць. Падчас голаду ў Бенгаліі ў 1942–1943 гадах сёстры і іх вучаніцы таксама пакутавалі ад недахопу ежы. Аднойчы а восьмай раніцы с. Тэрэза сказала: «Дзеці, я пайду, а вы заставайцеся ў капліцы і маліцеся». Каля чацвёртай гадзіны дня кладоўка была поўная рознай гародніны. Сёстры і дзяўчаты не маглі паверыць сваім вачам. Такім жа чынам і падчас узброеных хваляванняў у Калькуце ў 1946 годзе, не зважаючы на ўласную бяспеку, сястра Тэрэза пайшла на пошукі ежы і атрымала ад жаўнераў мяхі з рысам. Яна адчувала сябе адказнаю за 300 дзяўчат, тым больш, што з 1944 года была дырэктарам школы. Апрача таго, яна кіравала звязанаю з кангрэгацыяй ларэтанак бенгальскаю супольнасцю дачок святой Ганны.

«Яна цалкам вольная ад эгаізму. <...> У імя любові да Бога яна здольная зрабіць усё, перанесці любую знявагу і боль», — здзіўлялася адна з ларэтанак.

### Містычны досвед

Крок за крокам Бог рыхтаваў яе да яшчэ больш значнай місіі. Вяртаючыся цягніком з рэкалекцый з Дарджылінгу ў Калькуту 10 верасня 1946 года, сястра Тэрэза перажыла містычную сустрэчу з Хрыстом: «Я пачула заклік пакінуць усё і пайсці за Ім у трушчобы, каб служыць Яму сярод найбяднейшых з бедных». З часам яна стала лічыць гэты дзень пачаткам стварэння Супольнасці сясцёр місіянерак любові.

Да паловы 1947 года сястра Тэрэза размаўляла з Езусам, які называў яе сваёй малой улюбёнай. Ён прасіў: «Прынясі Мяне ў сховішчы тых бедакоў. Ідзі,

будзь Маім святлом». «Мне патрэбныя законніцы з Індыі, ахвяры Маёй любові, якія будуць Марыяй і Мартай, якія так моцна з'ядноюцца са Мною, што будуць распраменьваць Маю любоў на душы. <...> Ці ты адмовіш Мне ў гэтым?» — пытаўся Езус.

Хрыстус умацоўваў яе: «Ты прыехала ў Індыю дзеля Мяне. <...> Ты будзеш насіць звычайнае індыйскае адзенне, відаць, такое, якое насіла Мая Маці: простае і ўбогае. <...> Тваё сары стане святым, бо будзе Маім сімвалам. <...> Мне патрэбныя законніцы з Індыі, місіянеркі любові, якія стануць Маім агнём любові сярод бедных, хворых, паміраючых. <...> Не бойся, Я заўжды буду з табою. <...> Дазволь Мне дзейнічаць. Не адмаўляй Мне. Даверся Мне з любоўю, давярай Мне ўсляпую». Такім чынам, гэта не маці Тэрэза прыдумала назву і хабіт сваёй супольнасці. Усё гэта яна пачула ад Езуса.

«Усе лічаць, што я страціла розум, — пасля столькіх гадоў распачынаць штосьці, што пераважна прынясе мне толькі пакуты», — звярталася яна ў студзені 1947 года да арцыбіскупа Калькуты Фердынанда Пер'е. Але калі Езус паклікаў яе «быць індускаю, жыць з імі, як яны, так, каб трапіць людзям у сэрцы», яна прагнула «сапраўды быць толькі Ягонай, згарэць дарэшты дзеля Яго і дзеля душаў».

Сястра Тэрэза размаўляла пра гэта са сваім спаведнікам айцом Сэлестам ван Эксэмам. Іх доўгія і частыя сустрэчы здаліся ў кляштары падазронымі. У палове студзеня 1947 года сястру Тэрэзу накіравалі з Калькуты ў Асансол, які знаходзіўся за 220 кіламетраў. Там яна працавала настаўніцаю хіндзі, бенгальскай мовы, гігіены і геаграфіі. Аднак ужо ў ліпені гэтае рашэнне было перагледжанае, і сястра Тэрэза вярнулася ў Калькуту.

Яна выкарыстала гэты час для таго, каб падрыхтаваць статут новай супольнасці. Задачаю сясцёр павінна было стаць «заспакаенне прагнення Езуса Хрыста на крыжы, прагнення любові і душаў». «"Прагну", — тлумачыла сястра Тэрэза, — гэта нашмат глыбейшае слова, чым калі б Езус сказаў проста "люблю вас". Пакуль вы не ўведаеце надзвычайна асабістым чынам, што Езус прагне вас, вы не зможаце пазнаць ні таго, кім Ён хоча быць для вас, ні таго, кім Ён хоча, каб вы сталі дзеля Яго».

«Дзякуючы чатыром шлюбам поўнага ўбоства, чыстасці, паслухмянасці і любові да ўбогіх нястомна супакойваць прагненне Бога сваёю любоўю і любоўю душаў, якіх вядуць да Яго», — такімі словамі тлумачылася першая канстытуцыя супольнасці.

Спачатку сёстры павінны былі «несці Хрыста ў дамы і на вуліцы трушчобаў», да хворых, паміраючых, жабракоў і «дзяцей вуліцы». З часам мэта існавання супольнасці пашырылася: гэта была «праца збаўлення і асвячэння найбяднейшых з бедных не толькі ў трушчобах, але і паўсюдна ў свеце, дзе толькі магчыма». Місіянеркі любові павінны клапаціцца пра тых, хто «пакутуе не толькі з-за недахопу ежы, лекаў, адзення і даху над галавою, але і з-за недахопу ўсмешкі, добрага слова і ад адзіноты», — кажа цяперашняя генеральная настаяцелька супольнасці сястра Прэма П'ерык. Айцец Браян Каладзейчук тлумачыць, што гэта азначае «нястомныя высілкі для таго, каб несці дапамогу кожнаму чалавеку, каб ён сустрэўся з бясконцай любоўю Бога і, пазнаўшы Яго, любіў Яго і служыў Яму, і праз гэта дасягнуў шчасця ў небе».

Сёстры павінны былі рабіць гэта, «ідучы да людзей, апякуючыся хворымі ў іх хатах, дапамагаючы паміраючым паяднацца з Богам, маючы невялікія бясплатныя школы для дзяцей з трушчобаў, наведваючы ўбогіх у шпіталях, дапамагаючы жабракам весці годнае жыццё. <...> Калі колькасць сясцёр дазволіць гэта, яны арганізуюць дом для калекаў, сляпых, людзей, адкінутых грамадствам».

У жніўні спаведнік сястры Тэрэзы пісаў арцыбіскупу: «Наш Пан узнёс гэтую законніцу да найвышэйшага стану малітвы, можа, і не меў месца стан экстазу, але быў дасягнуты стан, які наўпрост экстазу папярэднічае». Яна сама прызнала, што ў Асансолі наш Пан быццам проста аддаў ёй сябе дарэшты. Яна спазнала слодыч і суцяшэнне, і гэтыя шэсць месяцаў прамінулі надзвычай хутка. Сястра Тэрэза стала на парог еднасці з Богам — вяршыню духоўнага жыцця.

Тады ж выявілася эўхарыстычная рыса яе духоўнасці, характэрная для місіянерак любові: «Часам Найсвяцейшы Сакрамэнт вельмі прыцягваў мяне. Я не магла дачакацца святой Камуніі. Ноч за ноччу сон пакідаў мяне, і я праводзіла гэтыя гадзіны ў чаканні Яго прыйсця. Гэта пачалося ў Асансолі ў лютым, а цяпер кожную ноч праз гадзіну або дзве <...> тое самае прагненне перапыняе мой сон».

### У белым сары

Сястра Тэрэза з нецярплівасцю чакала згоды Касцёла на стварэнне новай супольнасці. «Калі гэтая справа будзе толькі чалавечай, яна памрэ разам са мною, калі ж яна будзе толькі Ягонай, будзе жыць праз вякі. Тым часам душы ідуць да згубы», — пісала яна ў лістах арцыбіскупу, спасылаючыся нават на энцыкліку папы Пія XII «Quemadmodum» 1946 года, дзе ён прасіў аб «апецы свету над дзецьмі, якія жывуць ва ўбо-

стве». «Я прашу дазволіць мне хутчэй пайсці. Са мною нічога не станецца, толькі тое, што Ён падрыхтаваў у сваёй вялікай міласэрнасці», — пераконвала законніца. «Яе логіка была логікаю, сканцэнтраванай на Богу, была даверам і ўпэўненасцю», — каментуе айцец Каладзейчук.

6 студзеня 1948 года арцыбіскуп Пер’е паведаміў сястры Тэрэзе: «Шлях вольны». Яна адразу ж павінна была прасіць аб вызваленні ад законніцкіх шлюбаў у ларэтанак. Іх генеральная настаяцелька, маці Гертруда Кенэдзі, надзвычай хутка на гэта згадзілася, але ў жніўні з ватыканскай Кангрэгацыі законнікаў прыйшла навіна, што Папа дазволіў ёй толькі часова пакінуць кляштар.

Ужо 17 жніўня сястра Тэрэза ў белым сары з блакітнаю стужкай і пяццю рупіямі ў кішэні паехала ў шпіталь у Патне, каб навучыцца медыцынскай апецы. Апісанні хваробаў і метады іх лекавання яна запісвала ў нататнік побач з кулінарнымі рэцэптамі і адрасамі патэнцыяльных дабрачынцаў.

Вярнуўшыся ў Калькуту, яна наняла пакой у Супольнасці малых сясцёр ад убогіх і 21 снежня першы раз пайшла ў трушчобы ў якасці місіянеркі любові. З дапамогаю валанцёраў яна наведвала сем’і, прыносіла хворым лекі, абмывала раны, чувала пры паміраючых. Яе сталі называць сястрою з трушчобаў. Праз два месяцы яна змагла наняць для супольнасці цэлы паверх у прыватным доме. Некалькі яе былых вучаніц зацікавіліся новаю працаю сястры Тэрэзы. У сакавіку ў яе ўжо з’явілася таварышка: бенгалка Субашыні Дас, будучая сястра Агнэс. Праз год новая супольнасць мела 12 сёстраў. Яны маглі ўжо заснаваць сваю амбулаторыю і нядзельную школу для дзяцей з трушчобаў.

7 кастрычніка 1950 года арцыбіскуп Пер’е са згоды Апостальскай Сталіцы зацвердзіў новую супольнасць, генеральнаю настаяцелькай якой стала маці Тэрэза. Яе «пакліканне ў пакліканні», як яна часта казала, было пацверджанае Касцёлам. У красавіку наступнага года першая група сясцёр распачала навіцыят. У 1952 годзе яна здолела адчыніць побач з індуісцкаю святыняю Калі Дом чыстага сэрца (Nirmal Hriday) для паміраючых, якіх сёстры забіралі з вуліцаў. Хуткае развіццё супольнасці прывяло да таго, што праз паўгода 26 сясцёр пераехалі ў будынак, які дагэтуль з’яўляецца мацярынскім домам місіянерак любові.

### Нясенне крыжа

«Калі здавалася, што ўсё ўжо ўладкавана, распачаліся найгоршыя пакуты», — піша айцец Каладзейчук. На пачатку 60-х гадоў маці Тэрэза сказала айцу езуіту Юзафу Нойнеру, што дзесьці з 1949–1950 года яна перажывае «страшнае пачуццё пусткі, такой неапісальнай цемры, такой самоты, такога няспыннага суму па Богу, які выклікае боль у самай глыбіні сэрца. Цемра такая, што я сапраўды нічога не бачу ні сэрцам, ні розумам. Месца Бога ў маёй душы апусцела. Ува мне няма Бога. Калі боль прагнення Бога такі вялікі, што я проста сумую і сумую па Ім, і тады я адчуваю, што Ён мяне не хоча, Яго тут няма. Часам я проста чую, як маё сэрца крычыць: “Мой Божа”, і нічога не адбываецца. Гэта пакуты і цярпенні, якіх я не магу растлумачыць».

Яе цемра «павялічвалася, гусцела і не знікала». Сымонамі Кірэнэйскімі на крыжовым шляху маці Тэрэзы сталі яе духоўныя кіраўнікі. Дзякуючы іх дапамозе яна зразумела, што пачуццё адсутнасці Бога, якое прыйшло пасля містычных узлётаў, — гэта яе ўдзел у пакутах Хрыста, які на крыжы ўсклікаў: «Божа Мой, чаму Мяне пакінуў?» (Мц 27, 46). Айцец Каладзейчук сцвярджае: «Гэта была частка служэння, якая найбольш вымагала ад яе і была найдасканалейшым узорам яе любові да Бога і Яго ўбогіх. Акрамя клопату аб прыніжаных і адкінутых грамадствам людзях, яна хацела ўвайсці ў іх фізічныя і духоўныя пакуты, прыняць іх стан, быць “непажаданаю, нялюбаю, адкінутаю”, быць тым, у каго нікога няма». У гэтых людзях яна бачыла Хрыста, які прагнуў любові і збаўлення кожнага чалавека, і гэтае прагненне яна заспакойвала. Справа маці Тэрэзы знаходзілася на падмурку «еднасці з Тым, хто, паміраючы на крыжы, адчуваў сябе пакінутым Айцом», — дадае айцец Нойнер.

«Такая моцная і доўгая духоўная агонія магла расчараваць маці Тэрэзу, аднак яна, наадварот, прамянілася незвычайнаю радасцю і любоўю <...> , бо будавала сваё жыццё на чыстай веры», — падкрэслівае айцец Каладзейчук.

Але гэтая бесперастанная «ўнутраная агонія» не аслабіла яе дзейнасці. «У штодзённым жыцці яна была добразычліваю, у працы — нястомнаю. <...> Адораная незвычайнымі здольнасцямі кіраўніка, яна займалася сёстрамі, засноўвала новыя супольнасці, набывала вядомасць, але ўнутры адчувала поўную пустку», — гаворыць айцец Нойнер.

### Аловак у Божай руцэ

Па словах айца Каладзейчука, маці Тэрэза «была перакананая, што Бог карыстаецца яе “мізэрнасцю”, каб паказаць сваю веліч. Ніколі яна не лічыла ўласныя дасягненні сваімі і заўжды імкнулася звярнуць сваю ўвагу на Бога і “Яго справы” сярод самых убогіх».

«Я толькі Яго інструмент.

Дзеля чаго столькі пра мяне, калі ўся справа толькі Ягоная? Я не маю на яе ніякіх правоў. Я атрымала яе ў дар», — пісала маці Тэрэза арцыбіскупу Пер'е ў 1957 годзе. Ёй было балюча, калі людзі называлі яе заснавальніцаю. «Усё належала Яму, я павінна была толькі згадзіцца з Яго планам, Яго воляю. Сёння Яго справа расце, бо гэта Ён, а не я дзейнічае праз мяне», — тлумачыла яна ў 1960 годзе. А прамаўляючы ў 1979 годзе ў Рыме, маці Тэрэза засведчыла: «Я вельмі часта адчуваю, што з'яўляюся малым алоўкам у Божай руцэ. Гэта Ён піша, Ён думае, Ён рухае гэтаю справаю, а я павінна толькі быць алоўкам».

«Аднак жа Божы Провід не хацеў, каб яна засталася незаўважанаю», — каментуе айцец Каладзейчук. Супольнасць развівалася надзвычай хутка. Неўзабаве яна пашырылася на тэрыторыю ўсёй Індыі, а ў 1965 годзе ўзнік першы дом за мяжою, у Венесуэле. У 1982 годзе падчас аблогі Бейрута маці Тэрэза ўратавала 37 дзяцей са шпіталю, які знаходзіўся на лініі фронту. Яна несла дапамогу галадаючым у Бейруце, ахвярам выбуху ў Чарнобылі і землятрусу ў Арменіі. З 1957 года яна апекавалася псіхічна хворымі, а з 1985 года — хворымі на СНІД.

У 1963 годзе яна стварыла Супольнасць братоў місіянераў любові. Для шматлікіх супрацоўнікаў ва ўсім свеце яна стварыла разам з ксяндзом Себасцьянам Важакалам рух свецкіх місіянераў любові, а для святароў — рух Corpus Christi. У 1984 годзе разам з айцом Юзафам Лэнгфардам яна стварыла Супольнасць айцоў місіянераў любові.

Ствараючы і наведваючы дамы сясцёр, маці Тэрэза аб'ехала ўвесь свет. Яна выдала кнігу «Просты шлях», якая стала бестселерам. У 1986 годзе яна прымала ў Калькуце папу Яна Паўла ІІ. Маці Тэрэза атрымала шмат узнагародаў, найбольш прэстыжная з якіх — Нобелеўская прэмія міру ў 1979 годзе. Да яе заўжды ставіліся як да вельмі значнай асобы, але, на ўзор святой Тэрэзы з Ліз'ё і яе «малога шляху» Божага дзяцінства, маці Тэрэза пераконвала: «Не шукайце вялікіх рэчаў, а рабіце малыя рэчы з вялікай любоўю. <...> Чым меншая рэч, тым большая павінна быць нашая любоў». Усё, што рабіла, яна лічыла магчымасцю паказаць сваю любоў да Бога.

Кожны дзень яна пачынала ў цішыні з адарацыі Езуса ў Эўхарыстыі. Маці Тэрэза выпрацавала свой «малы шлях»: «Плёнам цішы з'яўляецца малітва. Плёнам малітвы з'яўляецца вера. Плёнам веры з'яўляецца любоў. Плёнам любові з'яўляецца служэнне. Плёнам служэння з'яўляецца супакой». Найбольшай пагрозаю для супакою яна лічыла аборты. «Калі мы можам прыняць тое, што маці забівае сваё дзіця, як мы можам казаць людзям, каб яны не забівалі іншых людзей?» — задавала яна рытарычнае пытанне. Маці Тэрэза прасіла, каб кожнае непажаданае дзіця магло ўсё ж нарадзіцца, бо сёстры былі гатовы прыняць яго.

### Адсутная ў небе

За некалькі месяцаў да смерці маці Тэрэза адмовілася ад кіравання супольнасцю. Яна станавілася ўсё слабейшаю, лёгкія і сэрца адмаўляліся слухацца, яна была вымушаная рухацца на інваліднай калясцы. Маці Тэрэза доўга ляжала ў шпіталях, перанесла некалькі аперацый. Яна пакутавала ад згрызотаў сумлення, калі праходзіла дарагія дыягнастычныя даследаванні і тэрапію, бо яе не маглі прайсці ўбогія, якімі яна апекавалася. Маці Тэрэза прасіла: «Дазвольце мне памерці так, як паміраюць найбяднейшыя».

Яна памерла ў атачэнні сясцёр у Калькуце 5 верасня 1997 года. Пасля ўрачыстага пахавання, калі на вуліцах горада яе сабраліся ўшанаваць 1,5 мільёна чалавек, цела маці Тэрэзы спачыла ў капліцы мацярынскага Дому місіянерак любові. На дзвярах будынка цяпер знаходзіцца драўляная шыльда з надпісам: «*Mother Teresa M.C. in*» — «Маці Тэрэза тут».

Калі яна памірала, да супольнасці належалі 4 тысячы сясцёр у 560 дамах. Цяпер гэтых дамоў больш за 750 у 130 краінах, у іх працуюць 5,2 тысячы законніцаў. Моц уплыву маці Тэрэзы не аслабла і пасля яе смерці. «Яна — нашая сяброўка і заступніца ў небе, побач з Богам», — кажа сястра Прэма.

«"Ідзі, будзь Маім святлом", — пажадаў Езус, і маці Тэрэза здолела быць гэтым святлом Божай любові ў жыцці людзей, якія жывуць у цемры. Аднак цаною, якую яна парадаксальна і зусім нечакана павінна была заплаціць за ажыццяўленне гэтага паклікання, стала тое, што маці Тэрэза сама жыла ў "страшнай цемры"», — заўважае айцец Браян Каладзейчук.

А сама маці Тэрэза так казала пра гэта: «Калі я раптам буду святою, я пэўна буду святою "ад цемры". Я заўжды буду адсутнічаць у небе, каб запальваць святло для тых, хто жыве ў цемры на зямлі».

*Павел Бяліньскі.*

*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*

*Большасць цытатаў узятая з кнігі: «Маці Тэрэза, "Ідзі, будзь Маім святлом". Прыватныя лісты "Святой з Калькуты"» (апр. Б. Каладзейчук), Кракаў, 2008.*



Нікола Пізано.
Звеставанне, Нараджэнне Хрыста і пакланенне пастухоў.
Баптыстэрый катэдры саборнага комплексу. 1257–1260 гг., мармур. Піза.

# Нікола Пізано. Звеставанне, Нараджэнне Хрыста і пакланенне пастухоў

Італьянскі навуковец Бэнвэнуто Супіно панегірычна пісаў пра пізанскага майстра: «Ніколу Пізано можна справядліва вызначыць як першага рэфарматара мастацтва. Ён займае ў скульптуры тое ж месца, якое ў жывапісе займае Джотто, а ў літаратуры Дантэ»[1]. Імя і творы майстра звязаны з пачаткам новай эпохі ў італьянскім мастацтве, якая атрымала назву Протарэнесанс (Перадрэнесанс) і была велічнай прэлюдыяй да магутнай стыхіі Адраджэння.

З біяграфіі рэвалюцыянера ў пластыцы вядома мала. Мяркуецца, што Нікола Пізано (1215/1220–1278/1284) нарадзіўся ў паўднёва-італьянскім рэгіёне Пуліі, бо ў некалькіх дакументах яго згадваюць як «maestro de Apulia». Невядома таксама, дзе і ў каго ён вучыўся. У 1247 годзе ён упершыню згадваецца ў дакументах рэгіёна Тасканы, але ўжо як паспяховы майстар, які кіруе шматлікімі вучнямі ўласнай майстэрні і працуе ў Сіене і Пізе. Біёграфы мяркуюць, што з поўдню ў цэнтральную Італію Нікола пераехаў на загад волі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фэдэрыка (Фрыдрыха) II, які накіраваў у Таскану шэраг паўднёва-італьянскіх майстроў. Імператарскі загад аказаўся лёсавызначальным — Нікола стаў роданачальнікам знакамітай дынастыі скульптараў, якія ўславілі ягоную новую радзіму — Пізу і ўсю Таскану.

...Калі набліжаешся да сусветна вядомага горада, чакаеш сустрэчы перш за ўсё з пізанскімі шэдэўрамі — комплексам гарадскога сабора і пластыкай сям'і Пізано. І вось за акном вагона праплывае катастрафічна нахіленая Вежа, студэнты мясцовага ўніверсітэта вясёлай грамадой тоўпяцца каля выхаду... Salve, Pisa!

Пізанскі комплекс з'яўляецца адным з найбольш яркіх прыкладаў раманскага архітэктурнага стылю ў Італіі. Раманіка мае ў італьянскім мастацтве непаўторны характар і зусім не падпарадкоўваецца агульным прынцыпам, паводле якіх вызначаецца гэтая стылістычная мова ва ўсёй Еўропе: магутныя муры пабудоваў, мінімум пластычнага афармлення і праёмаў у сценах, агульная суровасць вобраза. У многіх краінах (у тым ліку і ў Беларусі) храмы служылі таксама і як абарончыя пабудовы. Сабор, баптыстэрый (хрысцільня) і вежа ў Пізе пярэчаць гэтым прынцыпам. Лёгкія аркады дамінуюць у знешнім выглядзе трох частак ансамбля. Архітэктурная мелодыя ансамбля радасная, светлая, дынамічная. Нікола Пізано і ягоная майстэрня шмат працавалі над пластычным афармленнем архітэктурнага ансамбля. Працавалі ў ключы італьянскай раманікі. Тым больш дзіўна, што менавіта тут майстар Нікола зрабіў адзін з першых крокаў да Рэнесанса. Але мастацкая творчасць, як вядома, не паддаецца фармальнай логіцы.

Катэдра ягонага разца знаходзіцца ў будынку баптыстэрыя і ўладарна дамінуе ў інтэр'еры. Ідэю агульнай кампазіцыі катэдры Пізано прывёз з роднай Пуліі, дзе яшчэ раней ствараліся касцёльныя катэдры падобнай формы. Верхняя частка — пяціграннік — абапіраецца на пяць калонаў. Калона падтрымлівае таксама цэнтр верхняй часткі катэдры. Тры бакавыя калоны стаяць на плячах фігураў львоў. База цэнтральнай калоны больш статычная паводле сваёй кампазіцыі. Аркі, на якіх трымаецца верхняя частка катэдры, маюць форму гатычнага трылістніка, тонкія, але напружаныя лініі якога надаюць агульнай архітэктурнай кампазіцыі дзіўную лёгкасць. На самым верхнім ярусе пяцігранніка грані вызначаюцца пучкамі паўкруглых пілястраў, а ніжэй, на ўзроўні аркадаў — фігуркамі, што сімвалізуюць дабрадзейнасці. Капітэлі калонаў пышныя, багатыя па пластыцы. Цэльная кампазіцыя атрымала-

ся вельмі складаная, нават шматслоўная. Колеравыя эфекты — гама мармураў белага і карычнявых адценняў з пражылкамі — узмацняюць гэтую складанасць.

Здаецца, яшчэ крыху — і гармонія будзе парушана пад цяжарам шматлікіх дэталяў. Але Нікола Пізано знаходзіць раўнавагу і завяршае кампазіцыю ў адзінай плыні формы. Ягонае імя абяссмерцілі вялікія рэльефы з белага мармуру. Як напісаў пра гэта вялікі італьянскі мастацтвазнаўца Адольфо Вэнтуры: «Пышнасць мазаічных плакетак альбо бела-чорную мармуровую разьбу ён замяняе інтэнсіўнай скульптурнай насычанасцю, ствараючы на плітах вяршыні катэдры рэльефы з увасобленымі на іх грандыёзнымі вобразамі»[2].

З пяці рэльефаў катэдры кампазіцыя «Звеставанне, Нараджэнне Хрыста і пакланенне пастухоў» найбольш наватарская па сваёй пластыцы. У рэльефе злучаны тры тэмы, якім «цесна» ў рамках твора, але майстар паспявае распавесці пра вельмі многае ў сваім пластычным апавяданні. У ніжняй частцы рэльефа паказаны авечкі на пашы, жанчыны, якія мыюць нованароджанае Дзіця, а побач з імі сядзіць св. Юзаф. Маленькія па маштабах фігуры з'яўляюцца толькі прэлюдыяй да асноўных дзеяў. У левай частцы кампазіцыі Арханёл звяртаецца да Мадонны з добрай весткай. Яна ўсхвалявана прыціскае руку да грудзей, лініі хусты на галаве Мадонны ўзмацняюць напружаныя дыяганалі. Фігуру Арханёла майстра «падгледзеў» у рымскіх рэльефах, якія ён вывучаў у Вечным горадзе. Так уладарна ўзвышаюцца імператары ў творах антычных скульптараў. Велічная статыка гэтай фігуры рэзка кантрастуе з поўнай дынамікі выявай Мадонны. Скульптар не пабаяўся запоўніць інтэрвал паміж фігурамі Анёла і Мадонны выявай франтона будынка. Такім чынам, у кампазіцыі ёсць і архітэктура, і дрэвы на дальнім фоне, і паша, і інтэр'ер хлява — кампазіцыйнае і сюжэтнае мысленне скульптара яшчэ цалкам сярэднявечнае.

Нямецкі мастацтвазнаўца Георг Сварцэнскі так перадае сваё захапленне творам майстра Нікoлы: «Тут знаходзіш нешта, што шукаеш, і цябе ахоплівае радасць. Гаворка ідзе пра класічную прыгажосць, антычную форму і гармонію, алімпійскую веліч. Можна нават гаварыць пра «сапраўды грэчаскі дух»!»[3]. Такога прарыву ў антычную мінуўшчыну, якой натхняецца Нікола Пізано, у еўрапейскім мастацтве не было амаль тысячу гадоў. Пасярод раманскага і гатычнага стылю, які пануе ў Пізанскім ансамблі, менавіта скульптура апынаецца ў авангардзе мастацкага развіцця. Не трэба забывацца, што эпоха Адраджэння (Рэнесанс) у свядомасці яе сучаснікаў успрымалася перш за ўсё як адраджэнне антычных ідэалаў і мастацкіх формаў. Менавіта Нікола Пізано адкрыў гэты новы шлях для тысячаў еўрапейскіх творцаў. Ягоныя адкрыцці не былі прынятыя адразу, але менавіта ён быў стваральнікам вялікіх рэформаў, высока ўзняўся над сваім часам.

Галоўнай у рэльефе з'яўляецца фігура Мадонны (мастак паўтарае Яе выяву), якая ляжыць каля Немаўляткі, што спіць у яслях. Георг Сварцэнскі ў выніку глыбокіх даследаванняў знайшоў прататыпы, на якія абапіраўся скульптар. Гэта была рымская антычная пластыка. Больш за тое, даследчык дэманструе ў сваёй манаграфіі рэпрадукцыю надмагільнай этрускай скульптуры, якая амаль дакладна паўтарае агульнае рашэнне жаночай фігуры нават у дробных дэталях. А этрускае мастацтва сапраўды можна назваць «протаантычным» — на ім узрастала мастацтва Рыма. Падобную выяву галавы Мадонны Георг Сварцэнскі знаходзіць таксама ў гатычнай пластыцы Рэймскага сабора ў Францыі. Універсалізм творчых памкненняў, прагнае засваенне творчай спадчыны ў нябачанай дагэтуль шырыні і шматаблічнасці сведчыць аб рэнесанснай смеласці майстра.

Мадонну пізанскага рэльефа звычайна параўноўваюць з вывамі рымскіх матронаў. Трактоўка складак Яе мантыі па стылістыцы выразна антыкізаваная. Горда ўзнятая галава ўражвае строгай прыгажосцю рысаў. Але гэта не проста фармальны эксперымент творцы: Нікола Пізано знаходзіць у класічных формах сваю мову для ўслаўлення Марыі — нябеснай Валадаркі.

На працягу наступных стагоддзяў мастакі безліч разоў звярталіся да антычнай мінуўшчыны, на ўспамінах пра якую ствараліся розныя стылістычныя плыні. Але, нягледзячы на маштабы і яркасць гэтых з'яваў, у сэрцы застаецца той першы гімн адраджэння антычнасці, які прагучаў у пізанскім баптыстэрыі і назаўжды застыў на рэльефах ягонай катэдры.

*Валеры Буйвал*

[1] Benvenuto Supino I. Arte pisana. — Firenze, 1904. – С. 47.

[2] Venturi A. L'arte italiana. Disegno storico. — Bologna, 1928. – С. 71.

[3] Swarzenski G. Nicolo Pisano. — Frankfurt am Main, 1926. – С. 17.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XLVII**

*Пра таго святога брата, якому падчас хваробы з'явілася Мадонна з трыма кубкамі цудадзейнай ежы*

У вышэйзгаданым кляштары Саф'яна з даўніх часоў жыў адзін меншы брат такой вялікай святасці і ласкі, што ўвесь ён здаваўся боскім, і часта быў захоплены Богам. Аднойчы, калі гэты брат, маючы асаблівую ласку сузірання, стаяў увесь захоплены і ўзняты Богам, прыляцелі да яго розныя птушкі і, нібы прыручаныя, селі яму на плечы, на галаву, на рукі і дзівосна спявалі. Ён быў вельмі самотны і рэдка гаварыў, але калі яго пыталіся пра што-небудзь, то адказваў так далікатна і мудра, што здаваўся хутчэй Анёлам, чым чалавекам, і валодаў моцнай малітвай і сузіраннем, а браты яго вельмі шанавалі.

Калі гэты брат завяршаў шлях свайго дабрадзейнага жыцця, то згодна з воляю Божай смяротна захварэў, так, што не мог нічога есці, а таму адмаўляўся ад усялякага цялеснага лячэння, але ўвесь яго давер быў скіраваны да лекара нябеснага Езуса Хрыста благаслаўлёнага і да Яго благаслаўлёнай Маці, і ад Яе ён атрымаў боскую літасць ласкавага наведвання і суцяшэння. Аднойчы, калі ляжаў ён у ложку і рыхтаваўся да смерці ўсім сваім сэрцам і ўсёй сваёй пабожнасцю, з'явілася яму слаўная і шчасная Маці Хрыстова Панна Марыя з вялікім мноствам анёлаў і святых паннаў у цудоўным ззянні, і наблізілася да яго ложка. І пакуль ён глядзеў на Яе, то ахапілі яго вялікае суцяшэнне і радасць, як душу, так і цела, і пачаў ён пакорліва Яе маліць, каб папрасіла Яна свайго ўлюбёнага Сына сваім апякунствам вызваліць яго з турмы вартага жалю цела. І так працягваў ён маліцца з моцнымі слязьмі, але Панна Марыя, звярнуўшыся да яго па імені, сказала яму: «Не сумнявайся, сын Мой, бо Ён пачуў тваю просьбу, а Я прыйшла для таго, каб крыху суцешыць цябе перад тым, як ты пойдзеш з гэтага жыцця».

Стаялі побач з Паннай Марыяй тры святыя панны, якія трымалі ў руках тры кубкі з цудадзейнай ежай неверагодна прыемнага

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

водару. Тады слаўная Панна ўзяла і адкрыла адзін з кубкаў, і ўвесь дом напоўніўся пахам, а калі Яна ўзяла лыжкаю з таго кубка і дала хвораму, то як толькі ён паспрабаваў ежу, адчуў адразу такі супакой і такую пяшчоту, што, здавалася, душа яго не магла болей заставацца ў целе; тады ён пачаў гаварыць: «Хопіць, о найсалодкая Маці і Панна благаслаўлёная, і Збавіцельніца роду чалавечага, хопіць, о благаслаўлёная Лекарка, хопіць, бо я не вытрымаю такой пяшчоты». Але літасцівая і добрая Маці раз за разам працягвала ежу хвораму і давала яму есці, пакуль кубак не стаў пусты. Пасля таго, як апусцеў першы кубак, шчасная Панна ўзяла другі і апусціла ў яго лыжку, каб даць ежы хвораму, а той пяшчотна засмуціўся, кажучы: «О, благаслаўлёная Маці Божая, калі ўжо цяпер душа мая амаль размякчэла ад водару і слодычы першага кубка, то як я вытрываю другі? Я прашу Цябе, благаслаўлёная над усімі святымі і ўсімі анёламі, каб Ты больш мне нічога не давала». Адказала Святая Панна: «Паспрабуй, сын Мой, хоць трошкі з гэтага кубка. Суцешся, сын Мой, паколькі хутка Я прыду па цябе і павяду цябе ў царства Сына Майго, якога ты заўсёды шукаў і жадаў».

І пасля гэтых словаў развіталася з ім і пайшла, а ён застаўся настолькі суцешаны і супакоены салодкасцю гэтага гасцінца, што на працягу некалькіх дзён жыў сыты і задаволены без аніякай цялеснай ежы. А праз некалькі дзён, весела размаўляючы з братамі, з вялікай радасцю і весялосцю перайшоў з гэтага беднага жыцця да жыцця шчаснага. Амэн.

**Частка XLVIII**

*Як брат Якаў з Масы ўбачыў у візіі братоў мінарытаў усяго свету на залатым дрэве і даведаўся пра цноты, заслугі і заганы кожнага з іх*

Брат Якаў з Масы, якому Бог адкрыў дзверы сваіх сакрэтаў і даў дасканалае веданне і разуменне святога Пісання і будучых справаў, быў такой вялікай святасці, што брат Эгідзій з Асізі і брат Марк з Маніна, і брат Джынепро, і брат Люцыд гаварылі пра яго, што не ведаюць нікога ў свеце найвялікшага за яго, акрамя Бога.

Я займеў вялікае жаданне пабачыць гэтага брата Якава, бо, калі я прасіў пра гэта брата Яна, паплечніка брата Эгідзія, патлумачыць мне пэўныя духоўныя рэчы, то ён мне сказаў: «Калі ты хочаш быць адукаваным у духоўным жыцці, паспрабуй пагаварыць з братам Якавам з Масы, бо і сам брат Эгідзій жадаў, каб той яго прасвяціў, і да словаў яго не мог нічога ні дадаць, ні адняць, бо яго розум узняўся да нябесных сакрэтаў, і словы яго былі словамі Святога Духа, і няма на зямлі іншага чалавека, якога б я так жадаў бачыць».

Гэты брат Якаў на пачатку служэння брата Яна з Пармы, молячыся, аднойчы быў ахоплены Богам і праляжаў тры дні, ахоплены ўзрушэннем, не адчуваючы ніякага цялеснага пачуцця, і так, нічога не адчуваючы, стаяў, што браты пачалі турбавацца, ці не памёр ён. І ў гэтым захапленні было яму адкрыта Богам тое, што павінна было быць і здарыцца з нашым ордэнам, таму, калі я пра гэта пачуў, у мяне ўзнікла жаданне пабачыць яго і пагаварыць з ім.

І калі па волі Божай я атрымаў магчымасць пагаварыць з ім, то прасіў яго наступным чынам: «Калі праўда тое, што я чуў пра цябе, я прашу, каб ты ад мяне гэтага не хаваў. Я чуў, што ты на працягу трох дзён быў амаль што мёртвы, і што між іншых рэчаў Бог адкрыў табе тое, што павінна здарыцца ў гэтым нашым ордэне, і пра гэта гаварыў брат Масей, міністр з Маркі, якому ты пра гэта распавёў дзеля паслушэнства». Тады брат Якаў з вялікай пакорлівасцю прызнаўся, што тое, пра што гаварыў брат Масей, было праўдай.

І словы яго, гэта значыць словы згаданага брата Масея, міністра з Маркі, былі такія: «Я ведаю брата, якому Бог адкрыў усё, што здарыцца з нашым ордэнам, паколькі брат Якаў з Масы мне паказаў і расказаў, што пасля шматлікіх рэчаў, якія Бог адкрыў яму пра стан вандроўнага Касцёла, ён бачыў у візіі прыгожае, вельмі вялікае дрэва з залатым коранем, а пладамі яго былі людзі, і ўсе яны належалі да братоў мінарытаў. Галоўных галінаў было столькі, колькі правінцый у ордэна, і на кожнай галіне было столькі братоў, колькі іх было ў правінцыі, да якой належала

гэтая галіна: і так ён даведаўся пра колькасць усіх братоў у ордэне і ў кожнай правінцыі, а таксама іх імёны, узрост, умовы і званні, ступені і вартасці, міласці і правіны ўсіх і кожнага. І ўбачыў брата Яна з Пармы на самым высокім месцы на галіне пасярод гэтага дрэва, а на вяршалінах тых галінаў, што былі абапал сярэдняй галіны, стаялі міністры ўсіх правінцый. А пасля гэтага пабачыў Хрыста, які сядзеў на вялікім зіхатлівым пасадзе; Хрыстус клікаў святога Францішка і даваў яму келіх, поўны жыццёвага духу, і падаваў яго са словамі: «Ідзі і наведай братоў сваіх, і дай ім выпіць з гэтага келіху, бо дух шатана ўздымецца супраць іх і будзе іх пераследаваць, і многія з іх упадуць і не падымуцца». І даў Хрыстус святому Францішку двух Анёлаў, каб яго правялі.

І тады прыйшоў святы Францішак, і прынёс келіх жыцця братам сваім, і пачаў падносіць яго брату Яну, які ўзяў яго і выпіў хутка і пабожна, і адразу пачаў ззяць, нібы сонца. А пасля яго святы Францішак па чарзе падносіў келіх усім астатнім, але мала было тых, хто з адпаведнай пабожнасцю і пашанай бралі яго і ўсё выпівалі. Тыя, што бралі яго з пабожнасцю і выпівалі цалкам, адразу ж пачыналі ззяць, як сонца, тыя, што разлівалі і не бралі з пабожнасцю, рабіліся чорнымі, цёмнымі, жудаснымі і страшнымі з выгляду; тыя, што частку выпівалі, а частку разлівалі, рабіліся часткова цёмнымі, а часткова ззялі, у залежнасці ад таго, колькі выпівалі і колькі разлівалі. Але больш за ўсіх ззяў вышэй згаданы брат Ян, які больш за ўсіх выпіў з келіха жыцця, дзякуючы якому змог ва ўсёй паўнаце ўбачыць бездань бясконцага Божага святла і ў ёй разгледзеў нягоды і буру, што павінна была ўзняцца вакол гэтага дрэва, ускалыхнуць яго і патрэсці яго галіны.

Таму згаданы брат Ян сышоў з вяршыні галіны, на якой стаяў, і, спусціўшыся долу па ўсіх галінах, схаваўся ля ўзножжа ствала дрэва і сядзеў там у роздуме. А брат Бонавэнтура, які часткова ўзяў келіх, а часткова разліў, падняўся на тую галіну і на тое месца, дзе раней быў брат Ян. І пакуль ён стаяў у тым месцы, пазногці на яго руках зрабіліся вострымі кіпцямі, заточанымі, нібы брытва, пасля чаго ён рушыў з таго месца, дзе стаяў, і хацеў кінуцца на брата Яна, каб нашкодзіць яму. Але брат Ян, пабачыўшы такое, моцна закрычаў, звяртаючыся да Хрыста, які сядзеў на стальцы, а Хрыстус на гэты крык паклікаў святога Францішка, даў яму востры крэмень і сказаў яму: «Ідзі і гэтым крэмнем абрэж брату Бонавэнтуры кіпці, якімі ён хацеў падрапаць брата Яна, каб ён не змог брату Яну нашкодзіць». Тады святы Францішак пайшоў і зрабіў так, як Хрыстус яму загадаў.

І пасля таго, як гэта было зроблена, пачалася бура з ветрам, якая трэсла дрэва так моцна, што браты падалі на зямлю, а найперш падалі тыя, што разлілі ўвесь келіх жыцця, і д'яблы іх панеслі ў цёмныя і пакутлівыя месцы. А брата Яна разам з тымі, хто выпіў увесь келіх, панеслі Анёлы ў тое месца, дзе жыццё і вечнае святло, і шчаснае ззянне. І згаданы брат Якаў, у якога была гэтая візія, разумеў і разбіраў ва ўсіх падрабязнасцях тое, што бачыў, асабліва, што датычылася імёнаў, якасцяў і стану кожнага. І хапіла гэтай буры супраць дрэва, каб яно рухнула, і вецер панёс яго прэч.

Адразу пасля таго, як бура скончылася, з залатога кораня гэтага дрэва пачало расці новае дрэва, усё залатое, а на ім выраслі лісце, кветкі і плады, таксама залатыя. Пра гэтае дрэва і пра яго рост, глыбіню і прыгажосць, водар і цноту лепей будзе цяпер маўчаць, чым гаварыць.

Слава Хрысту. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*

*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

## КНІЖКА ТРЭЦЯЯ
## АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

### Разьдзел LIV
*Аб розных праявах прыроды і ласкі*

**1.** Сыне, уважай старанна на праявы прыроды і ласкі, бо хоць зусім розныя яны між сабою, аднак часта выглядаюць надта падобныя, а таму толькі духовы і ўнутрана асьвечаны чалавек адрозьніць іх ад сябе.

Усе людзі хочуць дабра і імкнуцца да яго пры кожнай гутарцы ці рабоце, і вось чаму абманваюцца многія ў тым, што завуць дабром.

Прырода хітрая і шмат каго маніць, апутвае ды зводзіць, а сябе самую заўсёды за мэту мае.

Ласка ж простымі сьцежкамі ходзіць, уцякае ад усенькага благацьця, ня хоча быць хітраю, усё дзеля Бога робіць і ў Ім як у канчаткавай мэце супачывае.

**2.** Прырода ня хоча ўміраць дзеля сябе, ня хоча ведаць ніякага прымусу, ня хоча, каб за яе быў нехта вышэйшы, ня хоча падпарадкавацца ды самахоць браць на сябе ярмо.

Ласка ахвотна прыстае на ўмярцьвеньне сябе, змагаецца з пачуцьцёвасьцю, шукае ярма, хоча быць пераможанаю і ня імкнецца быць свабоднаю, любіць падпарадкавацца, не жадае нікім валодаць, а хоча заўсёды жыць, існаваць і трываць пад уладай Бога для Бога і ўсякаму стварэньню людзкому гатова падацца.

Прырода працуе сабе на карысьць ды ахвотна карысьці глядзіць сабе также і ад іншых.

Ласка ж мяркуе не аб тым, што ей карыснае ды спагаднае, а больш зважае на тое, што карысна іншым.

Прырода ахвотна прымае пашану і чэсьць.

А ласка верна аддае ўсенькі гонар ды славу Богу.

**3.** Прырода палохаецца сораму ды пагарды.

Ласка весяліцца, *церпячы зьдзек дзеля Імя Езуса* (Дз 5, 41).

Прырода любіць гультайства і адпачынак цела.

Ласка ня можа аставацца бяздзейнаю і надта любіць працу.

Прырода глядзіць толькі цікаўнага ды прыгожага, а брыдзіцца звычайным і скромным.

Ласка любіць усё простае і ўбогае, ня палохаецца яна шорсткага і прыкрага, ліхою вопраткаю адзецца гатова.

Прырода аглядаецца на дачаснае, цешыцца карысьцю зямною, сумуе, калі згубіць нешта з маёмасьці, ды злуе на самае нязначнае слова абразы.

А ласка зважае толькі на вечнае, ня імкнецца да дачаснага, не шкадуецца, калі што і згубіць, ды ня злуе на самыя дрэнныя словы, бо скарб свой і радасьць у небе злажыла, дзе нічагусенька не прападае.

**4.** Прырода скупая і ахватней бярэ, чымся дае, і любіць уласнае ды асабістае.

А ласка міласэрная, яна на іншых прадусім зважае, сама здавольваецца самым маленькім ды думае, што *лепш даваць, чымся браць* (Дз 20, 35) ад каго.

Прырода мае нахіл да стварэньняў і ўласнага цела, да марнасьцяў ды пустых разрываў.

А ласка падымаецца да Бога і да цнотаў, зракаецца зусім стварэньняў, уцякае ад сьвету, ненавідзіць пажаданьняў цела, спыньвае лішнія гульні і саромiцца на сьвет паказвацца.

Прырода ахвотна аглядаецца на вонкавыя пацехі, дзе бачыць спадобу пачуцьцям.

А ласка толькі ў Богу адным шукае палёгкі і бачыць радасьць у дабры Найвышэйшым і вялікшым за ўсё відомае.

**5.** Прырода ўсё робіць дзеля ўласнае карысьці і выгоды, ня хоча нічога рабіць дарма, а калі што добрае і зробіць — дык заўсёды спадзяецца за гэта нечага роўнага або лепшага, спадзяецца пахвалы ці асабістай увагі і заўсёды жадае, каб многа гаварылі аб яе падзеях і дарах.

Ласка ж не аглядаецца зусім на дачаснае, ня хоча іншае нагароды, як толькі Бога самога; і ўсяго столькі глядзіць на дачаснае, колькі трэба, каб памагло яно дзеля здабыцьця спраў вечных.

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2010 гг.*

**6.** Прырода весяліцца з шматлікіх прыяцеляў і блізкіх, пышніцца знатным месцам ды шляхотным родам, падлізваецца да магутных, прымілаецца да багатых, хваліць такіх, як сама.

А ласка любіць на'т ворагаў ды ня пышніцца вялікім лікам прыяцеляў; не глядзіць на тое, якога хто роду або якога месца, а глядзіць толькі, хто мае цноту вялікшую.

Спагадае больш беднаму, чымся багачу, больш нявіннаму, чымся магутнаму, больш шчыраму, чымся крывадушнаму.

Добрых заахвочвае заўсёды, каб імкнуліся яшчэ да лепшага ды каб цнотамі сваімі насьледавалі Сына Божага.

Прырода хутка наракае на нястачы ды беды.

Ласка цярпліва трывае ўсенькія нястачы.

**7.** Прырода толькі аб сабе думае, дзеля сябе толькі змагаецца, горне ўсё да сябе.

А ласка ўсё датасоўвае да Бога, які ўсяго ёсьць пачаткам; ласка сабе нічога добрага не прыпісвае ды не спадзяецца на сябе самапэўна; не спрачаецца з іншымі, свае думкі ня лічыць важнейшымі за іншых, але ў кожнай сваёй думцы і разуменьні мяркуецца паводле вечнае мудрасьці ды Божага суду.

Прырода хоча ведаць усе таёмнасьці і чуць аб усіх навінах, хоча, каб яе ўсюды бачылі і каб чым найбольш дазнаць змысламі, хоча, каб быць прызнанай і каб усё рабіць дзеля сваёй славы і значэньня.

А ласка не ганяецца за навінамі і за цікавасьцямі, бо ўсё гэта плод старой папсаванасьці, бо нічога новага і трывалкага няма на зямлі.

Вучыць яна яшчэ стрымліваць пачуцьці, сьцерагчыся марнае самапэўнасьці і пакорнасьці, хавацца з усім, што варта хвальбы ды з чаго можна падзівіцца, у кожнай рэчы, у кожнай ведзе шукаць карысьці для душы, а такжа чэсьці і славы Божае.

Ня хоча яна ніякае пахвалы для сябе, але пажадае, каб за ўсе дары быў бласлаўлёны Бог, каторы ўсё шчодра дае з чыстае міласьці.

**8.** Ласка — гэта сьвятло надпрыроднае і адумысловы дар Божы, гэта пэўная прыкмета выбраных Богам і задатак вечнага збаўленьня; ласка адрывае чалавека ад зямлі і падносіць аж да міласьці неба, а такжа чалавека змысловага перайначвае на духовага.

Дык вось, чым больш чалавек прыроду агранічае і перамагае, тым вялікшая на яго ласка зыходзіць і штодзённымі адведзінамі сваімі вырабляе яго ўнутрана паводле падабенства Божага.

### Разьдзел LV

*Аб сапсуцьці прыроды і аб дзейнасьці ласкі Божае*

**1.** Пане Божа мой, які стварыў мяне паводле вобразу ды падобнасьці сваёй, дай мне сваю ласку, якая, як паказаў Ты мне, гэтак вялікая і неабходная дзеля збаўленьня, каб перамог я найгоршую сваю прыроду, якая валачэ мяне ў грахі і на загубу.

*Бо чую я ў целе сваім закон грэху, які пярэчыць закону розуму майго* (Рым 7, 23) ды які шмат у чым цягне мяне, быццам бы палоненага, да паслухмянасьці цялеснасьці; дык не магу я бароцца з дрэнным, са сваімі нахіламі без падмогі ласкі Тваёй, якая напаўняе і разагравае сэрца маё.

**2.** Трэба мне ласкі і вялікай ласкі Тваёй, каб перамагчы прыроду, якая ад маленькасьці мае нахіл да благацьця.

Бо праз упадак першага чалавека Адама пляма грэху пала на ўвесь род чалавечы, а прырода чалавека, якую Ты стварыў добрай і праўдзівай, так многа аказалася сапсутай, што самая назова *прыроды* ўважаецца за назову заганаў, дзеля таго, што пакінутая сама сабе, да злога і да нізкіх спраў яна цягне.

А тая невялічкая сіла, якая нам асталася, гэта быццам іскрачка, што тлее яшчэ ў попеле.

Гэная сіла і ёсьць розум прыродны, акружаны густою імглою; яшчэ ён патрапіць адрожніць добрае ад благога, праўду ад няпраўды, аднак нядужы ён зрабіць тое, што здаецца яму добрым, ды не валодае ён ужо поўным сьвятлом праўды ды даўнейшаю чыстатою нахілаў сваіх.

**3.** Вось скуль яно, Божа мой, што *люблю я закон Твой паводле таго, як гэта робіць чалавек унутраны* (Рым 7, 22), бо ведаю, што загады Твае добрыя, справядлівыя і сьвятыя, бо паказваюць яны, што сьцерагчыся трэба ўсялякага благацьця ды ўцякаць ад грахоў.

Цела ж маё слухаецца закону грэху, таму і больш я паслухмяны пачуцьцёвасьці, чымся розуму.

Дзеля гэтага хоць *ахвоту да добрага я маю, ня здолею, аднак, яго зьдзейсьніць* (Рым 7, 18).

Дзеля гэтага часта маю я добрыя намеры, а таму, аднак, што ласкі Тваёй не хапае падмагчы нядужасьць маю, пры маленькай супраціўнасьці ўпадаю і назад адступаю.

Дзеля гэтага трапляецца, што бачу я шлях дасканальнасьці ды на'т даволі ясна бачу, што мне рабіць трэба, аднак пад цяжарам уласнае папсаванасьці падняцца да дасканальнасьці ніяк не магу.

**4.** О, як надта патрэбна мне ласка Твая, Пане, каб пачаць нешта добрае, каб пастыпаць у добрым штораз далей ды вытрымаць гэтак да канчатку!

Бо без яе нічога не патраплю зрабіць, а ўсё здолею з Табою, з дапамогаю ласкі Тваёй.

О, сапраўды нябесная ласка, без якой нямашака ніякай уласнай заслугі, без якой нічогасьць усе дары прыроды!

Мастацтва, багацьце, хараство, магутнасьць, розум, красамоўнасьць — усё гэта нічогасьць перад Табою, Пане, калі ласкі не хапае.

Бо дары прыроды супольныя добрым і благім, а ласка — гэта адумысловы дар дзеля выбраных Богам, ласка — гэта ёсьць дар любові Тваёй, якой карыстаюцца годныя вечнага жыцьця.

Ласка настолькі вялікшая за ўсё, што і дар пра-

роцтва, і дар магчымасьці робіць цуды, ці нейкія самыя глыбокія разважаньні без яе былі б нічым.

Бо ані вера, ані надзея, ані іншыя цноты — ня мілыя Табе бяз любові ды ласкі.

**5.** О, найбольш блаславёная ласка, якая ўбогага духам багатым робіць цнотамі, а багатага вялікаю маёмасьцю робіць спакораным у сэрцы!

Зыдзі, прыдзі да мяне, напоўні мяне ад самае раніцы тваёй пацехаю, каб не аслабла душа мая ад нядужасьці ды сухасьці.

Малю Цябе, Пане, дай найсьці ласку ў вачох Тваіх, бо хопіць мне ласкі Тваёй, хоць бы не атрымаў я таго, чаго пажадае прырода.

Калі нападуць на мяне пакусы ды будуць мучыць розныя турботы — не спалохаюся, калі ласка Твая будзе са мною.

Яна ж сіла мая, рада і падмога.

Магутнейшая яна за ўсіх ворагаў, а мудрасьці ў ёй больш за ўсіх мудрых з усяго сьвету.

**6.** Яна вучыцелька праўды, настаўніца паслухмянасьці законам, яна сьвятлом сэрцу, пацехаю ў турботах, яна праганяе сумаваньне, забірае спалох, корміць пабожнасьць дый яна крыніцаю сьлёзаў салодкіх.

Што ж я без яе, калі ня дрэва ссохлае, камень бескарысны, які кінуць толькі ў вагонь?

Няхай жа Твая ласка, Пане, заўсёды мяне і папярэджвае і сьледуе за мною, ды няхай яна кіруе мяне да дабрадзейнасьці — праз Езуса Хрыста, Сына Твайго. Амэн.

## Разьдзел LVI

*Трэба зрачыся нам сябе самых,*
*а несучы крыж, Езуса насьледаваць*

**1.** Сыне, наскольки кінеш сябе, настолькі злучышся са Мною.

Як той, хто нічога ня хоча ад сьвету — у супакоі жыве, таксама хто зрачэцца ўнутрана самога сябе — злучыцца з Богам.

Я хачу навучыць цябе дасканальнага самазрачэньня, падпарадкавацца волі Маёй бяз ніякага пярэчаньня ды нараканьня.

Насьледуй Мяне, бо ж *Я шлях, праўда і жыцьцё* (Ян 14, 6). Бяз шляху ісьці немагчыма, бяз праўды ня можна ведаць, а бяз жыцьця — жыць немагчыма. І таму Я шлях, якім ісьці табе трэба, Я праўда, якой верыць табе трэба, Я жыцьцё, якога павінен ты спадзявацца.

Я шлях просты, праўда, якая ніколі ня мыляецца, жыцьцё безканечнае.

Я шлях найпрасьцейшы, праўда найвышэйшая, жыцьцё сапраўднае, жыцьцё блаславёнае, жыцьцё нястворанае.

Калі не пакінеш шляху Майго, пазнаеш праўду, а праўда асвабодзіць цябе, і гэтак атрымаеш жыцьцё вечнае.

**2.** *Калі хочаш трапіць да жыцьця — спаўняй загады Мае* (Мц 19, 17).

Калі хочаш праўду спазнаць — вер ты Мне.

*Калі хочаш быць дасканалым — прадай усё* (Мц 19, 21).

*Калі хочаш быць вучнем Маім — зрачыся самога сябе* (Лк 9, 23).

Калі хочаш валодаць жыцьцём блаславёным — пагарджай сучасным.

Калі хочаш быць вышэйшым у небе — спакарайся на зямлі.

Калі хочаш валадарыць са Мною — нясі крыж са Мною.

Бо адны толькі слугі крыжа бачаць шлях блаславёнасьці ды праўдзівага сьвятла.

**3.** Пане Езу, затым, што цяжкім было жыцьцё Тваё ды ў пагардзе ў сьвету, дай і мне насьледаваць Цябе ды гардзіць сьветам.

*Бо не вялікшы слуга за Пана свайго, а вучань за вучыцеля* (Мц 10, 24).

Дык няхай практыкуецца слуга Твой у жыцьці Тваім, бо там збаўленьне маё і сьвятасьць сапраўдная.

І ўсё, што іншае чытаю або чую недзе — ані дае мне аддышкі, ані поўнага збаўленьня.

**4.** Сыне, калі ўсё гэта ведаеш ды прачытаў ты ўжо ўсё, блаславёным будзеш, калі пачнеш гэтак рабіць.

*Хто помніць загады Мае і слухае іх — той любіць Мяне, і Я таго любіць буду і аб'яўлюся яму* (Ян 14, 21), і пасаджу яго з сабою ў Валадарстве Айца Майго.

**5.** Няхай будзе гэтак, як казаў Ты і абяцаў, і каб жа здолеў я заслужыць на тое!

Узяў, узяў я крыж з рукі Тваёй і панясу яго, панясу аж да сьмерці, паводле таго, як казаў Ты мне.

Сапраўды, жыцьцё добрага законьніка ёсьць крыжам, але крыжам, які вядзе нас у рай.

Пачаў ужо я яго — назад варочацца нягожа мне і кідаць не належыцца.

**6.** А ну, браты, кранемся разам: Езус будзе з намі!

Дзеля Езуса ўзяліся мы за гэны крыж, дзеля Езуса трэба вытрываць у крыжы.

Памагальнікам будзе ён нашым, начальнікам ды праваднікам.

І вось перад намі Кароль наш, які будзе змагацца за нас.

Дык сьмела ўсе за Ім! Няхай ніхто не палохаецца, будзем гатовыя мужна памерці ў змаганьні і высьцерагацца спляміць славу сваю, уцякаючы ад крыжа.

## Разьдзел LVII

*Ня трэба чалавеку надта палохацца,*
*калі ён у нечым памыліцца*

**1.** Больш мне падабаецца цярплівасьць і пакорнасьць у няшчасьцях, чымся вялікая радасьць ды пабожнасьць у шчасьці.

Чаму ж ты сумуеш, калі хоць крыху цябе зганіць?

Хаця б на'т гэтага і больш было, дык не глядзі зусім на гэта.

Няхай само яно міне: гэта не ўпяршыню, гэта ж нічога новага ды і не апошні раз, калі доўга жыць будзеш.

Ты мужны датуль, пакуль ня сустрэнеш чагосьці супроцьнага.

Добра тады раіш іншым ды заахвочваеш іх словамі, а калі заглянуць табе неспадзеўкі ў дзьверы нейкія турботы — прападае і твая сіла, і рада.

Разваж вялікую нядужасьць сваю, якая перамагае цябе на'т і ў маленькіх зусім справах, аднак жа ўсё, што трапляецца табе, карысна дзеля збаўленьня твайго.

2. Праганяй як найлепш усякія трывогі з сэрца, а калі нешта новае і пачне табе дакучаць, няхай цябе доўга не трывожыць і не перамагае.

Прынамсі цярпліва трывай, калі ня здолееш трываць вясельлем.

А калі слухаеш чаго неахвотна і нездаволенасьць з'яўляецца ў табе, стрывай і ня дай, каб вышла з вуснаў тваіх неасьцярожнае слова, якое згоршыла б меншых.

Хутка супакоіцца злоснасьць твая, вернецца ласка і асалодзіць унутраны боль.

Яшчэ жыву Я — кажа Пан — гатоў памагчы табе ды больш, чымся заўсёды, пацешыць цябе, калі стрываеш у веры Маёй ды будзеш клікаць Мяне пабожна.

**3.** Будзь больш зраўнаважаным ды прыгатаўляйся стрываць яшчэ большае нешта.

Ня ўсё прапала, калі адведваюць цябе турботы ды мучаць пакусы.

Чалавек жа ж ты, а не Бог, цела, а не анёл.

Якім чынам здолееш ты заўсёды ў аднолькавай цноце стрываць, калі не патрапілі гэтага і анёлы ў небе ды першы чалавек у раі?

Я абнядужаўшых падтрымліваю і тых, якія прызнаюцца да нядужасьці сваёй, падымаю да Боскасьці сваёй.

**4.** Няхай будзе, Пане, бласлаўлёнае слова Тваё, *салодшае за мёд вуснам маім* (Пс 118, 103).

Што ж патрапіў бы я сярод гэткіх турботаў і бедаў сваіх, калі б не падтрымліваў Ты мяне сваім словам сьвятым?

Калі б я трапіў да дзьвярэй збаўленьня, дык якая ж там бяда, што гэтулькі і такіх бедаў стрываў?

Дай добры канчатак, дай мне сьмерць шчасьлівую!

Памятуй аба мне, Божа мой, ды вядзі мяне простым шляхам да Валадарства Твайго. Амэн.

*Працяг будзе.*

Наталля Траўберг

# ПРА ПАКОРУ

У кожным паняцці хрысціянства спалучаецца неспалучальнае. На гэтым, дарэчы, пабудаваны ўвесь Чэстэртан. Возьмем, напрыклад, паняцці пакоры і годнасці. Увесь свет лічыць так: або пакора, але тады няма годнасці, або годнасць, але тады няма месца пакоры. А часта бывае, што няма ні таго, ні другога — толькі адна пустая амбіцыёзнасць.

Для таго, каб зразумець, што такое пакора не на падлозе, а на вадзе (маецца на ўвазе адзін з евангельскіх эпізодаў «хаджэння па вадзе» [Мц 14, 28–31]; Наталля Траўберг лічыла, што хрысціянін — гэта той, хто адважваецца «ісці па вадзе», а значыць гатовы цалкам аддаць сябе ў Божыя рукі. — Заўвага рэд.), чалавек, які прыходзіць у Царкву, павінен ведаць, з чым гэтая пакора не мае супярэчанняў. Гэта не абавязковы метад, але гэта важна — адразу бачыш, што ўсе евангельскія паняцці двайныя, яны не такія, як свецкія. Гэта неэўклідава геаметрыя — у свеце гэтыя лініі не сыходзяцца, а ў Евангеллі сыходзяцца.

Дык вось уявіце сабе: можна так спалучыць усе колеры, што атрымаецца белы колер, — гэта і ёсць тая пакора, якая не супярэчыць годнасці. А можна проста змяшаць усе акварэльныя фарбы — і атрымаецца бруд. Гэта спалучэнне іншага роду. Чалавек найчасцей знаходзіцца менавіта там, дзе няма ні пакоры, ні годнасці, і, прыходзячы ў Царкву, ён перамяшчаецца, як правіла, або ў бок годнасці пры адсутнасці пакоры, або ў бок пакоры пры адсутнасці годнасці, прычым у першы бок найчасцей, таму што свецкая дабрадзейнасць больш схіляецца да вартасцяў стаіцызму. Прынята думаць, што пакора — гэта нейкая прыгнечанасць, загнанасць. Але гэта не загнанасць — пакора мае іншую прыроду, не ад гэтага свету.

Калі чалавек прыходзіць у Царкву і застаецца на падлозе, ён думае: «Ну, яшчэ нічога. Добра, што не праваліўся скрозь падлогу». Але гэта як сказаць.

У падполе лягчэй пераскочыць на ваду — там нельга жыць, але калі ты на падлозе, дык і будзеш усё жыццё думаць, што ты ў парадку. Вось у гэтым і ёсць няшчасце нашага навяртання.

Я ведаю святароў, якія прымаюць гэты ва-

# І ГОДНАСЦЬ



рыянт «на падлозе». Таму ў казаннях абавязкова трэба гаварыць, што гэта дом, які збудаваны на пяску, а з канкрэтным чалавекам, калі ён не перайшоў на ваду, немагчыма спрачацца, і патрабаваць ад яго нечага іншага часта проста жорстка і бессэнсоўна. Католікі, дарэчы, робяць так заўсёды. Калі чалавек прыйшоў гэтак, як Сірафініцыянка (Мк 7, 24–30), а значыць ведае пра сябе, што ён жыве не па-Божаму, але просіць Бога злітавацца з яго, то каталіцкі святар гэтак і будзе яго весці (будучы праваслаўнаю, Наталля Траўберг добра ведала традыцыі каталіцтва, бо шмат гадоў жыла ў Літве, дзе кантактавала з католікамі. — Заўвага рэд.)

У савецкія гады людзі былі дзіка прыніжаныя. Калі яны апыналіся ў Царкве, дык перш за ўсё і галоўным чынам хацелі самасцвярджэння, і атрымлівалася, што яны ішлі не проста некуды ўбок ад навяртання, а наўпрост наадварот. Пра тое, каб адчуць сябе блудным сынам, не магло быць і гаворкі. Увогуле прыпавесць пра блуднага сына — гэта Евангелле ў Евангеллі. Яна пра ўсіх нас без выключэння, але не ўсе мы яшчэ зразумелі гэта і не ўсе прыпалі да Айца.

Я часам думаю, чаму Бог выпусціў мяне цяпер гаварыць, весці радыёперадачы? Я ж не хачу гаварыць! Для мяне гэта вельмі сумніўна і спакуслівa. Дзякуй Богу, спакуслівa не тым, што было ў маладосці да трыццаці. Паслухайце, я вам зараз раскажу — і гэта будзе цалкавітая прыпавесць.

Мой бедны бацька ўсё вымяраў у катэгорыях свецкага поспеху, і ён страшэнна баяўся, што яго дачка будзе няўдаліцаю. Атмасферу гэтага свету мастацтва, асабліва ў кіношнікаў, нельга назваць нават славалюбнаю — гэта нешта ўжо па-за межамі, чыстае вар'яцтва, і гэта вельмі страшна, як страшная ўсялякая жарсць.

А я была тады, натуральна, страшэнна творчаю паненкаю — нешта там пісала і думала, што калі-небудзь я буду ТАК пісаць!

І вось я вельмі цяжка захварэла, прычым на нейкую дзіўную хваробу, якую ніяк не маглі распазнаць. Пачаліся жудасныя пад'ёмы тэмпературы, і тры месяцы мне было вельмі кепска. Жыла я тады жахліва, проста памірала, і ўсяго баялася — маці, савецкай улады, і дзіка пакутавала, была ўся ў нейкіх фурункулах. І ў мяне была такая аддушына — пісаць. І калі б гэты мой кумір застаўся, ад мяне былі б цяпер толькі «рожкі ды ножкі».

І вось, калі я так захварэла, я ў жахлівай ліхаманцы зразумела, што гэтага куміра трэба аддаць. Некалькі куміраў — шчаслівую закаханасць, жаданне пісаць і навуку. Іх усе трэба аддаць. Я аддала. Аддала — і вельмі хутка ачуняла. Мяне адвезлі ў 1-ю Градскую — зрабілі аналіз і ўбачылі заражэнне крыві, але гэта ўмеюць лячыць пераліваннем плазмы і атыбіётыкамі. Услед за гэтым я выйшла замуж, літаральна праз два месяцы. З маім будучым мужам мы былі знаёмыя 23 дні. Я аддала шчаслівую закаханасць, і — «прымі, вось табе шлюб». А пераклады ў мяне заўсёды былі, проста я думала, што гэта часова, што я перакладаю, каб «набіць руку», а потым буду пісаць сама. І роўна 30 гадоў нічога не пісала. Пачала пісаць тады, калі для мяне гэта зрабілася чыста службовым заняткам — трэба мне патлумачыць пра Чэстэртана, вось я і пішу.

Я расказваю ўсё гэта не для аўтабіяграфіі, а для сведчання. Гэта механіка таго, як дзейнічае Бог. Гэтыя куміры — жудасная рэч. Прапаведаваць, «пасвіць народы», як гаварыла Ахматава, — не дай Божа! «Няхай нямногія з вас становяцца настаўнікамі» (Як 3, 1). І гэтае дзіва, што Бог паставіў гаварыць мяне, такога слабога, такога недарэчнага чалавека, які нідзе не мае ўлады, напэўна ж, дадзенае для таго, каб я нейкі час перадавала досвед гэтага дзікунства. Не ўласных дасягненняў — у мяне іх няма — а вось гэтага дзікунства, пра якое ў нас вельмі мала ведаюць.

*Пераклад з рускай мовы Лідзіі Камінскай.*
*«Царкоўнае слова»,*
*43, 2010 год.*



Ксёндз Шаплевіч каля капліцы ў Макееўшчыне. 60-я гады XX ст.

Здзіслаў Сіцька

# Содні ксяндза Шаплевіча

*Кожнаму чалавеку вызначана ці не аднолькавая колькасць дзён і начэй. Ды нават калі хтосьці жыве на Поўначы, то і там палярная ноч урэшце змяняецца такім жа доўгім днём. Аднак не заўсёды было так у жыцці ксяндза Станіслава Шаплевіча, колішняга пробашча дараўскай парафіі Унебаўзяцця Маці Божай, што ў Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці. Яму давялося перажыць дні, што былі цямней і страшней за ночы. Яшчэ ў юнацтве галоднаму давялося суткамі сядзець у акопах, не спаць. А праз чвэртку веку пасля тых дзён вязень Шаплевіч нават не суткамі, а месяцамі не бачыў сонца. І быў такі момант, калі ён думаў, што ўжо ніколі не ўбачыць свету Божага.*

**Першы крыж**

Каго Бог любіць — таму крыж дае. Ксяндзу Шаплевічу часта надаралася нагода паўтараць гэтае выслоўе. Але ж ці не сам ён выбраў свой першы крыж.

Пасля заканчэння Пінскай духоўнай семінарыі маладога алюмна Станіслава Шаплевіча паслалі ў рубяжэвіцкую парафію катэхетам – навучаць дзетак асновам рэлігіі. На такое рашэнне, відаць, заважылі сціплыя поспехі семінарыста ў навуках. Не сказаць, каб ён быў не здольны, — вучыўся ж у Лодзінскай гімназіі, праўда, па-расійску. Але тую вучобу перапыніла вайна. А неўзабаве самахоць пайшоў, як і тысячы іншых юнакоў, бараніць Варшаву, калі ёй пагражала захопам армія Тухачэўскага.

Тады юнак з польскага горада Шадэк Калішскай — на той час — губерні, упершыню ўсвядоміў, што можа ўчыніць святар. Ці сам жаўнер Стась Шаплевіч бачыў подзвіг святара Скарупкі, ці яму апавядалі, як у рашучы момант бітвы за Варшаву 14 жніўня 1920 года Ігнацы Скарупка з крыжам у руках пайшоў на ворага. Ксёндз упаў падкошаны, але гэты самаахвярны чын узрушыў маладых жаўнераў, і яны пайшлі ў контратаку. Тую бітву пасля назвалі «цудам пад Варшаваю». А Стась Шаплевіч менавіта тады даў сабе зарок: калі выжыве, то абярэ за зброю для сябе толькі крыж.

Добрым прыкладам для семінарыста Станіслава Шаплевіча заўсёды быў біскуп Зыгмунт Лазінскі. Менавіта ён 19 красавіка 1930 года падчас урачыстай Імшы высвяціў на субдыяканаў некалькіх семінарыстаў трэцяга курса тэалагічнага аддзялення, у тым ліку і Станіслава Шаплевіча. А праз год малады ксёндз ужо мусіў ехаць у Рубяжэвічы. Але Шаплевіч марыў служыць пры алтары. Біскуп Лазінскі накіраваў маладога ксяндза ў добра вядомую яму дараўскую парафію ды, пэўна ж не аднойчы, бываючы тут з візітацыяй, прасіў дэкана Кавэцкага з суседніх Ляхавічаў апекавацца маладым вікарыем.

**Перакаваць мячы свае на плугі**

У дараўскай парафіі на той час не было касцёла. Драўляны, пабудаваны ў 1841 годзе пробашчам Бярнардам Місіевічам, згарэў у 1915 годзе, калі тут, панад Шчарай, стаяў нямецка-расійскі фронт. Згадвалі старэйшыя дараўскія жыхары, што парафіяне як бы прадбачылі бяду. Было вырашана зняць званы і, каб больш надзейна іх захаваць, утапіць у Шчары. Але калі жыхары Дарава і суседняй вёскі Літва вярнуліся з бежанцаў ды,



Пачатак будаўніцтва дараўскага касцёла. У цэнтры кс. Шаплевіч з плакатам-зваротам ахвяраваць грошы на будаўніцтва. На заднім плане — капліца.



Будаўніцтва дараўскай святыні. 1937 год.

пабудаваўшы часовую капліцу, пачалі шукаць у Шчары званы, то не знайшлі іх.

Цягам часу ў той капліцы стала цесна, і новы дараўскі ксёндз намерыўся будаваць вялікі касцёл — такі, якім яго калісьці задумаў і заклаў падмурак папярэднік — пробашч Казімір Ваньковіч.

Ксёндз Ваньковіч нават паспрабаваў вырабляць цэглу з мясцовай гліны, але аналіз быў праведзены няякасна, і калі гатовыя цагліны трапілі пад дождж, яны пачалі трэскацца, таму што ў гліне было шмат вапны. Не даў спадзяванага прыбытку і сад. Урэшце падчас страшнай навальніцы была разбурана абора. А грошы былі патрачаныя. У парафіі на момант прыезду ксяндза Шаплевіча выявілася доўгу 24 тысячы польскіх злотых — аграмадная сума.

Не даводзілася разлічваць і на грашовую дапамогу бедных парафіянаў, якія яшчэ не адбудавалі сваіх сядзібаў. Каб не купляць цэглу і цэмент, ксёндз Шаплевіч вырашыў выкарыстаць новы прынцып будаўніцтва. З сценаў бліндажоў, пабудаваных па-над Шчараю немцамі падчас Першай сусветнай вайны, парафіяне высякалі блокі ды з іх складвалі сцены новай святыні.

Ксёндз Станіслаў Шаплевіч заахвоціў парафіянаў удзельнічаць у рэлігійных аб'яднаннях: Кола жывога Ружанца, Брацтва Найсвяцейшага Сакрамэнту, Трэці закон святога Францішка, «Карытас». Дзяўчаты і хлопцы з грамадскага таварыства «Маладая вёска» і Аб'яднання польскай моладзі не толькі актыўна ўдзельнічалі ў будаўніцтве, але і распаўсюджвалі латарэйныя білеты, збіралі ахвяраванні на будаўніцтва, ставілі спектаклі ды спявалі ў касцёльным хоры. Неўзабаве хор дараўскай парафіі пад кіраўніцтвам арганіста Станіслава Бубна быў прызнаны лепшым у Пінскай дыяцэзіі.

Сцены касцёла былі вымураваныя ў 1937 годзе, а наступным летам, 15 жніўня, біскуп Казімір Букраба ўрачыста — у прысутнасці шматлікіх парафіянаў і гасцей — здзейсніў акт кансэкрацыі новай дараўскай святыні. Самаахвярная праца ксяндза Станіслава Шаплевіча была годна ацэнена ўрадам Польшчы: яго ўзнагародзілі Залатым Крыжам Заслугі.

**Гады туляння**

Нядоўга цешыўся дараўскі пастыр плёнам сваёй самаахвярнай працы. З 17 верасня 1939 года ксёндз Станіслаў Шаплевіч вымушаны быў хавацца. Яго, былога легіянера, капітана польскага войска, намесніка капеляна Баранавіцкага гарнізона, адправілі б у Катынь. Спачатку дараўскім пробашчам апекаваліся жыхары вёскі Макееўшчына, а пасля верны парафіянін Казімір Цыкман з Падлесся пераправіў Станіслава Шаплевіча ў больш надзейнае месца — у далёкую вёсачку Малое Вадзяціна. (Была калісьці такая вёска ў Ляхавіцкім раёне.) Там яго амаль на два гады прытуліла сям'я Апалінара Сяліцкага. У каморы іх хаты спецыяльна для дараўскага пробашча была абсталявана каплічка, дзе ксёндз Шаплевіч рэгулярна цэлебраваў Імшу, выконваў неабходныя абрады ды хрысціў дзяцей сваіх колішніх парафіянаў.

Праз месяц пасля прыходу немцаў было вырашана, што пробашч павінен вярнуцца ў Дарава. На жаль,часова. З касцёльных запісаў вынікае, што 31 траўня 1942 года ксёндз Станіслаў Шаплевіч апошні раз афіцыйна і адкрыта выканаў свой пастырскі абавязак, але начаваць у плябанію не пайшоў. А раніцай наступнага дня яго папярэдзілі, што ў плябанію прыйшлі немцы і чакаюць пробашча.



Кс. Шаплевіч з парафіянкамі, удзельніцамі Кола жывога Ружанца. Дарава. 1932 год.

Так пачалася пара новага тулляння. Жыхар невялікай вёскі Крыжыкі Станіслаў Берасневіч, які на той час, відаць, быў сувязным нейкага атрада Арміі Краёвай, пераправіў ксяндза Шаплевіча зноў у Малое Вадзяціна. Але не доўга дараўскі пробашч пражыў там. Ціхая лясная вёска прываблівала не толькі акаўцаў ды савецкіх разведчыкаў. Часцей на дабытак яе заможных жыхароў цікавалі мясцовыя партызаны, а таксама звычайныя бандыты з суседняй вёскі. Урэшце менавіта з імі давялося сутыкнуцца і ксяндзу Шаплевічу. І Станіслаў Берасневіч вымушаны быў прывесці дараўскага пробашча ізноў у Крыжыкі, да сваёй сястры Адальфіны Яблоньскай. І тут ксёндз Шаплевіч рэгулярна цэлебраваў Імшу, на якой часам прысутнічалі і парафіяне з Дарава, Літвы і Падлесся. І тут жа ў адзін з ліпеньскіх дзён 1944 года ён з трывогаю прыслухваўся да водгулля бою. Шаплевіч не сумняваўся: бой ідзе менавіта ў Дараве, каля моста. Тады падчас паветранага бою па-над Шчараю збіты нямецкі самалёт упаў на плябанію, і яна згарэла. Касцёл ацалеў, але быў вельмі пашкоджаны. На старым фотаздымку відаць разбураная вежа ды касцёльныя сцены з мноствам выбоінаў-шчарбінаў: снарады не змаглі прабіць сцены, адмыслова складзеныя з бетонных блокаў.

Сваю знявечаную святыню неўзабаве ўбачыў і дараўскі пробашч. Вядома, што пэўны час пасля вайны ксёндз Шаплевіч жыў у сваёй парафіі не таячыся. Ён пасяліўся ў Дараве ў доме Баляслава Бубна.

— Адтуль, — расказаў жыхар вёскі Літва Уладзіслаў Слабчык, — я прывёз ксяндза да свайго хворага дзеда. Дзед паспавядаўся, Шаплевіч даў яму Камунію, а пасля пагутарыў з парафіянкамі, якія збегліся на чутку аб прыездзе пробашча. Пасля я павёз Шаплевіча ў Дарава. Ды калі пад’ехалі да будынка сельсавета, Шаплевіч папрасіў спыніцца.



Разбураная вежа і сцены дараўскага касцёла.

Пайду, кажа, у гэтага бандыта замальдуюся. Але пасля хвіліны роздуму раптам сказаў, што перадумаў. Ён адправіў мяне дамоў, а сам пайшоў пешшу. З таго дня зноў пачаў хавацца.

Напэўна, тады ў ксяндза Шаплевіча была магчымасць зарэгістравацца. Уладзіслаў Слабчык сцвярджае, што тагачасны прадстаўнік мясцовай улады — назавем яго А. — прапанаваў ксяндзу Шаплевічу прызнаць сябе партызанам і такім чынам застацца на волі. Што магло схіліць А. да такой прапановы?

Уладзіслаў Слабчык расказаў пра асабістую трагедыю А.

Неяк узімку падчас акупацыі А. з сынам паехаў на рабунак. Сын палез у будынак праз ваконца, але гаспадар учуў і ўдарыў рабаўніка віламі. Раненне было смяротнае, і ён сканаў. Не менш жудаснае выпрабаванне чакала А. наперадзе. Зямля была мерзлая, магілу не выкапаць. То А. вымушаны быў пакінуць сына на балоце, магчыма, толькі прысыпаўшы снегам.

Якім бы чалавек ні быў, але такая трагедыя не магла не змяніць хоць штосьці ў бацькавай душы. А. мог папрасіць ксяндза аб споведзі. І той не адмовіў: не ягонае права караць ці прабачаць. Верагодна, ксёндз Шаплевіч шчыра спачуваў яму: такой асабістай трагедыі хрысціянін не пажадае нават свайму ворагу. Але прызнаць сябе таварышам партызана А. ён не мог. Ксёндз Шаплевіч абраў тулянне, верагодны арышт і пакуты.

**Ізноў на раздарожжы**

Дзесьці ў той час ксёндз Шаплевіч развітаўся з Станіславам Берасневічам, які з сям’ёй сабраўся выехаць у Польшчу ды намаўляў свайго пастыра ехаць разам. Як сцвярджае Станіслаў Сіліцкі, колішні жыхар Хатак, Шаплевічу нават зрабілі адпаведныя дакументы, хоць і на чужое прозвішча. Але ён не паехаў, бо не змог пакінуць сваіх парафіянаў, свой знявечаны вайною касцёл. Верагодна, ён меў за прыклад учынак свайго настаўніка з Пінскай семінарыі Зыгмунта Лазінскага, біскупа Мінскай дыяцэзіі.

Калі Мінск быў заняты бальшавікамі, сябры раілі біскупу Лазінскаму выехаць у Польшчу, але ён не пагадзіўся. І хоць нават заставацца ў Мінску было небяспечна, Лазінскі наладзіў апеку гарадскіх святыняў ад рабаўнікоў і знішчэння. Ён часта цэлебраваў асобную Імшу для моладзі, праводзіў заняткі па катэхезе. Урэшце бальшавікі вырашылі арыштаваць біскупа Лазінскага. Аднак яго папярэдзілі, і сябрам удалося схіліць біскупа да кампрамісу: ён выехаў з Мінска, але застаўся ў дыяцэзіі.

Станіслаў Шаплевіч застаўся ў сваёй парафіі. Цягам трох з лішнім гадоў вернікі даглядалі і аберагалі свайго пробашча, перапраўлялі з адной сям’і ў другую, з адной вёскі ў больш далёкую. Згадаем некаторых самаахвярных людзей: Мальвіна Арлоўская, сям’я Аляксеевых, сям’я Бубен: Алена, Браніслава, Ганна і брат Бэнэдыкт; Мальвіна Бондар, Апалонія, Марыя і Міхаліна Бубен, Іван Сцяпанавіч Бубен, Уладзіслава Бубен, Ясь і Язэп Бубны, Станіслаў Коктыш, Уршуля Пакаленка,

Мальвіна і Браніслава Трысцень — гэта не поўны пералік парафіянаў, якія ў той небяспечны час прымалі ў свае хаты ксяндза Шаплевіча і апекаваліся ім.

Пэўны час ксёндз Шаплевіч жыў у сем'ях родных братоў Бубнаў з вёскі Гарбачы — Аляксандра, каваля, і Юзафа. Ад іх ксяндза перавялі ў суседнюю вёску Ціткаўшчыну, у хату Кастуся і Эвеліны Крывеняў, дзе для яго была падрыхтавана ў кухні схованка. Рашэнне канспіратараў было незвычайным, таму што гэтая сям'я была адзінай каталіцкай сям'ёй у вёсцы. Крывені мусілі быць асабліва абачлівымі, таму што ў іх ужо падраслі дзве дачкі ды пяцёра хлопцаў, да якіх прыходзілі сябры. Дзеці і самі разумелі небяспеку, якая магла абрынуцца на іх сям'ю. У Крывеняў ксёндз Шаплевіч пражыў шэсць месяцаў. Але аднойчы старая маці гаспадара прысніла, што на іх хату наляцелі чорныя гракі ды садралі страху. Сон прызналі прарочым, а таму ксяндза пераправілі ў Дарава да Мальвіны Трысцень.

Неўзабаве, якраз перад Вялікаднем, наляцелі «гракі». Шукалі ўсюды, перамералі кухню ў хаце і з вуліцы ды выявілі розніцу. Гаспадар ледзь адгаварыўся, што там падчас нямецкай акупацыі хаваў вопратку і харчы. Падобная схованка была наладжана і ў Мальвіны Трысцень. І яе хату абмервалі, але чамусьці вымералі недакладна.

**Арышт**

Арыштавалі ксяндза праз здраду. Старэйшыя дараўскія парафіяне сцвярджаюць: было дамоўлена з адным чалавекам, які падчас нямецкай акупацыі служыў у самаахове, што ён выдасць ксяндза Шаплевіча. Тая «акцыя» была падрыхтаваная спецыяльна, каб першага траўня 1948 года рапартаваць пра яшчэ адну перамогу ў змаганні з бандытамі.

Як успамінае Станіслава Стальмацкая, калі людзі ранічкай выганялі кароваў на пашу, ксёндз сядзеў каля плота Несцеравай сядзібы, увесь у крыві. Людзі ледзь пазналі яго. Энкавэдыст крычаў на ксяндза: «Отдавай оружие! Где твое оружие?» А ксёндз так спакойна адказаў: «Крест — мое оружие».

Падчас арышту ксяндза вельмі моцна пакусаў сабака. І энкавэдысты ўсё ж не рашыліся везці яго акрываўленага. Яны загадалі ксяндзу абмыцца і даць яму пераапрануцца. А тая акрываўленая кашуля засталася. Несцерава дачка схавала яе і доўга перахоўвала.

Ксяндза Шаплевіча і затрыманых Несцеравых сямейнікаў завезлі перш у Ляхавічы на допыт. Пасля ксяндза перапраўлі ў Баранавічы, дзе трымалі ў следчай турме. Пазней ён успамінаў, што яму не давалі спаць і некалькі разоў на суткі выклікалі на допыты — спрабавалі прыпісаць таемныя сувязі з Амерыкай ды здзекамі прагнулі дамагчыся прызнання. А парафіяне не выракліся свайго пробашча і стараліся хоць як палепшыць умовы яго побыту ў турме. У той жа час яны пачалі дамагацца, каб дараўскі касцёл аддалі вернікам. І 26 траўня 1948 года было зарэгістравана рэлігійнае таварыства ў сяле Дарава, а таксама касцёльны камітэт і рэвізійная камісія.

**Інта**

Працяглы час дараўскія парафіяне не ведалі, дзе знаходзіцца іх пробашч і ці жывы. А ксяндза Шаплевіча, асуджанага на 25 гадоў, завезлі ў Інту, дзе ён працаваў у шахце, глыбока пад зямлёй. Спачатку вязняў месяцамі не выпускалі на паверхню. Умовы працы былі вельмі цяжкімі, таму што не было ніякай механізацыі, усё рабілі ўручную. Дакучаў і пыл. У Шаплевіча развіўся сілікоз. Мучыўся ён і вачыма. Ды што ўжо казаць пра здароўе, калі ці не кожны дзень, спускаючыся ў шахту, ён мог думаць, што не вернецца жывым. Пазней, калі дазволілі падаць вестку пра сябе, у адным з лістоў ксёндз Шаплевіч напісаў: «Штодня, спускаючыся ў шахту, спадзяюся на сустрэчу з ксяндзом Казімірам Дамброўскім...»



Кс. Станіслаў Шаплевіч у адзенні вязня-шахцёра.

— Як жа ён можа спаткацца з ксяндзом Казімірам, — не маглі ўцяміць некаторыя нездагадлівыя. – Ён жа ведае, што нашага пробашча Казіміра забілі ў Калдычэве!

— Таму і піша, каб зразумелі, што можа загінуць. А могуць і забіць.

Аднойчы ўсё ж здарыўся выбух, і ксяндза Шаплевіча засыпала ў забоі, глухім і вузкім. Давялося праседзець там некалькі сутак. Аднаму Богу вядома, што тады ён перажыў. Здараліся і цяжкія траўмы. У шахце не было аніякай механізацыі, ваганеткі з вуглем цягалі самі вязні. Аднойчы ў забоі Шаплевіч акалечыў плячо, і яго нават паклалі ў турэмны шпіталь. Шаплевіч надарваўся, і яму мусілі зрабіць аперацыю. Пазней, ужо ў 1955 годзе, яго прызначылі газамершчыкам. Ён першым абавязаны быў спускацца ў шахту і вызначаць канцэнтрацыю метану, а таму ад яго пільнасці залежала бяспека працы шахцёраў.

У цяжкіх умовах лагернага жыцця ксёндз Шаплевіч не пераставаў быць святаром. Ён верыў, што ягоная місія толькі



Парафіяне дараўскага касцёла, якія аднавілі сваю святыню.

перарваная, але не скончаная. Таму і ў далёкай Інце, за тысячы кіламетраў ад Дарава, дараўскі пробашч турбаваўся, каб ягоныя парафіяне не зняверыліся. А тыя, сваім чарадом, падтрымоўвалі яго матэрыяльна, рэгулярна пасылалі пасылкі. І чаго толькі не было ў тых пасылках! Прыслалі і акрайчык хлеба, пасвенчанага ў дзень святой Агаты, каб ён аберагаў вязня Шаплевіча ад агню і пажару ў шахце. А з костачак сушаных вішняў ксёндз Шаплевіч зрабіў сабе ружанец.

Аднойчы ягоны сябра, які ўжо адбыў свой тэрмін і жыў на вольным пасяленні, прынёс Шаплевічу незвычайную пасылку. Яна была лёгкай – звычайна парафіяне прысылалі толькі дзесяцікілаграмовыя пасылкі,— важыла толькі адзін кілаграм і сто грамаў. Але замоўлены кошт быў вялікі — сто рублёў. Шаплевіч раскрыў пасылку: сутана, комжа, стула... З ягоных вачэй міжволі паплылі слёзы.

Колькі летаў і зімаў мінула з таго вераснёвага дня 1939 года, калі ў хаце Марыі Віктаровіч ён таксама са слязьмі ў вачах скідаў свае святарскія шаты! Колькі гадоў ужо — у будзень і ў святы — ён хадзіў у ватоўцы і брызентавых нагавіцах. Хадзіў апрануты так, як і відаць на адным з фотаздымкаў. Ды ўжо неўзабаве, прадвеснем 1956 года, усё яшчэ вязень Шаплевіч апрануў сутану і патаемна пачаў далучаць да хрысціянскай супольнасці немаўлятак, дзетак нядаўніх вязняў, ужо вольных людзей.

**Вяртанне**

Пасля смерці «правадыра» дараўчане ўзяліся збіраць подпісы пад патрабаваннем вызваліць невінаватага пробашча. У лісце ад 23 лютага 1955 года ксёндз Шаплевіч прасіў падзякаваць «цёці Мальвіне» (Мальвіне Бондар) за яе ініцыятыву.

У архіве ксяндза Станіслава Шаплевіча захавалася некалькі фотаздымкаў 1956 года. На адным — сам Шаплевіч у цывільным летнім адзеннні, а на другім ён з дзецьмі. Дарэчы, гэтую дату — 1956 год — вязень Шаплевіч падаў у лісце, датаваным 22. 08.55. І сапраўды ў1956 годзе, 28 ліпеня, ужо вольнаму Шаплевічу Станіславу Мікалаевічу была выдадзеная характарыстыка, у якой ягоная праца ў шахце ацэньвалася на «выдатна».

У 1956 годзе ксёндз Станіслаў Шаплевіч прыехаў у Мінск. Дараўчане выправілі да яго пасланцаў з прапановай вярнуцца ў родную парафію. Але ў той час дараўскі касцёл зноў забралі ў вернікаў і зрабілі там склад. Часова ксёндз Шаплевіч прыпыніўся ў Баранавічах і замяняў мясцовага пробашча. А ў 1958 годзе ён пераехаў у вёску Макееўшчына, дзе была капліца. Праз намаганні вернікаў яму дазволілі праводзіць Імшу і выконваць усе неабходныя абрады. У наваколлі не было касцёлаў, і ў Макееўшчыну ішлі ды ехалі вернікі. Уладам такая дзейнасць ксяндза Шаплевіча не падабалася, а таму 11 лістапада 1960 года ўпаўнаважаны па справах рэлігійных культаў забраў у яго рэгістрацыйную карту і забараніў цэлебраваць Імшу і праводзіць іншыя абрады. Аднак ні ксёндз, ні вернікі не скарыліся. У адным пакоі ксяндзовай хаты была абсталявана капліца, і «падпольны касцёл» працягваў служыць людзям.

Улады даведаліся пра таемную дзейнасць ксяндза Шаплевіча і некалькі разоў, падчас касцёльных святаў, спрабавалі раптоўным наездам выявіць «факт богаслужэння». Урэшце яны вырашылі знішчыць макееўшчынскую капліцу. Першы раз разбуральнікі прыехалі 8 ліпеня 1964 года, але тады мясцовыя жыхары абаранілі святыню. Аднак праз шэсць дзён у Макееўшчыну панаехала міліцыі, прыгналі і пажарныя машыны. Абаронцаў збівалі з ног вадою з брансбойтаў, хапалі і запіхвалі ў міліцэйскія варанкі, а пажарнікі баграмі расцягвалі сцены капліцы.

Для хворага ксяндза гэта быў страшны ўдар. Ён быў вымушаны легчы ў шпіталь, але падлячыўшыся, зноў пачаў апекавацца вернікамі, шмат каму дапамагаў і матэрыяльна. Касцёльныя ўлады не раз прапаноўвалі ксяндзу Шаплевічу пераехаць у іншую парафію, але ён адмаўляўся.

5 жніўня 1975 года ксяндза Шаплевіча паклікалі да хворай парафіянкі ў суседнюю вёску Русіны, і там у яго здарыўся сардэчны прыступ. На наступны дзень ксяндза Шаплевіча завезлі ў шпіталь у Баранавічы, але ўратаваць яго не ўдалося. 7 жніўня ён памёр.

Верныя парафіяне і пасля смерці пробашча працягвалі дамагацца вяртання дараўскай святыні. Урэшце яна была адваяваная і адноўленая самаахвярнымі, працавітымі вернікамі. А з нядаўняга часу парафіянаў і гасцей дараўскага касцёла вітае ягоны будаўнік і апякун, бюст якога сціпла прыпыніўся праваруч ад уваходу...

Ганна Серэхан

# Кантата У. Сыракомлі «Францішак Асізскі» і духоўныя пошукі літаратуры Рамантызму



### Лёс кантаты ў літаратуразнаўстве

Лібрэта кантаты «Францішак Асізскі», напісанае паэтам Уладзіславам Сыракомлем (Людвікам Кандратовічам), не выклікала асаблівай увагі крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Яно было надрукавана ў 1857 г. у першым нумары альманаха «Teka Wileńska» (Вільня), дзе была змешчана таксама частка гістарычнага эсэ У. Сыракомлі пад назваю «Мінск». Польскі даследчык Фелікс Фарнальчык у 1972 г. даў наступную ацэнку апублікаваным у альманаху лібрэта і эсэ: *«Гэтыя творы, як і некаторыя іншыя, напісаныя ў той жа перыяд, нечакана закраналі ноты пакорнай рэлігійнасці, у пэўным сэнсе нават згодніцтва і складання зброі ў барацьбе з сарматызмам. Гэтую з'яву можа растлумачыць тагачасны стан жыцця паэта, разбітага і прыгнечанага плёткамі, а таксама блізкае супрацоўніцтва з прыслужлівым рэдактарам „Teki" Адамам Ганоры Кіркорам, што павінна было пацягнуць за сабою адрачэнне Сыракомлі ад празмерна радыкальных сацыяльных і палітычных акцэнтаў, якія не маглі быць ухваленыя патронам»*[1]. Пры гэтым, пішучы пра тагачасны стан жыцця паэта, даследчык спасылаецца на ліст самога Уладзіслава Сыракомлі да Яна Хэнцінькага ад 15 лістапада 1857 года: *«Колькі ж мне цяпер даводзіцца зносіць цяжкасцяў, цярпець болю, сапраўдных пакутаў на гэтай зямлі, — цяжка табе апісаць. У хворым сэрцы, у збалелай галаве такое бязладдзе, што я не магу скарыстацца нават самым дзейсным лекам ад духоўных пакутаў — працаю. Пяро выпадае з рук»*[2].

Як бачым, той этап творчасці У. Сыракомлі, у які было напісана лібрэта «Францішак Асізскі», польскім даследчыкам ацэньваецца як упадніцкі, а сам твор згадваецца як вынік бясплённых духоўных пакутаў аўтара і сведчанне яго адступлення ад сапраўдных эстэтычных прынцыпаў.

Такое меркаванне пра кантату бадай адзінае ў літаратуразнаўстве. Пра яго няслушнасць сведчыць найперш суб'ектыўная і неаргументаваная ацэначная характарыстыка, дадзеная даследчыкам і самому У. Сыракомлю, і яго выдаўцу А. Кіркору. Акрамя таго, існуе шэраг фактараў, няўлічаных Ф. Фарнальчыкам, якія дазваляюць абвергнуць гэтае меркаванне і разгледзець твор «лірніка вясковага» ў іншым кантэксце.

Па-першае, аб працэсе стварэння «Францішка Асізскага» У. Сыракомля сам коратка піша ў прадмове да лібрэта, выдадзенага асобнаю кніжкаю ў 1859 годзе: *«Прадмет натхніў нас у адзін момант. Па сваёй сутнасці ён патрабаваў араторыі, кантаты, адным словам, пэўнага музычнага апявання. У тую ж хвіліну мы паспяшаліся расказаць пра яго нашаму знакамітаму Станіславу Манюшку, а запал, з якім слаўны маэстра прыняў і падзяліў нашую думку, так горача паўплываў на нас, што гэтую кантату мы напісалі на адным дыханні»*[3]. Відавочна, творчы ўздым, у якім прызнаваўся У. Сыракомля, не стасуецца з думкаю Ф. Фарнальчыка адносна «разбітага і прыгнеча-

**Ганна СЕРЭХАН** — аспірантка філалагічнага факультэта БДУ, супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Нарадзілася ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці. Закончыла філфак БДУ (2007). Займаецца даследаваннем польскамоўнай плыні беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010).

нага» духоўнага стану паэта ў час працы над кантатаю, нават калі ўлічыць той факт, што ў год яе напісання У. Сыракомля сапраўды перажываў моманты духоўнага і творчага крызісу.

Па-другое, працуючы над гэтым творам, У. Сыракомля, як ніхто іншы ў гэты перыяд развіцця літаратуры Беларусі, ішоў у нагу з часам, таму што менавіта ў XIX стагоддзі, з росквітам Рамантызму, у еўрапейскай культуры ажыў культ святога Францішка Асізскага.

Па-трэцяе, варта ўлічыць, што лібрэта У. Сыракомлі было напісана ў час перасследу Касцёла на землях былой Рэчы Паспалітай і ў перыяд паміж нацыянальна-вызваленчымі паўстаннямі. У гэтым кантэксце можна здзіўляцца рэлігійна-патрыятычнаму зместу твора, пры ўважлівым прачытанні якога кідаюцца ў вочы менавіта тыя «сацыяльныя і палітычныя акцэнты», што адмаўляў Ф. Фарнальчык.

Апошнія два аргументы варта разгледзець больш шырока, каб акрэсліць значэнне гэтага твора У. Сыракомлі ў гісторыі літаратуры Беларусі эпохі Рамантызму.

## Адраджэнне культу Францішка Асізскага і літаратуразнаўчыя даследаванні Рамантызму

Так, паводле шматлікіх даследаванняў, менавіта дзякуючы асобе святога Францішка Асізскага Італія стала радзімаю еўрапейскага Адраджэння, а само францішканства на працягу стагоддзяў мела істотны ўплыў на развіццё сусветнай культуры.

XIX стагоддзе асаблівым чынам палюбіла св. Францішка. Прааналізаваўшы шэраг фактараў, мы ўбачым, што цяжка ўявіць сабе развіццё Рамантызму без вяртання да таго віду духоўнасці, якая была сфармавана францішканскім рухам. Да росквіту культу св. Францішка яшчэ на пачатку XIX ст., хутчэй за ўсё, спрычыніліся дзве важныя гістарычныя падзеі: адкрыццё астанкаў святога, якое адбылося 12 снежня 1818 г., пасля пяцідзесяці дзвюх начэй сакрэтных раскопак (дазволеных Піем VII)[4], а таксама знаходка самых ранніх біяграфічных крыніцаў — «Першага» і «Другога» жыццяў Францішка Асізскага, напісаных Фамой Чэланскім адпаведна ў 1229 і 1247 гадах. Абедзве гэтыя біяграфіі, як і некаторыя іншыя крыніцы, былі цалкам знішчаныя ў 1266 г. згодна з рашэннем генеральнага капітула, які зацвердзіў афіцыйны статус «Вялікай легенды» св. Банавэнтуры з Баньорэджо як адзінага ўвасаблення вобраза св. Францішка. «Першае» жыццё было знойдзена і ўпершыню апублікаванае толькі ў 1768 г., а «Другое» — адкрытае ў канцы XVIII ст. і надрукаванае ў 1806 годзе[5]. Гэтыя фактары, а таксама пераклад «Кветачкаў святога Францішка» на нацыянальныя еўрапейскія мовы, спрычыніліся да таго, што ў перыяд Рамантызму асоба Асізскага Бедачыны была як бы нанова адкрытая. Да таго ж зразумела, што ў эпоху Асветніцтва, якая папярэднічала Рамантызму, не магла ўзнікнуць моцная зацікаўленасць святым містыкам.

Якія ж матывы францішканства выклікалі асаблівую сімпатыю ў рамантыкаў? Па-першае, гэта сам характар францішканскай дзейнасці, якая, паводле італьянскага даследчыка Аўгустына Джэмэллі, выклікала два эфекты: універсальны і прыватны: *«Універсальны — гэта распаўсюджанне больш „сыноўняй“, інтымнай і даверлівай рэлігійнасці <...>; прыватны — гэта імпульс развіцця індывідуальнасці ў асобных людзей і народаў. <...> У народаў францішканства <...> спрыяе развіццю рэгіянальных і нацыянальных (калі яны ёсць) рысаў, гаворачы на іх мове, выконваючы іх мелодыі, упарадкоўваючы і асвячаючы іх працу, вывучаючы іх звычаі, звяртаючыся да іх ідэалаў і прывязанасцяў, каб скіраваць іх да Бога»*[6]. Прынцыпы канкрэтнай любові і актыўнай дзейнасці, якія мелі асноўнае значэнне для асізскага святога ў XII ст., былі роднаснымі для культуры эпохі Рамантызму, што звярталася да Сярэднявечча і ідэалізавала яго як «залаты век» еўрапейскай культуры.

Па-другое, рамантыкам імпанавала асоба святога Францішка як Божага вандроўніка і паэта прыроды. Ні да яго, ні пасля яго не было святога, які быў бы настолькі моцна пачуццёва звязаны з прыродаю, што мог нават прапаведаваць жывым істотам і ўтаймоўваць стыхіі. Па словах французскага даследчыка літаратуры і прафесара Сарбоны, благаслаўлёнага Антуана Фрэдэрыка Азанама, гэтую моц св. Францішка «можна хіба што прыняць, можна толькі растлумачыць сілаю любові, якая рана ці позна любоў выклікае і заваёўвае»[7]. А. Ф. Азанам прысвяціў цэлае даследаванне развіццю італьянскай францішканскай паэзіі ў XIII ст., выдаўшы яго асобнаю кнігаю «Studi sulla poesia franceskana nel secolo XIII» (1852; цытаты ў артыкуле падаюцца паводле нямецкамоўнага перакладу гэтага выдання), дзе назваў св. Францішка Арфеем Сярэднявечча.

Верагодна, пры напісанні гэтай працы А. Ф. Азанам знаходзіўся пад уплывам брашуры нямецкага рамантыка Ёзафа Гёррэса «Der heilige Franziskus von Assisi. Ein Troubadur» («Святы Францішак Асізскі. Трубадур»; 1828) і запазычыў з яе шмат арыгінальных думак.

Ё. Гёррэс упершыню звярнуў увагу на рыцарскія і трубадурскія якасці святога, і гэтая навізна ў разуменні яго асобы асабліва важная для нас у тым кантэксце, у якім была напісана кантата У. Сыракомлі «Францішак Асізскі».

### Адступленне ад прынцыпаў ці пошукі свабоды?

Адметна, што ў кантаце святы з Асізі паўстае ў дзвюх трубадурскіх іпастасях: як пясняр Бога і як пясняр айчыны. І ў першай, і ў другой іпастасі ён перажывае духоўную барацьбу: спачатку з салаўём, а затым з самім сабою. Паводле прызнання У. Сыракомлі, ідэю для свайго твора і сюжэт спаборніцтва з салаўём ён узяў з даследавання А. Ф. Азанама, а менавіта са складзенага ім жыццяпіса св. Францішка з мэтаю патлумачыць «Боскую камедыю» Дантэ.[8] У французскага даследчыка ёсць вельмі сціслая, але сапраўды натхняльная згадка, з якой, па ўсёй верагоднасці, і зыходзіў У. Сыракомля: *«У часы юнацтва ён [Францішак. — Г. С.] напаўняў сваімі песнямі завулкі Асізі, а пасля навяртання Францішка яго пабожныя спевы адгукаліся рэхам у пустках. Аднойчы вечарам там яго крануў да слёз спеў салаўя, і Францішак адчуваў, што павінен адказаць на яго. Абодва позняй ноччу пачалі праслаўляць Бога. Легенда распавядае таксама аб тым, што Францішак першы выбіўся з сілаў і ўсхваляў птушку за тое, што яна перамагла яго»*[9].

Сутнасць жа гэтага спаборніцтва, паводле твора У. Сыракомлі, заключалася ў тым, каб даведацца, хто са стварэнняў здольны найлепш праславіць Бога — чалавек, душа якога часам абцяжараная эгаізмам, але здольная любіць, плакаць і раскайвацца, або птушка, якая заўжды спявае шчыра, бескарыслівa і проста — так, «як сніць душа», але шчабеча толькі адну песеньку. Паводле знешняга развіцця сюжэта, салавей сапраўды перамагае Францішка. Але У. Сыракомля раскрывае ў сваім творы ўлюбёную рамантыкамі «ўнутраную рэчаіснасць», у якой выяўляецца, што Бог насамрэч неабдымны і ніякі гімн хвалы не здолее выказаць усю Яго славу і веліч. Таму фактычна пераможцы ў гэтым спаборніцтве Божых стварэнняў быць не можа. Акрамя таго, кантата пачынаецца і заканчваецца агульным хорам, які заахвочвае анёлаў, людзей і птушак спяваць «малітву сусвету». Хіба што менавіта гэтая малітва здольная выказаць хвалу Богу, калі яна з'яднае ўвесь свет «адным пачуццём» — нябачнай, але гарманічнай сувяззю, якая ў эстэтыцы Рамантызму адпавядае ідэі *correspondances*[10].

Аднак эпізодам спаборніцтва святога Францішка з салаўём Сыракомлева запазычанне з расповеду А. Ф. Азанама заканчваецца. Пасля гэтага паэт уводзіць у канфлікт яшчэ адну ідэю — ідэю апявання і праслаўлення айчыны. Яе ўвасабляе грамада менестрэляў, якія разам з войскам рыцараў праходзяць праз тыя мясціны, дзе Францішак размаўляў з прыродаю і аддаваўся забыццю ў малітоўным экстазе, што, зрэшты, было вынікам усведамлення яго бяссілля ў спробе праславіць Бога. У той час як рэха песні менестрэляў «свавольна змешваецца з урачыстым гімнам прыроды», Францішак сутыкаецца з новаю «спакусаю», здавалася б, самаю высакароднаю — паддацца запалу, якім ён гарэў у маладосці, марачы стаць рыцарам, і скласці спеў на хвалу айчыны. На гэты раз Францішак таксама застаецца пераможаным — жаданнем уласнага сэрца. Пазнейшае раскаянне святога ў тым, што ён звярнуўся душою да свецкае песні, запалаў зямною жарсцю, зусім не азначае, што ў творы сцвярджаецца пагарда да зямных, прамінальных рэчаў (магчыма, у гэтым даследчык Ф. Фарнальчык і бачыў уцёкі У. Сыракомлі ад сацыяльных і палітычных акцэнтаў), дый такая пазіцыя зусім не адпавядае францішканскай духоўнасці[11]. У гэтым павароце сюжэта выяўляецца іншая ідэя — свабода сэрца. Яна дазваляе горача любіць айчыну, але не заклікае «спяваць пры двары яе ўладароў». Такім чынам у створаным У. Сыракомлем вобразе Францішка Азіскага трубадур, пясняр Бога, выцясняе трубадура рыцарскай дружыны, які ўжо паводле самога значэння слова «знаходзіцца на службе» і, як не раз падкрэслена У. Сыракомлем, спявае па загадзе.

У гэтым сэнсе паэт узнімаў праблему мастацтва і яго ўзаемаадносінаў з зямным валадарствам. А тое, што У. Сыракомля напісаў твор пра святога Францішка ў час праследу Касцёла ў сваёй айчыне, яшчэ раз выяўляе яго асабістае стаўленне да гэтай праблемы.

Выснову з усіх разважанняў хацелася б угрунтаваць на яшчэ адным выказванні А. Ф. Азанама, якое, па ўсёй верагоднасці, мог ведаць і У. Сыракомля: *«Рэлігійным і палітычным ідэям <...>, нібы зброя, павінна быць падпарадкаванае слова. Перш чым яны запануюць над душамі, яны павінны быць абвешчаныя не на мове вучоных, а на мове ўсіх, і перш чым яны ўтвораць народ, яны павінны стварыць літаратуру»*[12]. Калі аднесці гэтае выказванне да кантаты «Францішак Асізскі», то можна яшчэ раз пераканацца ў тым, што з дапамогаю вобраза вялікага святога У. Сыракомля падпарадкоўвае патрыятычную

ідэю духоўнай і абедзве разглядае ў дачыненні да мастацтва слова. Важна таксама, што ўся творчасць У. Сыракомлі прыпала на перыяд нацыятворчага працэсу сярод этнасаў былой Рэчы Паспалітай, і ў фармаванні беларускага народа яго двухмоўная паэзія, несумненна, была той зброяй, пра якую пісаў французскі даследчык. Не выключана і тое, што праз вобраз Францішка Асізскага У. Сыракомля прапаноўваў беларускаму мастацтву слова патэнцыяльны шлях развіцця, а творцам рабіць свой выбар — ісці па слядах «святога вызнаўцы» ці «ляснога спевака» (салаўя) і «пасланніка забавы» (менестрэля), што, зрэшты, было актуальным пытаннем ва ўсе часы.

[1] Fornalczyk F. Hardy lirnik wioskowy. Studium o Kondratowiczu-Syrokomli. – Poznac, 1972. – S. 372–373. [Тут і далей пераклад з польскай мовы аўтара артыкула. — Г. С.]
[2] Syrokomla o sobie. Przepisał i objaśnił Władysław Rajmund Korotyński. – Warszawa: Nakładem księgarni Teodora Paprockiego i S-ki 41, 1896. – S. 45.
[3] Władysław Syrokomla. Franciszek z Asissu. Kantata. – Wilno: Nakładem księgarni P. F. Rubena Rafałowicza, 1859. – S. 5–6.
[4] Гл.: Джемелли А. Францисканство / Перевод с итальянского И. Тимофеевой. – Москва: Духовная Библиотека, 2000. – С. 278.
[5] Гл.: Истоки францисканства. Святой Франциск Асизский: писания и биографии. Святая Клара Асизская: писания и биография. – Assisi: Movimento Francescano, 1996. – С. 179, 194, 330.
[6] Джемелли А. Францисканство... С. 96.
[7] Ozanam A. F. Italiens Franziskaner Dichter im dreizehnten Jahrhundert / Deutsch mit Zusätzen herausgegeben von Nikolaus Heinrich Julins. – Münster: Druck und Verlag der Theissingschen Buchhandlung, 1853. – S. 63. [Тут і далей пераклад з нямецкай мовы аўтара артыкула. — Г. С.]
[8] Władysław Syrokomla. Franciszek z Asissu… S. 5.
[9] Ozanam A. F. Italiens Franziskaner Dichter im dreizehnten Jahrhundert… S. 53.
[10] Гл.: Janion M. Gorączka romantyczna. – Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1975. – S. 56.
[11] Аўгустын Джэмэллі ў працы, прысвечанай развіццю францішканскага руху, наступным чынам піша пра характар францішканскага самаадрачэння: «...Яно не зыходзіць з нізкай ацэнкі чалавечых рэчаў, не пагарджае светам, каб было не так цяжка адпрэчыць яго ад сябе, не пазбягае людзей са страхам або агідаю, як гэта адбываецца ў адрачэнні тых аскетаў, якія вырашаюць праблему збаўлення, пазбягаючы ўсіх стварэнняў, упэўненыя, што ў духоўнай барацьбе перамагае той, хто пускаецца наўцёкі. Адрачэнне святога Францішка іншае: ён не адмаўляе прыгажосць свету, таму што гэта азначала б не прызнаваць яе Створцу; ён не адмаўляе любоў; ён адмаўляе валоданне і жаданне валодаць» (Джемелли А. Францисканство... С. 30).
[12] Ozanam A. F. Italiens Franziskaner Dichter im dreizehnten Jahrhundert... S. 43.

Уладзіслаў Сыракомля

# Францішак Асізскі

## КАНТАТА

(УРЫЎКІ)

### 6
### РЭЧЫТАТЫЎ

З цокатам коней і грукатам зброі,
З харамі песняў, па звычаі слаўным,
Рыцары світай ішлі гаманкою
Там, дзе Францішак маліўся нядаўна...
Раптам, увесь забыццём ахінуты,
Ён абудзіўся... Прыўзняўся паслухаць:
Рытм тае песні, знянацку пачутай,
Быў нечужы для ягонага вуха:
Рыцараў ён, як і ўсе даўніною,
За змагароў лічыў Краю й Касцёла,
Ведаў таму і любіў ён душою
Спеў менестрэляў[1], самотны й вясёлы.
Жарсць вершавання, па музыцы скруха
Грудзі Францішку часамі паліла,
Бог, Які прыадкрывае свет духу,
Даў юнаку песнятворчыя сілы.
Прагу пачуў ён цяпер да спявання
Пра перамогі, узнятыя чары...
Рукі дрыжаць пачалі ў хваляванні,
Быццам шукаючы струны кіфары.
Ды не было яе там пад рукою —
Засумаваў, як дзіця без забавы.
Сіла ж натхнення нястрымнай ракою
Несла яго ў свет бурлівы, цікавы,
Свет барацьбы, перамог і кахання —
Ніва багатая тут для паэта...
Толькі Францішак здаўна вёў змаганне
Ў сэрцы з пачуццямі гэтага свету.
Сэрца ж ірвалася з сілай мацнейшай
Выказаць жалі зямныя і справы.
Выбраў між спеваў зямных найсвяцейшы —
Спеў пра Айчыну і ейную славу.
І хоць не меў ён з сабою кіфары,
Стаў напяваць, аб чым сэрца прасіла.
Свецкае песні паддаўшыся чарам,
Спеў ён узнёс для зямлі сваёй мілай.

<...>

9
## МАЛІТВА ФРАНЦІШКА

Пане, Пане, Божа мой,
Прабачэння ласку дай:
На зямны спяваў я строй
І любіў замоцна край!
На хвалу яго пасмеў
Я адданы ўзнесці спеў!

Песняў, гімнаў жа ў Табе
Боскі тоіцца выток,
Ведаў гэта, ды ў журбе
Думку вёў я ў іншы бок!
Просіць жа зямны Твой сын
Прабачэння сваіх він!

Прабачэнне, Божа, дай
За той жар на сэрца дне:
Як успомню родны край,
Дык душа да песні мкне!
А як Богу ўзносіў спеў —
Сіл забракла, аслабеў!

Годзе, спеў зямны, служыць
Для зямной хвалы і спраў!
Мог бы сэрца ты спаліць —
Не таму Бог сэрца даў!
О! Мяне ўжо ў ценю дрэў
Не спакусіць зямны спеў!

<...>

11

*Хор анёлаў*

Усцешся, сын чалавечы!
Пан рады тваёй ахвяры:
Замест прамінальных рэчаў
Надзеліць вышэйшым дарам:
Мелодыяй палкай нябеснай,
Што сэрца тваё палечыць
Ад жару зямное песні!
Усцешся, сын чалавечы!

*Хор салаўёў*

Наш спеў птушыны ўбогі
Хвалюе ўвесь гушчар,
Мы молімся да Бога
Праз дадзены нам дар!
Вазьміце ж нас, анёлы,
Да зор вазьміце нас!
Няхай наш спеўны голас
Дасягне неба ўраз.
Каб там... каб там...
Ля неба брам
Хтось даў адказ!..

*Францішак*

Перад птушкай і анёлам
Марным спеў людскі здаецца.
Можа ўзняцца ў неба з долу,
Толькі як сябе зрачэцца.
Як пакіне згубны цяжар
Зямных мэтаў і трывогаў,
Як пясняр сам крыжам ляжа,
Просіць літасці у Бога!
Спеў пакорны мой, мізэрны,
Толькі гэтак хай зазвоніць:
Слаўся, Божа міласэрны!
Слаўся вечна на Сіёне!

*Пераклад з польскай мовы Ганны Серэхан.*

[1] Менестрэль — прыдворны спявак і музыкант у Сярэднявеччы. У куртуазнай лірыцы апяваў рыцарскія подзвігі.

# Шаноўныя чытачы!

Пасля трох гадоў вядзення рубрыкі «Вера & Cultura» з'явілася ідэя злёгку рэфармаваць яе, у прыватнасці, зрабіць больш выразным яе тэматычны профіль. З гэтага нумару рубрыка будзе называцца «Вера & Socium», а гэта значыць, што ў фокусе нашай увагі будуць сацыяльныя праблемы, а дакладней, этычнае вымярэнне грамадскага жыцця.

Арыентацыя на грамадскія праблемы прадыктаваная не толькі жаданнем зрабіць рубрыку больш цікавай. У гэтым годзе спаўняецца 50 гадоў з часу з'яўлення адной з найважнейшых у гісторыі каталіцкага сацыяльнага навучання энцыклік — *Mater et Magistra* («Маці і Настаўніца»). У гэтым пасланні папа Ян XXIII асабліва адзначае наступнае (пункты 222 і 223):

*«Хочам перадусім падкрэсліць, што каталіцкае грамадскае навучанне з'яўляецца інтэгральнай часткай хрысціянскай канцэпцыі жыцця.*

*У сувязі з гэтым выказваем моцнае прагненне, каб яно вывучалася ўсё больш і больш грунтоўна. Яно павінна выкладацца як абавязковы прадмет у каталіцкіх школах любога тыпу, а асабліва ў духоўных семінарыях <...>. Апроч гэтага, было б вельмі пажадана, каб грамадскае навучанне было ўключана ў праграмы катэхізацыі, якая праводзіцца ў парафіях і ў згуртаваннях свецкага апостальства. Няхай каталіцкае грамадскае навучанне распаўсюджваецца ўсімі сучаснымі сродкамі, якімі мы валодаем: праз штодзённую прэсу, перыёдыку, навуковыя і папулярныя публікацыі, а таксама праз радыё і тэлебачанне».*

Для сотняў тысяч хрысціянаў з тых 60-х гадоў, якія апынуліся пад уладаю рэпрэсіўных рэжымаў сацыялістычнага блоку, пастырскі зварот благаслаўлёнага Яна XXIII быў як глыток свежага паветра. А заклік вывучаць і распаўсюджваць сацыяльнае навучанне Касцёла ўспрымаўся імі не як абавязак, а як самая што ні ёсць фундаментальная патрэба, бо яна тычылася пытання *быць ці не быць* свабодным чалавекам, вольным ад хлусні і страху. Варта паставіць самім сабе пытанне: ці адчуваем *мы* смагу, прагненне евангельскага слова? Ці адчуваем стымул гэтага слова да будавання атмасферы даверу і салідарнасці ў грамадскай прасторы? «Шчаслівыя галодныя і прагнучыя справядлівасці...» — кажа Пан Бог (Мц 5, 6).

Бягучы год — гэта таксама час, калі спаўняецца 20-я гадавіна такіх эпахальных падзеяў, як дэмантаж Арганізацыі Варшаўскага пакту, абвяшчэнне незалежнасці ўсімі рэспублікамі Савецкага Саюзу і падпісанне віскулёўскіх пагадненняў. Ведаем, што ўсё гэта суправаджалася не толькі складанымі дыпламатычнымі перамовамі, але і трагічным зыходам некаторых падзеяў. Каляндар 1991 года быў афарбаваны крывёю 14-ці гераічных абаронцаў тэлевежы ў Вільні і 8-мі ахоўнікаў літоўскай мяжы ў Медніках, расстраляных савецкім АМАПам, а таксама пазначаны эпізодамі цкавання, пераследу і запалохвання прыхільнікаў свабоды і незалежнасці літаральна ў кожнай саюзнай рэспубліцы.

Нам нельга забываць пра мучанікаў савецкай эпохі. І не толькі таму, што мы маем маральны абавязак перад імі, але таксама па прычыне, на якую ў 1992 годзе пранікнёна ўказаў адзін з найвялікшых каталіцкіх інтэлектуалаў Джордж Вайгель:

*«Нацызм і камунізм палі, але гэта зусім не значыць, што нейкі іншы інстытуцыйны носьбіт чалавечай нікчэмнасці не вылезе раптам наверх, кідаючы выклік і пагражаючы магчымасці стварэння гуманітарнага грамадскага парадку. <...> Адносны поспех барацьбы за свабоду ў эпоху Асвенціма і ГУЛАГу не азначае, што перасцярога св. Пятра (1 П 5, 8): "Будзьце цвярозымі, чувайце. Праціўнік ваш, д'ябал, як леў кружыць з рыкам, шукаючы, каго пажэрці", — згубіла сваю публічную або палітычную значнасць[1]».*

Бягучы год — гэта, урэшце, год беатыфікацыі Слугі Божага Яна Паўла II, асноватворцы новай канцэпцыі каталіцкага сацыяльнага вучэння, заснаванага на ідэях персаналізму. Гэта ён у першай — «праграмнай» — сваёй энцыкліцы *Redemptor hominis* асабліва падкрэсліваў, што *«чалавек — гэта дарога Касцёла, дарога яго штодзённага жыцця і досведу, яго апостальскай дзейнасці»*[2].

Мабыць, будзе цалкам апраўданым, калі першую тэму рубрыкі «Вера & Socium» мы прысвецім «першаму слову» каталіцкага сацыяльнага навучання: *асоба*. Прапаную рэфлексію над гэтым паняццем у повязі з двума іншымі – спадарожнымі — паняццямі: «народ» і «ўлада».

*Пётр Рудкоўскі OP*

Пётр Рудкоўскі OP

# АСОБА, НАРОД, УЛАДА

У другой палове 90-х гадоў у Беларусі з'явілася і здабыла немалую папулярнасць у колах творчай інтэлігенцыі кніга філосафа-эсэіста Валянціна Акудовіча «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека». Папулярнасць гэтага твору падаецца мне даволі сімптаматычнай. Тое, што брутальнае разбурэнне шэрагу ўяўленняў пра чалавека (і пра Бога) выклікала ў многіх цікавасць, сведчыць, мабыць, аб тым, што людзі, прынамсі падсвядома, пачалі адчуваць, што «нешта не так» з гуманістычным пафасам, які ўласцівы палітычным прамовам і культурніцкім праектам.

«Не народ для ўрада, а ўрад для народа», «дабро чалавека — прыярытэт нашай дзейнасці», «усё — для людзей, усё — для народа»... Чалавек у сучасным свеце надзвычай важны, але важны хутчэй як рытарычная фігура, як сукупнасць магічных графемаў і гукаў, якая дазваляе больш эфектыўна ўплываць на масавую свядомасць.

Мы, аднак, не можам спыніцца на разбурэнні. Нам варта сузіраць ікону Хрыста — праўдзівага Чалавека — і пытацца пра тое, што сталася з гэтай іконаю ў выпадку кожнага паасобнага чалавека. Ацэньваючы рознага роду палітычныя праграмы або ідэалагічныя маніфесты, нам, хрысціянам, варта звяртаць увагу на наступныя рэчы:

### А. *Ананімнасць — асабоваснасць*

Многія публічныя выступоўцы любяць спасылацца на «народ», але выкарыстоўваюць гэта паняцце такім чынам, што немагчыма адгадаць, да каго або да чаго гэтае слова «народ» адносіцца. Бывае, што вось такі неакрэслена-інфляцыйны спосаб аднясення да «народа» спалучаецца з арбітральным (пазбаўленым яскравых крытэраў) вызначэннем «ворагаў народу». У гэтым выпадку мы можам мець сур'ёзныя падставы падазраваць, што маем справу са звычайнай дэмагогіяй. Бо такія выступоўцы спасылаюцца не столькі на «народ», колькі на нейкую безаблічную, ананімна-аморфную масу, якой можна прыпісаць якія заўгодна рысы, можна паддаць якой заўгодна інжынерыі і ад імя народу навязаць таму ж самаму народу нешта цалкам яму неўласцівае (згадаць хаця б практыку перараблення натуральных народаў з іх спрадвечнымі звычаямі, культурай і мовай у штучны «савецкі народ»).

Прынцып «асабоваснасці» зусім не азначае, што неабходна заўжды згадваць імя чалавека або назву катэгорыі людзей, ад імя якіх публічны дзеяч нешта здзяйсняе. Справа ў тым, што за зборным паняццем народу хаваецца нешта больш фундаментальнае і сутнаснае: *канкрэтныя чалавечыя асобы*. Яны могуць (і нават павінны!) быць рознымі. І ў гэтай рознасці яны застаюцца паўнапраўнымі суб'ектамі дзеяння і ўздзеяння. «Народ» як рытарычная фігура нярэдка выкарыстоўваецца як інструмент скасавання натуральнага плюралізму ў грамадскай прасторы. У выніку адбываецца дэперсаналізацыя і ананімізацыя грамадства — працэсы, перад якімі няспынна асцерагае Касцёл у сваім сацыяльным навучанні, асабліва ў «Яна-Паўлавую» эпоху[3].

### Б. *Інтэгральнасць — разарванасць*

Чалавек — гэта цялесная і духоўная істота. Таму недастаткова кіравацца «воляй народа», але важна аналізаваць, *што* гэта за воля. Зайздрасць, жадоба помсты, нянавісць да пэўнай катэгорыі людзей — нават калі гэтыя рысы ўласцівыя абсалютнай большасці, не павінны ўтвараць аснову палітыкі. Нават калі 90% людзей крычыць: *відовішчаў і хлеба!* то гэта яшчэ не значыць, што трэба будаваць арэны і кідаць людзей галодным ільвам.

Пастулат інтэгральнасці (цэльнасці) з'яўляецца важным дапаўненнем пастулату асабоваснасці, бо кіруе ўвагу на чалавека як на *дынамічную* істоту. Чалавек развіваецца. Паказнікам спеласці грамадства ёсць выпрацоўка базавай аксіялогіі (сістэмы каштоўнасцяў), дзякуючы якой прадстаўнік дадзенага грамадства развіваецца не столькі як спажывец-матэрыяліст, а як культурны і духоўны творца.

### В. *Дыялагічнасць — маналагічнасць*

Чалавек развіваецца як асоба дзякуючы дыялогу. Дзеці, «выхаваныя» пры дапамозе загадаў і забаронаў, вырастаюць, як правіла, або бязвольнымі пешкамі, або агрэсіўнымі, схільнымі да гвалту над іншымі людзьмі (зрэшты, адно нярэдка

---

**Пётр РУДКОЎСКІ OP** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі ордэн. Абараніў магістэрскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце.

пераходзіць у другое). Падобная заканамернасць дзейнічае і ў маштабе ўсяго грамадства. Грамадства, дзе дамінуе прымітыўны двухпунктавы «закон»: 1) начальнік заўжды мае рацыю; 2) калі начальнік не мае рацыі, глядзі пункт 1 — гэта рабскае грамадства, незалежна ад таго, ці гэта XXI стагоддзе нашай ці *да* нашай эры.

Пераход ад рабскай пакорлівасці да грамадзянскай адказнасці адбываецца з узрастаннем культуры дыялогу. Пра гэтую культуру будзе асобная гаворка ў наступных артыкулах, а цяпер мы абмяжуемся зацемкай, што свабоднае грамадства чыніць лепшым жыццё не толькі звыклых грамадзянаў, але таксама — і перадусім — тых, што пры ўладзе. А гэта па той прычыне, што ва ўмовах дыялогу і пераступання бар'ераў градус страху значна ніжэйшы, чым у рабскім, маналагічным грамадстве.

* * *

Хтосьці мог бы запытацца, чаму менавіта чалавечая *асоба* тут названа «першым словам» каталіцкага грамадскага навучання, а не, напрыклад, *Бог* або *Хрыстус*. Прыгадаю словы Яна Паўла II: «*Хрыстус праз сваё ўцелаўленне нейкім чынам злучыўся з* кожным *чалавекам*»[4]. Значыць, абарона годнасці чалавечай асобы — гэта адначасова абарона Хрыста! Бог прысутнічае там, дзе мы адстойваем правы і годнасць асобы, аналагічна як Езус Хрыстус прысутнічае ўсюды там, дзе мы нешта ўчынілі або не ўчынілі «аднаму з Яго братоў найменшых»[5].

[1] George Weigel. *Ostateczna rewolucja. Kościół sprzeciwu a upadek komunizmu*. — Poznań: «W drodze». 1995. S. 65–66.
[2] Redemptor hominis, 14.
[3] Не буду пералічваць усе тыя дакументы або месцы, дзе рознымі спосабамі фармулюецца прынцып персаналізму, рэкамендую, аднак, звярнуць увагу на згаданую ўжо энцыкліку *Redemptor hominis* як на пасланне, наскрозь прасякнутае ідэямі годнасці і прыярытэтнасці чалавечай асобы.
[4] Redemptor hominis, 13.
[5] Пар. Мц 25, 31–46.

# Музыка падземнай цішыні…

У метро як нідзе хораша слухаць старажытныя грыгарыянскія харалы. У перапоўненым вагоне адразу становіцца ціха, пуста і гулка, паўкруглая столь выцягваецца, вастрэе і знікае недзе ў цёмнай вышыні. Сцены раўнеюць, пачынаюць выпіраць тонкімі рабрынамі. На парэнчах перамінаюцца з лапы на лапу маленькія жаўтавокія гаргулы, а пранізліва зялёныя цмокі, летучы над галавою, злёгку закранаюць валасы пергаментнымі крыламі...

Я сядаю на самы край халоднай каменнай лавы і ўслухоўваюся ў глыбокія, празрыстыя галасы. Яны коцяцца на мяне магутнымі хвалямі, высока ўздымаюцца і падаюць у самую бездань, і, адбіваючыся ад сценаў, зноў коцяцца, вяртаюцца ў сваю халаднаватую цёмна-сінюю вышыню. Падхопленая імі, баючыся захлынуцца ад немагчымасці змясціць у сабе ўсю паўнату гуку, я лячу кудысьці ўглыб. Ці ўвышкі? Вітражы кідаюць зверху і з левага боку выпрастаныя сухія промні: спелы жоўты, травяніста-зялёны, пяшчотна блакітны, сіні, ад якога аж рэжа ўваччу, такі густы чырвоны, быццам гранатавыя зярняткі, рассыпаныя па падлозе. Промні пачынаюць змяіцца па выцертых каменных плітах, складваючыся калейдаскопам у вытанчаныя сярэднявечныя трыпціхі. На іх ажываюць і пачынаюць кранаць тонкімі пальцамі струны ліраў і лютняў высакалобыя сумнавокія анёлы з вузкімі ластаўчынымі крыламі. Ледзь чутна, лёгка-лёгка, каб не абудзілася Дзіцятка на руках у Дзевы. Нябёсы кропяць расою, і яе пацеркі звіняць па камені.

Я сяджу так доўга, покуль рукі не пачынаюць нямець і налівацца халадэчаю, а ўсё, навокал і ўнутры, становіцца крохкім і празрыста-ільдзяным, нібы карункавы чэшскі крышталь у вітрыне той самай крамы, каля якой я праходжу амаль штодня і амаль кожны раз затрымліваюся, гледзячыся ў выгнутыя пералівы. Тады я ціха-ціха ўстаю з лавы, каб выпадкова не крануць, не патрывожыць цішыню, белую пухнатую котку, якая паспела ўжо ўлегчыся побач, саграваючы сваім целам халодны камень.

Я выходжу на поўную людзей платформу, атрасаю шэрань, ступаю ў плынь патрэбнага мне кірунку. А на кончыках валасоў, на вейках і на пальцах яшчэ дыхае марознай празрыстасцю музыка. А з кішэні выглядае і падміргвае мне бурштынавым вокам маленькі малахітавы цмок, які паспеў угняздзіцца бліжэй да нотнага скрутку. Дзіўна, я ніколі не кладу ноты ў кішэнь.

*Юлія Шэдзько*



Помнік Кірылу Тураўскаму
ў яго родным горадзе.
Скульптар Міхась Інькоў.

Уладзімір Конан

# Каля вытокаў беларускай тэалогіі: Кірыла Тураўскі

Продкі беларусаў далі хрысціянскаму свету трох выдатных тэолагаў і асветнікаў. Смаленскія крывічы выхавалі першага на Русі мітрапаліта славянскага роду Клімента Смаляціча. Крывічоў-палачанаў праславіў князь-чарадзей Усяслаў Брачыславіч. За сваё доўгае княжанне ў Полацку (1044–1101) ён стварыў вялікую дзяржаву — праўобраз будучай Беларусі. Ягоная ўнучка княжна Прадслава праславілася пад імем ігуменні і асветніцы Еўфрасінні Полацкай (каля 1110–1173). Урэшце, беларускае Палессе, старадаўняе Тураўскае княства, зямля дрыгавічоў, дала хрысціянскаму свету царкоўнага паэта, тэолага і філосафа, паводле словаў летапісца, «паче всех воссиявшего нам на Руси», Кірыла, епіскапа Тураўскага.

Ці выпадкова Беларусь у XII ст. стала калыскаю трох выдатных асветнікаў, паэтаў, багасловаў і прамоўцаў? Відавочна, што не выпадкова. Для беларускай культуры полацкага і турава-пінскага перыядаў (XI–XII стст.) характэрныя прыкметы паскоранага развіцця дзяржаўнай, прававой і рэлігійнай свядомасці, высокі ўзровень ужытковага і архітэктурнага мастацтва (полацкая і гарадзенская школы дойлідства), літаратуры (Тураўскае Евангелле XI ст). Гэта быў пачатак раннехрысціянскага адраджэння, народжанага сінтэзам творчых парываў маладога напаўязычніцкага этнасу, аскетычнага хрысціянскага падзвіжніцтва і прыўнесенай з Візантыі складанай эліністычнай культуры.

Сучасны Тураў, які толькі нядаўна вярнуў сабе статус горада, у эпоху ранняга Сярэднявечча быў сталіцай княства з канца X стагоддзя. Летапісец упершыню называе яго пад 980 г. у кантэксце аповесці пра няўдалае, трагічнае для палачанаў сватанне кіеўскага князя Уладзіміра Святаслававіча да Рагнеды, дачкі полацкага князя Рагвалода. «Бе бо Рогволъд перешел из заморья, имяше волость свою в Полотьске, а Тур в Турове, от него же и туровци прозвашася». І гэтая версія цалкам верагодная, бо на Русі існавала даўняя традыцыя называць гарады імёнамі іх заснавальнікаў.

Пасля прыняцця хрысціянства кіеўскі князь Уладзімір, якому ўдалося на пэўны час падпарадкаваць апорныя гарады на шляху «з варагаў у грэкі» (Ноўгарад, Полацк, Тураў, Кіеў), паставіў князем у Тураве свайго сына. Паводле версіі А. Грушэўскага, гэта мог быць сын забітага Уладзімірам Яраполка, былы кіеўскі князь Святаполк (каля 1013 г.), жанаты з дачкою польскага караля Баляслава. Разам з яго жонкаю-полькаю ў Тураў прыехаў яе духоўнік біскуп Рэйнберг. Ён, нібыта з ведама Баляслава, пачаў падбухторваць тураўскага князя прыняць каталіцтва і вызваліцца з-пад улады Кіева. Уладзімір даведаўся пра гэта і пасадзіў Святапол-

**Уладзімір КОНАН** нарадзіўся ў 1934 г. у вёсцы Вераскава на Навагрудчыне. Доктар філасофскіх навук. Аўтар кніг «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі: 1917–1934 гг.»; «Адам Бабарэка: Крытыка-біяграфічны нарыс»; «Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча»; «Ля вытокаў самапазнання: Сталенне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору»; «Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі», шматлікіх артыкулаў, нарысаў пра творчасць Ніла Гілевіча, Алеся Разанава, Вольгі Іпатавай, Іны Снарскай. Жыве ў Мінску.



Першая старонка «Слова на ўзнясенне Гасподняе» Кірылы Тураўскага.

ка ў астрог разам з жонкаю і Рэйнбергам. Далейшы іх лёс невядомы — мабыць, па хадайніцтве Баляслава іх вызвалілі. Пасля кароткага княжання Святаполка ў Тураве гэтым горадам амаль да смерці Яраслава Мудрага (1054 г.) кіравалі прысланыя з Кіева намеснікі, улада якіх, на думку М. Ермаловіча, не была абсалютнай і датычылася галоўным чынам шляхоў камунікацыі і штогадовай дані. Верагодна, з 1042 г. тураўскім князем быў Ізяслаў, малодшы сын Яраслава Мудрага, жанаты з сястрой польскага караля Казіміра. Пазней гэты Ізяслаў стаў вялікім князем кіеўскім, але згубіў свой пасад у вераснёўскім паўстанні кіяўлянаў (1068 г.), калі гараджане абвясцілі вялікім князем вызваленага з «порубу» полацкага Усяслава Чарадзея. Гэты мудры палкаводзец, пабыўшы сем месяцаў вялікім князем кіеўскім, не захацеў удзельнічаць у міжусобнай вайне кіеўскіх Яраславічаў і вярнуўся ў родны Полацк, каб абараняць сваю айчыну.

Тураўскае княства стала разменнай манетай у ваенна-дыпламатычнай гульні кіеўскіх князёў. Гаспадарылі тут Уладзімір Манамах і ягоныя нашчадкі, выкарыстоўваючы прыпяцка-дрыгавіцкі плацдарм для паходаў на Полаччыну. І ўсё ж у такіх цяжкіх умовах Тураўская зямля захавала сваю самабытнасць і аўтаномію. Яе адраджэнне пачалося ў другой палове XII ст., калі там умацаваўся князь Юрый Яраславіч, праўнук Манамаха. Палітычны і вайсковы вопыт гэты князь набыў у 1149–1154 гг., калі быў дарадцам князя Юрыя Даўгарукага. Раней ён парадніўся з Усеваладам Гарадзенскім, ажаніўшыся з яго дачкою. І вось у 1157 г. ён заняў Тураў, верагодна, пры падтрымцы тураўскіх баяраў і сялянаў. Вялікі князь кіеўскі Ізяслаў Давыдавіч арганізаваў два паходы (у 1158 і 1160 гг.) з мэтай вярнуць Тураў. У першым паходзе апрача кіяўлянаў удзельнічалі чарнігаўскія, валынскія, смаленскія, галіцкія і інш. дружыны, нават стэпавыя берандзеі. Мужна баранілі тураўцы свой умацаваны горад, рабілі смелыя вылазкі, прасілі міру і дружбы, каб не праліваць братнюю кроў. Але не атрымалі згоды ад кіеўскага князя. Аблога працягвалася 10 тыдняў і закончылася адступленнем войска кааліцыі.

Перамога 1158 г. для Турава азначала пачатак незалежнасці. Няўдачай закончыўся і паход кіеўскіх ды валынскіх князёў зімой 1160 года. Гэты поспех тураўцаў, падобны да цудоўнага Боскага выратавання, высока ўзняў аўтарытэт Юрыя Яраславіча, якому, урэшце, удалося заключыць мір з Кіевам (1162 г.). У гэтага заснавальніка тураўскай дынастыі было пяць сыноў і дзве дачкі. Пры яго сынах шматпакутная тураўская зямля залячыла свае раны, аднавіла гарады і вёскі. Тут пачалося самабытнае паўднёвабеларускае культурнае адраджэнне. Рэлігійным і паэтычным сведчаннем гэтага культурнага руху была творчасць Кірылы Тураўскага.

Звестак пра жыццё асветніка захавалася няшмат. Нарадзіўся ён, як мяркуюць даследчыкі, каля 1130 года. У рукапісных пралогах яго «Жыццё» — толькі кароткае царкоўнае праслаўленне: «Гэты шчасны Кірыла, — гаворыцца ў ім, — нарадзіўся і ўзгадаваўся ў месце Тураве». Сын заможных бацькоў, ён не любіў багацця і тленнай славы гэтага свету, найперш хацеў спасцігнуць вучэнне Боскіх кніг і добра напрактыкаваўся ў Святых Пісаннях. Пісьменнік па-майстэрску валодаў народнаю вобразнаю і царкоўнаславянскаю мовамі, ведаў візантыйскую культуру, асабліва паэзію і красамоўства, што дае падставы думаць пра яго добрае хатняе выхаванне. Пазней ён спасціг вышэйшыя навукі і мастацтвы ад грэчаскіх настаўнікаў. Рана стаў паслушнікам аднаго з тураўскіх манастыроў. «Пасля ж, прагнучы подзвігаў большых, увайшоў шчасны ў слуп (манастырскую вежу. — У. К.) і жыў нейкі час пустэльнікам, яшчэ болей працуючы ў поце і малітвах. І выклаў ён шмат Божых Пісанняў, і набыў славу вя-

лікую па ўсім тым краі».

Наш асветнік быў першым вядомым на Русі «стоўпнікам»: ён зачыніўся ў манастырскай вежы, каб цалкам аддацца роздуму і малітвам. Аднак і тут яскрава выявілася яго натура пісьменніка, філосафа і багаслова: у «стаўпе» ён не толькі сузіраў свет Божы і маліўся. У сваё затачэнне паслушнік перанёс багатую па тых часах бібліятэку і напісаў там свае першыя творы[1].

Недзе каля 1169 г. князь Юрый Яраславіч з тураўскімі старэйшынамі ўпрасілі манаха Кірыла прыняць епіскапства. Як засведчылі летапісцы, у самастойных княствах быць епіскапу таму, «его же восхощетъ Бог и Святая Богородица, изберутъ князь и людіе». Сваю пасаду Кірыла разглядаў як нялёгкі абавязак хрысціяніна і асветніка, бо яго ўзнёсла-паэтычная натура не была схільнай да іерархічнай кар'еры. У першы ж год свайго служэння тураўскі епіскап набыў вядомасць удзелам у так званай «справе Фядорца». Нейкі Фёдар з Уладзіміра-Суздальскага княства, выкарыстаўшы славалюбівыя планы князя Андрэя Багалюбскага, пры дапамозе інтрыгаў і подкупу дабіўся ад Канстанцінопаля стварэння незалежнай ад Кіева аб'яднанай Растова-Суздальскай і Уладзімірскай кафедры. Стаўшы на чале гэтай кафедры і не будучы па сваіх духоўных якасцях вартым яе, ён пачаў раскол да гэтага часу адзінай Праваслаўнай Царквы на Русі, жорстка распраўляючыся са сваімі праціўнікамі.

Кірыла Тураўскі дасціпна выкрываў ерась Фядорца і пракляў яго, а Андрэю Багалюбскаму напісаў пасланні па гэтай справе (яны не захаваліся). Урэшце, гэты Фядорац быў асуджаны кіеўскім Мітрапалітам і прыгавораны княскім судом да смяротнага пакарання. На думку даследчыка спадчыны Кірылы епіскапа Яўгенія, сваімі пасланнямі да Андрэя Багалюбскага, які двойчы рабаваў Кіеў (у 1169 і 1171 гг.), наш асветнік імкнуўся па-хрысціянску паўплываць на князя цэнтральнай Русі, дзе ствараўся цэнтр будучай Расіі. Зусім верагодна, што адзін з самых глыбокіх твораў Кірылы, «Прытча пра душу і цела (пра сляпога і кульгавага)», меў канкрэтнага адрасата — уладзіміра-суздальскага князя, хоць, зразумела, выходзіў за рамкі канкрэтных гістарычных падзеяў[2].

Творы Кірылы Тураўскага набылі вялікую папулярнасць па ўсёй Русі і распаўсюджваліся ў спісах XIII–XVII стагоддзяў. Яго малітвы друкаваліся на Беларусі ў «Евангелии учительном» (Заблудаў, 1569) І. Фёдарава і П. Мсціслаўца, у «Малитвах повседневных» (Еўе, 1615; Вільня, 1635).

Казанні, альбо «словы» Кірылы ахопліваюць велікодны цыкл нядзельных і святочных дзён ад Вербніцы да Унебаўшэсця. Кожнае з іх, з'яўляючыся класічным творам красамоўніцкага мастацтва, адлюстроўвае пэўную грань багаслоўска-філасофскіх і грамадска-этычных поглядаў пісьменніка. Пры гэтым, калі тэалагічныя погляды Кірылы выяўлены яўна і не заўсёды ўзгадняюцца з артадаксальным багаслоўем, сацыяльна-філасофскае вучэнне прысутнічае ў яго творах у скрытых формах прыпавесцяў, у мастацкіх вобразах і сімвалах. Кірыла Тураўскі нідзе не сцвярджае, што Бог стварыў свет з «нічога», з нейкай пустаты, як гэта часам гаворыцца даследчыкамі хрысціянскай філасофскай анталогіі. Услед за ўсходнімі айцамі Царквы ён упадабняе Бога-Дэміурга да мастака і дойліда, які пабудаваў дасканалы твор — космас, зямлю і неба, стварыў расліны і жывёлаў, урэшце, чалавека — вянец гэтага тварэння. Распавядаючы пра цэнтральную падзею вербнага тыдня — трыумфальны ўезд Хрыста на асліцы з асляткам у Ерузалем за тыдзень да сваіх смяротных пакутаў і ўваскрасення — пісьменнік усклікае: «Ныне шествует в Иерусалим измеривай небо пядію и землю дланію». Таму і паслядоўнікаў Хрыста, духоўных кіраўнікоў хрысціянства — пат-



Старонкі з кнігі «Штодзённыя малітвы» з малітваю Кірылы Тураўскага. Вільня. Пачатак XVII ст.

рыярхаў, архіерэяў, ігуменаў, іярэяў «і ўсіх царкоўных настаўнікаў» — ён называе ўмелымі будаўнікамі «слаўнага і вельмі чэснага дому» («Слова ў нядзелю вербную»).

У «Слове на антыпасху» пісьменнік смелымі жывапіснымі метафарамі малюе вясновае абнаўленне прыроды як урачысты гімн прыгожага тварэння свайму Творцу: «Ныне солнце красуяся к высоте восходить и, радуяся, землю ограваетъ: взиде бо нам от гроба праведное солнце Хрыстос и вся верующая Ему спасаеть. <...> Днесь весна красуеться, оживляющи земное естество и бурніи ветри, тихо повевающе, плоды гобозуют [спеюць] и земля, семена питеюще, зелёную траву рождаеть. Весна убо красная вера есть Христосова, якоже крещеніем поражаеть человеческое поки естьство; бурніи же ветри — грехотворніи помыслы, иже покояніем претворишеся на добродетель — душеполезныя плоды гобозують. Земля же естьства нашаго, акы семя Слова Божіе пріимши <...>, дух спасенія рождаеть»[3]. У «Слове пра спаралізаванага» аўтар словамі гэтага пакутніка сцвярджае думку пра асноўную прыкмету Боскай прыроды Хрыста: Ён не чарадзей, нават не анёл, але сам Бог, таму што «слова Яго сталася справай». Бог жа адносна «твари», створанай Ім прыроды, выступае яе вярхоўным Заканадаўцам, які ўтрымлівае быццё ў стане дынамічнай, рухомай гармоніі («Слова пра сляпога»). Вось чаму ўваскрасенню Хрыстоваму радуецца ўся зямля, неба ўпрыгожваецца светачамі-зоркамі, і ўся прырода красуецца, прасветленая Збаўцам-Хрыстом, які, уцелавіўшыся, перайшоў з таго, трансцэндэнтнага, свету ў свет зямнога жыцця, каб абнавіць яго, прасвятліць Боскім святлом. У пакаяльных малітвах паэт Кірыла бачыць прамудрасць, дабро і красу Бога-Стваральніка паводле дасканаласці яго твору — сусвету, падпарадкаванага законам Боскай гармоніі: Божаю воляю зямля трымаецца ні на чым, мора абмежаванае пяском, Божаю воляю праведзеныя рэчышчы вялікіх і малых рэкаў, вада хмараў трымаецца ў паветры, сонца гарыць няспынна, месяц свеціць са страхам, і зоркі здзяйсняюць свой мудры рух.

Законы прыроды, паводле Кірылы Тураўскага, ёсць тое, што на метафарычнай мове багаслоўя называецца страхам Божым: ім «движется земля, расседается каменіе, животныя трепещють, горы куряться, светила раболепно служать, облаци и водушная тварь повеленіа творять» («Прыпавесць пра чалавечую душу і цела»). Філасофскія погляды Кірылы Тураўскага — гэта тэацэнтрызм, які толькі па аналогіі можна было б назваць ідэалізмам, бо закончаная сістэма аб'ектыўнага ідэалізму Гегеля грунтуецца на канцэпцыі абсалютнай ідэі як асновы быцця. Гэтая ідэя трансцэндэнтная адносна нашага сусвету і рэалізуецца паводле сваіх унутраных дыялектычных законаў: развіваючыся, пераходзіць у сваю процілегласць — іманентную прыроду (першае самаадмаўленне), якая ў сваю чаргу ў ходзе дыялектычнага руху самаадмаўляецца («адмаўленне адмаўлення»), праходзіць стадыі суб'ектыўнага духу (фенаменалогія самасвядомасці), аб'ектыўнага духу (грамадства і дзяржава, права і мараль), урэшце, на ўзроўні абсалютнага духу (мастацтва, рэлігія і філасофія) раскрываецца ва ўсёй сваёй паўнаце.

У адрозненне ад гегелеўскай навукова-філасофскай канцэпцыі быцця, Кірыла Тураўскі развіваў багаслоўскую традыцыю айцоў хрысціянскай Царквы, паводле якой Бог непазнавальны ў паняццях трансцэндэнтнага (па-за межамі людскога вопыту). Дух існуе як абсалютны суб'ект, які сімвалічна пазнаецца праз пазнанне і ўмілаванне створанага Ім дасканалага сусвету, праз веру і любоў да Яго, да адзінароднага і адзінасутнага з Ім Сына Езуса Хрыста, праз якога адбылася таямніца спалучэння Духа і цела, Бога і чалавека, трансцэндэнтнага і іманентнага сусветаў. А праз гэтую таямніцу сталася магчымым выратаванне чалавека і ўсёй прыроды, іх далучэнне да трэцяй Асобы Найсвяцейшай Тройцы — да Святога Духа. Сталася рэальнасцю перамога жыцця над смерцю, святасці над грахом.

Багаслоўская канцэпцыя Кірылы Тураўскага грунтуецца на гэтых асноўных пастулатах хрысціянскага светапогляду. У сваёй «Прыпавесці пра чалавечую душу і цела» ён абвяргае наіўны антрапацэнтрызм «бытавой» веры, папярэджваючы ад спакусы літаральнага тлумачэння сімволікі біблійных кніг, асабліва вядомых Божых słоваў: «Учынім чалавека паводле Нашага вобразу і Нашага падабенства» (Быц 1, 26). Падабенства гэтае, на думку Кірылы, існуе «не вобразам, а прытчаю», гэта значыць, іншасказальна і сімвалічна. Ён назваў ерассю погляды тых, хто насуперак здароваму сэнсу ўяўляе бясплотнага Бога цялесным.

Тут наш асветнік не мог не заўважыць супярэчнасці сваёй рэлігійнай антрапалогіі, бо сам прыкладаў да чалавека толькі цялесную і душэўную меркі, забыўшыся на трэці яго Божы дар — дух. Толькі сваёй духоўнасцю чалавек апраўдае біблійныя словы пра сваю богападобнасць

і свой вобраз Божы. Гэтае духоўнае адзінства Бога і чалавека ўвасобілася ў богачалавечай постаці Хрыста — другой Асобы Найсвяцейшай Тройцы. Дарэчы, у творах самога асветніка Кірылы ёсць шмат красамоўных і вобразных думак пра ўцелаўленне Сына Божага, які нарадзіўся, жыў з людзьмі і самаахвяраваўся для іх духоўнага абнаўлення. У «Слове на святы Вялікдзень» ён красамоўна пацвярджае богачалавечнасць Хрыста евангельскімі сведчаннямі: «Пред вчерашним днем Господь наш Исус Христос яко человек распинаем бе, и яко Бог и солнце помрачи и луну в кровь преложи; и тма бысть по всей земли; яко человек, воспив, испусти дух, но яко Бог землю потрясе, и каменье распадеся...» Як чалавек — памёр, а як Бог уваскрос на трэці дзень, перамог пекла смерці.

Хрысталагічная праблема, а больш дакладна, паэтычна-малітоўная апалогія Хрыста, надае разнастайным жанрам спадчыны беларускага асветніка цэласнасць, аб'ядноўвае яго філасофскія, эстэтычныя погляды, злучае яго аксіялогію з хрысціянскай тэалогіяй. Ён жыў у эпоху, калі хрысціянства на Русі яшчэ сутыкалася з жывой язычніцкай плынню ў народнай культуры, а сусветная Царква яшчэ не закончыла барацьбу з праціўнікамі Хрыста — «старазапаветнікамі», з разнастайнымі філасофскімі школамі гнастыцызму, прыхільнікі якога спалучалі хрысціянскія догматы з эліністычнымі філасофскімі сістэмамі.

У царкоўным асяроддзі сярэднявечнай Русі склалася негатывісцкая канцэпцыя язычніцкай культуры, паводле якой паганскія багі ёсць «бесы» альбо іх слугі, якіх неабходна выкрываць і па магчымасці не ўпамінаць іх імёны. На гэткім ідэалагічным фоне асветніцтва Кірылы Тураўскага вызначаецца сваёй памяркоўнасцю, цярпімасцю да народнай культуры. Паганская міфалогія ўяўлялася яму верай у Божы твор, а не ў самога Творцу. Праславіўшы сваім паэтычным красамоўствам Вялікдзень, асветнік зазначыў: «Обновися тварь: уже бо не нарекуться Богом стихія, ни солнце, ни огнь, ни источници, ни древеса <...>. Преста бо идолослуженіе, и погубися бесовьское насилье крестным таинством; и не токмо съпасеся человечь род, но и освятися Христовою верою <...>. Ныне зима греховная покаяніем престала есть и лед неверія богоразуменіем растаяся; зима убо язычьскаго кумирослуженія апостолскимь ученіем и Христовою верою престала есть»[6].

Верагодна, што наш асветнік не бачыў у язычніцтве сур'ёзнага праціўніка пасля таго, як свет язычнікаў прыняў Хрыста, абнавіўся ў купелі хрышчэння і стварыў сусветную Царкву паводле апостальскіх запаветаў. Затое крытыцы арыянства, прыхільнікі якога адмаўлялі самую найглыбейшую існасць хрысціянства — Боскую прыроду Хрыста і яго богачалавечую місію на зямлі, Кірыла Тураўскі прысвяціў асобны твор — «Слова на пахвалу 318-ці айцоў Нікейскага Сабору» (Візантыя, 325 г.). Як вядома, гэты Сабор асудзіў антытрынітарызм арыянства і прыняў асновы хрысціянскага Сімвалу веры — трыадзінства Бога, адзінасутнасць Сына з Айцом і Святым Духам. Асветнік дакладна вызначыў сутнасць вучэння «папы Александрыйскай царквы» Арыя: не толькі Хрыстус, але і ўсё створанае Богам — людзі і прырода — іншасказальна могуць называцца «сынамі Божымі»; адмаўленне прадвечнасці Хрыста. Наш асветнік рэдка карыстаўся лагічнымі довадамі ці спасылкамі на аўтарытэты. Ён спадзяваўся на сугестыўнасць (пераканальнасць) вытанчаных сродкаў паэзіі і прамоўніцкага мастацтва. Паводле яго думкі, «храбрыя і вялікія ваяводы Божыя» на Нікейскім Саборы заслугоўваюць большай пахвалы ад «летописьцев и песнотворцев», чым гераічныя справы цароў і палкаводцаў. Сам аўтар гэтага «Слова» не паскупіўся на вытанчаныя красамоўніцкія тропы-вобразы, каб узвысіць святых айцоў: «Вы есте рекы разумьнаго Рая, напоеше мир весь спасенага ученія и греховную скверну струями вашего наказанія омывающе. Замніи ангели, Божіему престолу присно предъстояще!» — і прынізіць Арыя, яго тагачасных і будучых паслядоўнікаў: «Новый Каине, вторый Іюдо, плътяный демоне..., церковьный всеми ведомый тать, необратьный разбойниче...».

Істотная прыкмета багаслоўскіх поглядаў Кірылы Тураўскага, пафас яго творчасці — не так барацьба супраць ерасяў, а хутчэй апафеоз евангельскай міласэрнасці, вастрыня адчування духоўнага нараджэння ў Хрысце. З абвяшчэннем Новага Запавету закон Майсееў страціў сваю выратавальную сілу, стаў фактам гісторыі рэлігіі, а ўсе старазапаветныя кнігі Біблii, яе шматлікія сюжэты, вобразы і прароцтвы захавалі сваю каштоўнасць як сімвалічная прэлюдыя да выратавальнай містэрыі Уваскрасення Сына Божага і духоўнага абнаўлення чалавека і сусвету.

У светлую велікодную нядзелю, узнёсла пісаў асветнік, збяднеў Стары Закон і парабацілася субота, — узбагацілася ж Царква Хрыстова, настала цар-

ства дня Яго ўваскрасення. Дарэмная надзея на ранейшы Закон, які ўжо не выратуе тых, хто спадзяецца на яго: «Птенець» (Хрыстус) ужо адляцеў, а «безумнии» сядзяць у пустым гняздзе. Асабліва ўразілі пісьменніка парадоксы ўзнікнення і пашырэння хрысціянства: сярод габрэяў Хрыстус стварыў цуды, а язычнікам даў ласку выратавання; юдэі явілі Хрыста, а язычнікі прынялі Яго; Ізраіль выракся Таго, Хто заклікаў яго да жыцця вечнага, і Хрыстус прывёў у валадарства нябеснае язычнікаў; і быў Ён юдэям на спакусу і падзенне, а язычнікам на славу і веру.

Кніжнікі і фарысеі пакляліся забіць апостала Паўла толькі за тое, што гэты прапаведнік хрысціянства развіваў тэалагічную дыялектыку, паводле якой Хрыстова ласка ўзнялася над старазапаветнымі законамі, адмяніла рода-племянныя імператывы Старога Запавету. Кірыла Тураўскі паслядоўна і ўмела развіваў гэты маральна-філасофскі матыў Апостала: «Миноваше бо уже ветъхый закон с требами козьих жертв и с предании старьческих заповедий, немогый исцелити человечьских недуг; ничтоже бо закон Моисеев соверьши, но всех предасть под грех. Сам же Творец твари и Законудавец приде обновить твари и спасти человека...» Сваё «Слова пра сляпога» тураўскі асветнік заканчвае апалогіяй гэтага першага хрысціяніна: «Но мы ныня, оставльше июдейскае злобесованіе, похвалим помилованнаго Богомь человека. Сій бо не токмо телесьныма прозре очима, но и душевьныма просветися зроком: на земли проповедьник бысть Сыну Божію и на небесех апостальскаго сподобися венца». У адпаведнасці з гэтай канцэпцыяй уздыму Хрыстовай ласкі і заняпаду Старога Закону пісьменнік стварае складаную іерархію паэтычных вобразаў і рэлігійных сімвалаў. У ёй, напрыклад, Елеонская гара, на якой прапаведаваў Хрыстус, узвысілася над Сінайскай гарою, дзе, паводле Бібліі, нябачны Бог даў Майсею асновы старазапаветных маралі і права.

Эпіграфам да антрапалагічнай канцэпцыі Кірылы Тураўскага маглі б стаць ягоныя ж словы з паэтычнай малітвы ў нядзелю пасля ранішняй літургіі: «Ведаю, што Ты прывёў мяне з нябыту ў быццё і ўпрыгожыў падобнасцю да вобразу Свайго, надзяліў мяне словам і розумам. Ты ўзнёс мяне вышэй усяго жывога і паставіў мяне валадаром усяго тварэння». З найвялікшай паэтычнай экспрэсіяй хрысціянскую думку пра супярэчлівасць чалавека, яго высокую духоўную місію на зямлі і ягонае ж падзенне праз грахі і спакусы зямныя пісьменнік выявіў у «Слове пра спаралізаванага», драматызаваўшы вядомы евангельскі эпізод. Як паэт, Кірыла дапоўніў эпічна спакойны і лаканічны расповед евангеліста пра чалавекалюбца Хрыста і безнадзейна хворага пакутніка, які трыццаць восем гадоў чакаў цуду збаўлення ад сваёй немачы. Паралізаваны пачынае з любімай паэтам споведзі ў сваіх грахах: «Усё цела маё расслаблена грахамі, а душа ўкушана ганебнымі страсцямі, і няма чалавека, які пашкадаваў бы мяне». У адказ чуе ад Хрыста: што ты кажаш — чалавека няма? Я дзеля цябе пакінуў скіпетр нябеснага валадарства, прыйшоў на зямлю, каб выратаваць людзей. Бог стварыў свет для цябе, чалавек: «Тебе ради солнце светом и теплотою служить, и луна съ звездами нощь обеляеть. Тебе для облаци дождемь землю напаяють, и земля всяку траву семениту и древи плодовитая на твою служьбу израстають. Тебе ради реки рыбы носять, и пустыни звери питаеть»[4].

Спавядальныя малітвы Кірылы Тураўскага — гэта шчырае лірычнае самараскрыццё душы чалавека перад сваімі нябеснымі бацькамі — Богам Айцом, Сынам Божым, Маці Божай і заступнікамі людзей перад Богам, яго святымі: «Знаю, — кажа той, хто спавядаецца, словамі паэта, — што Ты прывёў мяне з небыцця ў быццё і ўпрыгожыў падабенствам Свайго вобразу; даўшы ў дар мне слова і розум, Ты ўзнёс мяне вышэй за жывёлаў і паставіў валадаром усяго тварэння. І вось я, як дзіця, падмануты ворагам маім, падпаў ва ўладу крайняй пагібелі <...>. Хоць я ўвесь нячысты і апаганены, але спадзяюся на Тваю літасцівасць. Бо Ты не адхіліў дзве лепты ўдавы, але пахваліў яе пераважна перад іншымі, а таксама і мытара, што маліўся са скрухаю, апраўдаў» (пераклад мой. — У. К.)[5].

Бог, кажа паэт у сваіх малітвах, стварыў чалавека самаўладным, а ён падпарадкаваўся граху і нячысціку, зацямніўшы сваю першастворамую красу. І вось чалавек просіць Хрыста ўкрыжаваць цела яго страхам Божым, вызваліць думкі ад усяго зямнога і далучыць да нябеснага, а Багародзіцу моліць заступіцца перад нябесным Валадаром. Цыкл малітваў завяршае «Канон малітоўны» — своеасаблівы паэтычны «магістрал», які падсумоўвае палымяны самааналіз чалавека, самавыкрыццё яго неспакойнай душы, якая імкнецца да неба, але крылы яе абцяжараныя зямнымі жарсцямі — самалюбствам, зайздрасцю, злосцю, варожасцю, непрымірымасцю ды іншымі грахамі душы і цела.

Праблему чалавека ў яго грамадскім быцці Кірыла Тураўскі сімвалічна выявіў у двух выслоўях (кароткім і падрабязным) пра сляпога і кульгавага, альбо пра чалавечую душу і цела. Як і ў іншых сваіх творах, пісьменнік выкарыстаў тут у якасці сюжэтнай асновы вядомае евангельскае апавяданне пра «дамавітага» гаспадара, які насадзіў вінаград і паставіў варту каля яго варотаў, але развіў гэты сюжэт у складаны красамоўніцкі твор дыдактычна-філасофскага і сацыяльна-этычнага зместу. Дамавіты гаспадар тут сімвалізуе Бога, Стваральніка сусвету. Сад-вінаград (вертаград) — гэта зямля і «свет гэты»; кульгавы — цела чалавека, а сляпы — ягоная душа; агароджа вакол саду — законы і запаведзі Божыя, а незачыненыя вароты, якія вядуць у сад, — шлях да пазнання Творцы і створанага Ім сусвету. Сляпы і кульгавы, аб'яднаўшы свае сілы (сляпы нёс кульгавага, а кульгавы паказваў яму дарогу), самавольна трапілі ў сад, каб паспрабаваць забароненыя плады. Гэты «сімбіёз» «сляпой» душы і «кульгавага» цела сімвалізуе недасканаласць чалавечага грамадства, якое «кантрабандай» авалодала тайнамі Божага тварэння, не будучы гатовым (па сваёй грахоўнасці і маральнай недасканаласці) выкарыстаць іх для дабра.

У апошніх сваіх творах красамоўніцкага жанру (пасланнях да ігумена Кіева-Пячорскага манастыра Васіля) Кірыла Тураўскі ў шэрагу арыгінальных прыпавесцяў раскрыў глыбокі сацыяльна-этычны сэнс манаскага жыцця, ускосна крытыкаваў недасканаласць дзяржаўнага ладу, зямной улады наогул, якая служыць хутчэй грахоўнай прыродзе чалавека, чым яго духоўнаму ўдасканаленню. Вось тут, сярод чалавечай улады, выяўляецца духоўная місія «манаскага чыну»: яго мэта — даць чалавеку і грамадству ўзоры быцця з Богам і для Божага Провіду, жыцця паводле вядомай малітвы — ціхага і мірнага, у чысціні і адпаведнасці з Божай праўдай.

Найбольш поўны збор твораў Кірыла Тураўскага і нарыс яго багаслоўскіх поглядаў належыць беларускаму філолагу Аляксею Мельнікаву. На жаль, А. Мельнікаў рана развітаўся з жыццём, не паспеўшы дапрацаваць рукапіс сваёй манаграфіі разам з пашыраным зборнікам твораў хрысціянскага асветніка. У адпаведнасці з савецкай гісторыяграфіяй ён не акцэнтаваў беларускі аспект яго творчасці, разглядаў яго эпоху не як ранняе беларускае Сярэднявечча, а як створаную савецкімі ідэолагамі гіпатэтычную мадэль Старажытнай Русі.

Акрамя таго, у манаграфіі А. Мельнікава засталіся асобныя супярэчнасці. Характарызуючы літаратурны тып твораў Кірылы Тураўскага, ён спачатку адмаўляў іх арыгінальнасць і эстэтычную вартасць, акцэнтуючы іх адпаведнасць аскетычнай антыяхійскай багаслоўскай традыцыі, паводле якой багаслоўскі тэкст — гэта «свайго роду амплікацыя з цытатаў» Святога Пісання і айцоў Царквы. А ў канкрэтным аналізе тэкстаў нашага асветніка А. Мельнікаў дакладна фіксуе ўсю разнастайнасць іх паэтычных тропаў і мастацкай сімволікі: сінтаксічны паралелізм, прыём анафары, рытарычную ампліфікацыю, антытэзу, алегорыю, шырокае выкарыстанне эстэтыка-кампазіцыйных элементаў, прыём паралельных кампазіцыяў, таўталогію, аксюмаран, метанімію, арэчаўленне[6].

Ёсць усе падставы для даследавання паэтыкі і эстэтыкі творчасці пачынальніка беларускай экзегетыкі. У эстэтычным кантэксце ён быў пачынальнікам паэтычнай тэалогіі і экзегетыкі духоўнага перамянення чалавека і космасу. Ён жа ўпершыню закрануў праблему пераадолення язычніцкага і старазапаветнага ўяўлення пра вечнае быццё з Богам па аналогіі з грэшным зямным жыццём. І ў гэтым — актуальнасць яго хрысціянскай экзегетыкі ў гістарычнай рэтраспектыве і ў сучаснай цывілізацыі.

Для маладой нашай хрысціянскай культуры таго часу багаслоўская, паэтычная, красамоўніцкая і асветніцкая творчасць Кірылы Тураўскага была сапраўдным адкрыццём красы і мастацкай выяўленчай сілы роднае мовы. Пісьменнік добра ведаў класічную візантыйскую рыторыку і паэтыку, творча выкарыстаў гэтую багатую эстэтычную традыцыю, узбагаціўшы культуру і мову свайго народа.

[1] Кніга жыцій і хаджэнняў. Пераклад са старажытнарускай, старабеларускай і польскай / Уклад., прадм. і каментарыі А. Мельнікава. — Мінск: «Мастацкая літаратура», 1994. — С. 62.
[2] Творения святаго отца нашего Кирилла епископа Туровскаго. Издание преосвященнаго Евгения епископа Туравскаго... Киев, в типографии Киево-Печерской Лавры, 1880. С. XXI.
[3] Еремин И. П. Литературное наследие Кирилла Туровского // Труды отдела древнерусской литературы. Т. 13. — Москва–Ленинград, 1957. С. 416.
[4] Тамсама. С. 415–416.
[5] Творения святаго отца нашего Кирилла епископа Туровскаго... С. 122.
[6] Мельнікаў, А. А. Кірыл, епіскап Тураўскі. Жыццё, спадчына, светапогляд. — Мінск: «Беларуская навука», 2-е выданне, 2006.



**Васіль Зуёнак** — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзіўся ў 1935 г. у в. Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Кандыдат філалагічных навук. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Маладосць», сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1954 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980) і інш. Піша таксама для дзяцей. Жыве ў Мінску.

# Васіль Зуёнак

## Папраўка

Не ўсё мяняецца ў жыцці
І ставіцца на карту.
Аднак жа — што ў жыцці спасціг,
Зрэдчас паправіць варта.

Гадоў з гадамі глухне медзь,
Шырэюць сэнсу дзверы:
Людзей вучуся разумець,
А Богу — верыць.

## Пайшлі...

З усіх блуканняў, з расстайных дарог,
Як роднага брата,
Заўсёды сустрэне родны парог
Матчынай хаты.

Я пакідаў іх — аднюткіх-адных —
І хату, і маці.
Пайшоў — ад родных, яшчэ жывых,
Пайшоў — як страціў...

Чакала хата, пакуль на знос
Пайсці давялося.
Чакала мама — гукала свой лёс
У сынавым лёсе...

Не прыгукала — пайшла сама
Спытацца ў Бога...
Даўно парога ў мяне няма —
Адны дарогі...

* * *

Коласам зязюля папярхнулася —
На паўслове — шорсткай кропляй — «ку...»
І чарніц шматкроп'е сыпанулася:
Лета летапіс ужо ў чарнавіку.

Засталося, што не дагаворана,
Што не даспявана ў час было,
За шматкроп'ем... Чорнаю разораю
Гром заводзіць чорнае крыло.

Наступаюць ночы навальнічныя —
Аж да вераб'інай, напрасткі.
Дзень цяпер мой кожны — як пазычаны, —
У вякоў і, пэўна, на вякі.

Бо аддаць не маю чым... А трапіцца
Лішняя хвіліна, — Божа мой,
Падзяліся — вечнасць не растраціцца! —
Ты са мной хвілінай той зямной...

* * *

Былыя сябры — як маўклівыя ночы.
І хто так няўмольна разводзіць нас?..
Камусьці гадзіннікам пясочным
Магіла зямны адлічыла час...

А хтосьці — жывы — абраў адзіноту,
Думы самотна закратаваў,
Ці, у шынку дабіраючы квоту,
Восьмы дзесятак адкаркаваў...

Свет нахіляецца Шляхам Млечным,
Мядзведзіцы зорны пытальнік маўчыць.
Зямля на плечы цяжар чалавечы
Ўзяла, ды не можа грахі падлічыць...

Імглістa і вусцішна залачае.
Ці гэта сон мой ці сам я знік?..
І над магілай часу — маўчанне
Гучыць, нібы развітальны крык...

## 8 лістапада — 2004

Лістотай жоўтай сцежкі замяло,
І толькі вербы светла зелянеюць.
Аб чым ты шэпчаш, вечнасці крыло,
Грудкам пясчаным — сельскім маўзалеям?

Адзін між іх, магчыма б, і адкрыў
Мне хоць здалёк краёчак таямніцы.
Але маўчыць... Не можаш без пары
Ты перайсці бацькоўскія граніцы...

І час — маўчком адлічвае гады:
Паўвека раздзяляе нас маўчанне.
І як яно ўсё збудзецца тады —
Я ў гэты дзень асенні прыкмячаю.

Без ветразя, без плыткага вясла
Сплывае аблачынка ў шлях сусветны.
Як вестку ад цябе — мне Бог паслаў, —
Як тайны знак: дзень сонечны і светлы...

* * *

Не гукай, не пытайся: «Дзе вы?» —
У грахах, як багне, стаім.
Уратуй, Прачыстая Дзева,
Ахіні Пакровам сваім.

Літасцівае сэрца маці
Даў табе Усявышні для нас:
Мамай роднай у роднай хаце
Вобраз Твой з намі ў чорны час.

* * *

Ці мне крыўдаваць на зямлю,
Якую я сам неаднойчы
Пакрыўдзіў?

Якую люблю, —
О зямля, зямелька, —
Малю, —
Не шапчы мне: «Даруй, Васілёчак,
Што схавала маміны вочы...»

Не шапчы — не твая віна.
О зямля, зямелька, зямліца,
Паяднала вас з мамай труна, —
Ты адна, і мама адна —
І не дадзена вам паўтарыцца...

Не адолець долю — і збыцца
Ўсё павінна, што змушана быць...
Я дарую табе, зямліца...
Я гатовы табе пакланіцца —
Толькі ты абяцай мне адкрыцца:
Як там маме з табою жыць?
І чаму гэтак сэрца баліць?..

## Дарога да нябёс...

Нарэшце, здаўся студзень:
Пачуў ён гнеў, відаць, —
Смяецца: «Больш не будзеш
Бясснежжам папікаць?!
А то й яшчэ падкіну:
У лютага ўварву...»
Сумёты — вышай тыну,
А мне — па галаву.
Ніяк не разбяруся:
Тут лётаць ці хадзіць?..
І я ў адказ — смяюся,
Каб студзеню ўгадзіць:

— О, дзякуй і на гэтым,
І так праз берагі!..

На край зямлі і свету —
Снягі, снягі, снягі...

І санная дарога:
Дзве палазні — як лёс, —
Няхай і не да Бога,
Ды, пэўна, да нябёс...

## Трыванне

Народ узыходзіць са слова.
Так: слова было напачатку.
Слова — народа аснова,
Падмурак, у глебу зярнятка.

Слова — душа народа,
З'яднаная з роднай зямлёю.
Слова — сказанне свабоды,
Напісанае крывёю.

Слова — імгненне і вечнасць,
Вырваныя з маўчання.
Слова ратуе і лечыць
Ад роспачы і адчаю.

Слова — шляхоў і сцежак
Наканаванні няпростыя,
Зла і дабра межы,
І чалавек на ростанях.

Слова — Боскі апостал
І д'ябальская загадка.
Слова — гісторыі поступ
І запавет нашчадкам.

Будучыні зарука,
Памяць народа жывая,
Слова — стагоддзяў навука, —
Словам народ трывае.



**Алесь ЧОБАТ** — паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Скідзелі. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. Працаваў канструктарам, журналістам, навуковым супрацоўнікам. Аўтар кніг «Год», «Новая Галілея», «Ты не самотны...», «Край мой шчаслівы», «Крэсы» і шматлікіх гісторыка-псіхалагічных эсэ, апавяданняў, хронік і біяграфій. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Міжнароднага ПЭН-клуба. Жыве ў Скідзелі.

# Алесь Чобат

## Паланэз

Вось той Край! Чысцюткі, як сляза,
з аблокаў бліск ляза, прастора без канца,
той белы Край Марыйнага Крыжа
стаіць, як мур нябачны і як цень крывіцкага мяча,
у подыху вякоў
раскрыжаваны...

Край! Той Край, дзе правіць Бог
на ростанях дарог, — хоць сее смерць гарох! —
той Край, куды пад стрэху на парог
ляціць з чырвоным крыжам белы галубок,
той белы галубок
з чырвоным крыжам...

Край! Той Край, дзе свет цвіце
і з кнігі Крыж расце, а Слава дух нясе,
той Рай Зямны і Сад Нябесны, дзе ляцяць усе
жывых і мёртвых душы, і наўкол вякі трасе
той голас з глыбіні
ад Еўфрасінні і Скарыны...

Вось той Край! Жыцця шчаслівы сон,
высокі чысты звон гудзе з усіх старон —
і да мяне дачкой ад Божай Маці ўсцяж злятае ён,
калі мой прыйдзе час паўстаць праз смерці скон,
калі мой прыйдзе час —
заграйце Паланэза!

Жанна Некрашэвіч-Кароткая

# Нямецкі настаўнік беларускіх магнатаў: маральна-дыдактычныя вершы Ёгана Мюліуса з Лібенродэ

Філалагічная культура Еўропы канца XV–XVI ст. зрабіла вялікі ўплыў на развіццё эстэтычных і маральна-дыдактычных поглядаў. Вынаходніцтва кнігадруку ў сярэдзіне XV ст. было ўспрынята гуманістамі як сігнал да новага прачытання традыцыйных, спрадвечных (у першую чаргу хрысціянскіх) тэкстаў. Інструментамі для іх абнаўлення і інтэрпрэтацыі сталі паэтыка і рыторыка: гуманісты надалі гэтым фундаментальным тэарэтычным дысцыплінам антычнасці новую вагу[1]. У гэты час ізноў, пасля вопыту раннехрысціянскіх паэтаў Лактанцыя, Прудэнцыя, Клаўдзіяна, становіцца актуальнай задача паэтычнага перастварэння Бібліі, бо дзякуючы гэтаму бліжэй станавілася думка, што паэзія можа быць свяшчэннай»[2]. Асабліва моцна гэтая тэндэнцыя праявілася ў літаратурнай творчасці нямецкіх гуманістаў. Так, Эразм Ратэрдамскі стварыў новы падручнік па рыторыцы, ужыўшы для яго назвы біблейскае найменне прапаведніка — *Ecclesiastes*. На пачатку свайго трактата «Ecclesiastes, sive de ratione concionandi» («Эклезіяст, або правілы красамоўства», 1535) Эразм Ратэрдамскі разважае пра тое, якім павінен быць менавіта хрысціянскі прамоўца. Пры гэтым ён шырока выкарыстоўвае тэксты раннехрысціянскіх аўтараў — Арыгена, Тэртуліяна, Гіераніма, Хрызастома (Яна Златавуснага). Апроч таго, у творах гуманістаў Ульрыха фон Гутэна, Ёгана Ройхліна і іншых адлюстравана спецыфічнае, рэнесанснае разуменне ідэі *herois perfecti* (дасканалага героя) і гераічнай тэматыкі ў паэзіі наогул. Нямецкія аўтары дэкларуюць, што *studia humaniora* (вывучэнне гуманітарных дысцыплін) — настолькі ж арыстакратычны і высакародны від дзейнасці, як і ратныя подзвігі на полі бітвы, свайго кшталту подзвіг. Адпаведна, усё, што звязана з паэтычнымі заняткамі, вартае таго, каб апісваць «гераічным» памерам — гекзаметрам, якім былі напісаныя эпапеі Гамера і Вергілія. Мовай для падобных паэтычных інтэрпрэтацый служыла агульназразумелая ў Еўропе лаціна.

У 1511 г. Ульрых фон Гутэн напісаў і выдаў у Вітэнберзе падручнік па паэтычным майстэрстве на лацінскай мове «De arte versificandi» («Пра мастацтва вершаскладання») з падзагалоўкам *carmen heroicum* (гераічная песня). Ёган Ройхлін быў аўтарам трактатаў «De verbo mirifico» («Пра чарадзейнае слова», 1514), «De arte cabbalistica» («Пра кабалістычнае мастацтва», 1517) і іншых. У іх, адраджаючы асноўныя пастулаты старажытнагабрэйскай кабалы, нямецкі гуманіст сцвярджае Боскую прыроду вытанчанага слова, яго цудадзейную моц. Дзякуючы Ройхліну сфармавалася цікавасць да ўсіх трох «свяшчэнных» моваў — старажытнагабрэйскай, старажытнагрэчаскай і лацінскай. Такім чынам, паэты эпохі Рэнесанса значна пашырылі дыяпазон паняцця гераічнасці, адступіўшы ад прадпісанай Гарацыем тэматыкі *carmen heroicum*: *res gestae regumque ducumque et tristia belli* (гераічныя дзяянні каралёў і правадыроў, а таксама журботы вайны). Гэта вызначыла новыя арыенціры хрысціянскага асветніцтва: Святое Пісанне вельмі пажадана было прапагандаваць у форме вытанчанай паэзіі. На думку нямецкіх паэтаў XVI ст., праз паэтычную форму сіла маральнага і эстэтычнага ўздзеяння кананічных тэкстаў хрысціянства намнога ўзмацнялася.

Асаблівую папулярнасць набылі ў гэты час паэтычныя перастварэнні Псалтыра. З даўніх часоў Псалтыр лічыўся найважнейшым помнікам габрэйскай лірыкі і найпрыгажэйшай кнігай Старога Запавету. У 1531 г. выйшла першае выданне кнігі «Psalterium Davidis carmine redditum» («Псалтыр Давідавы ў вершаваным пералажэнні»). Яго аўтарам быў выдатны нямецкі філолаг-класік Эабан Гес, якога сучаснікі называлі «хрысціянскім Авідзіем»[3]. Паказальна, што прадмовы да гэтага выдання напісалі самыя вядомыя дзеячы нямецкага рэфармацыйнага руху — Марцін Лютэр і Філіп Меланхтон. Марцін Лю-

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Белдзяржуніверсітэта. Закончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры. Даследуе творы старажытнай беларускай літаратуры, пераважна помнікі лацінскай паэзіі эпохі Рэнесансу і ранняга Барока. Перакладае з лацінскай, польскай, царкоўнаславянскай і старабеларускай моваў. Аўтар кнігі «Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» (2002), укладальніца кнігі «Ян Вісліцкі. Пруская вайна» (2005), суаўтар акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (т. 1, 2006).




«Раздзелы хрысціянскага Катэхізіса», Кракаў, 1561.

тэр, падкрэсліўшы сваю асаблівую прыхільнасць менавіта да гэтай кнігі Бібліі («я з найвялікшай ахвотай чытаў, чытаю і заўсёды буду чытаць [Псалтыр]»), вельмі высока ацаніў задуму Эабана Геса: «... ты першы і, магчыма, адзіны ва ўсёй лацінскай славеснасці, хто пачаў гэтую Боскую паэзію ўзнаўляць у лацінскіх вершах»[4]. Не ў апошнюю чаргу менавіта ў такой устаноўцы нямецкіх гуманістаў на неабходнасць стварэння паэтычных біблейскіх тэкстаў трэба бачыць карані літаратурнага наватарства Францыска Скарыны, які яшчэ ў пражскіх выданнях сваёй Бібліі змясціў некалькі вершаў дыдактычнай накіраванасці, у тым ліку і паэтычнае перастварэнне Дэкалогу. Скарына, праўда, не зрабіў паэтычнага перастварэння Псалтыра, але затое яго Псалтыр, у парушэнне біблейскага канону, выйшаў першым з кніг Старога Запавету ў 1517 годзе.

Падобнага кірунку ў сваёй паэтычнай творчасці прытрымліваўся Ёган Мюліус (? — 1585), нараджэнец мястэчка Лібенродэ ў Цюрынгіі. Яго прыезд у Польскую Карону, а потым і ў Вялікае Княства Літоўскае ў сярэдзіне XVI ст. былі звязаны не толькі з пашырэннем рэфармацыйнага руху, але і з умовамі палітычнага жыцця ў нашай дзяржаве. Калі стала зразумела, што нават з трэцяй жонкай, Кацярынай фон Габсбург, кароль Жыгімонт Аўгуст не будзе мець нашчадкаў, абедзве нямецкія дынастыі — Габсбургі і Гогенцолерны — пачалі рыхтаваць грунт для таго, каб хтосьці з іх прадстаўнікоў атрымаў каралеўскі сталец у Кракаве і велікакняжацкі сталец у Вільні[5]. У такіх спрыяльных для сябе абставінах Ёган Мюліус змог знайсці падтрымку буйных польскіх і беларускіх магнатаў: сандамірскага кашталяна Станіслава Мацяёўскага, маршалка і найвышэйшага канцлера Мікалая Радзівіла Чорнага (які, дарэчы, намагаўся заключыць шлюб з дачкой кайзера Фердынанда), а таксама віленскага кашталяна Грыгорыя Хадкевіча. У 1560 г. у Кракаве выйшаў з друку зборнік вершаў Ёгана Мюліуса на лацінскай і старажытнагрэчаскай мовах «Praecipua christianae pietatis capita, in quibus summatim veteris ac novi Testamenti doctrina compraehenditur, variis carminum generibus reddita» (*Найважнейшыя палажэнні хрысціянскай набожнасці, у якіх коратка раскрываецца вучэнне Старога і Новага Тэстамэнтаў, выкладзенае ў вершах разнастайных жанраў*), а таксама элегічны верш «In nativitatem et circumcisionem Jesu Christi Salvatoris» (*Нараджэнне і Абразанне Збаўцы Езуса Хрыста*). У 1561 г., таксама ў Кракаве, з'явіліся зборнікі вершаў Ёгана Мюліуса: «Precationes haud inelegantes, quibus et mane et vesperi iuvenes sua studia Deo Opt. Max. commendare, felicemque in literis progressum orare poterunt» (*Вытанчаныя малітвы, у якіх і раніцай, і вечарам маладыя людзі могуць выказаць сваю прыхільнасць да Найвышэйшага Бога, а таксама прасіць у звароце [да Яго] шчасця і поспеху*) на лацінскай і старажытнагрэчаскай мовах. Гэты маленькі (4 друкаваныя аркушы) зборнік прысвечаны сыну Станіслава Мацяёўскага Гаспару. Вершы, уключаныя ў кнігу, напісаныя ў форме паэтычных малітваў: «Раншняя малітва таго, хто ідзе ў школу» і «Вячэрняя малітва таго, хто вяртаецца з заняткаў». Спачатку Ёган Мюліус прапануе варыянт на старажытнагрэчаскай мове, потым — на лаціне. Зразумела, што такім спосабам адукаваны немец імкнуўся прывабіць свайго вучня Гаспара да заняткаў класічнымі мовамі.




«Элегія на Аб'яўленне Пана», Кракаў, 1560.

У тым жа 1561 г. у Кракаве выйшаў зборнік вершаў Ёгана Мюліуса на старажытнагрэчаскай мове «TA THS CRISTIANWN KATHCHSEWS MERH KAFALAIWDWS MEtroij ellhuikoij suggegrammeua PARA LOUKA, KEF:IB » (*Раздзелы хрысціянскага Катэхізіса, выкладзеныя ў асноўных рысах грэчаскімі вершамі паводле 12-га раздзела [Евангелля] ад Лукі*). У ім нямецкі філолаг-класік змясціў свае паэтычныя перастварэнні Дэкалогу, Апостальскага сімвала веры, Казання на гары і нека-


IOHANNIS MYLII
LIBENRODENSIS,
POETAE LAVREATI
CATO GRÆ-
COLATINVS.
Præcipua Christianæ pietatis Capita.
Μελέται D. Andreæ & D. Alexandri Chodcieuitiorum, illustrium magni Lithuaniæ Ducatus Equitum.
Omnia in gratiam studiosæ iuuentutis publicata.
Cum Gratia & Priuilegio Cæsareo.
M. D. LXVIII.

«Грэка-лацінскі Катон»,
Лейпцыг, 1568.

торых іншых кананічных хрысціянскіх тэкстаў на старажытнагрэчаскай мове. Цікава, што гэтае выданне Ёган Мюліус прысвяціў князю ў Нясвіжы і Алыцы Мікалаю Радзівілу (Чорнаму). Аднак трэба думаць, што гэтым і папярэднімі выданнямі паэт звярнуў на сябе ўвагу не Радзівіла, а іншага вядомага магната — віленскага кашталяна Грыгорыя Хадкевіча. Ён прапанаваў Ёгану Мюліусу месца прыдворнага паэта і настаўніка для сваіх сыноў — Аляксандра і Андрэя. Такім чынам, з 1562 па 1564 г. Ёган Мюліус займаўся педагагічнай дзейнасцю і літаратурнай творчасцю пры двары Грыгорыя Хадкевіча, а з 1564 па 1567 г. апекаваўся Аляксандрам і Андрэем Хадкевічамі падчас іх навучання за мяжой.

У 1568 г., калі Ёган Мюліус атрымаў ад імператара Максіміліяна тытул паэта-лаўрэата, выйшлі з друку адразу два зборнікі яго твораў: «Cato graecolatinus» («Грэка-лацінскі Катон»[6]), надрукаваны ў Лейпцыгу, а таксама «Poemata Ioannis Mylii Libenrodensis, poetae Laureati, ex dioecesi generosum Comitum de Hoenstein» (*Паэтычныя творы Ёгана Мюліуса з Лібенродэ, паэта-лаўрэата, з дыяцэзіі вяльможных графаў дэ Гогенштайн*); (месца выдання не пазначана). У прадмове да «Грэка-лацінскага Катона», звернутай да Альберта Фрыдэрыка, сына прускага герцага Альберта Мархіёна Брандэнбургскага, паэт гаворыць, што ідэя перакласці маральныя сентэнцыі Катона з лаціны на старажытнагрэчаскую мову прыйшла да яго ў той час, калі ён жыў «пры двары, у сыноў пана Грыгорыя Хадкевіча, адважнага сярод літвінаў шляхціца, а таксама найзнакаміцейшага ў польскага караля сенатара». «Кніга гэтая, — дадае паэт, — нарадзілася ў іх маёнтку, суседнім з тваёй Прусіяй»[7]. З гэтых словаў вынікае, што, праўдападобна, Ёган Мюліус у 1562–1564 гг. жыў у Заблудаве, маёнтку Хадкевічаў, які знаходзіўся ў Беластоцкім ваяводстве, і гэта, насамрэч, было непадалёку ад межаў тагачаснага герцагства Прускага.

Найбольш поўным зборам вершаваных твораў нямецкага паэта з'яўляецца выданне «Паэтычныя творы Ёгана Мюліуса»[8]. У ім чытач знойдзе шмат вершаў, прысвечаных вядомым беларускім арыстакратам: Мікалаю Радзівілу, Грыгорыю Хадкевічу, Філону Кміту, Яўстахію Валовічу і іншым. Аднак, як справядліва заўважыў польскі літаратуразнаўца Ю. Новак-Длужэўскі, «не столькі панегірычныя вершы, адрасаваныя каралю, колькі лірычныя вершы, адрасаваныя гетману Хадкевічу, а таксама іншым палітыкам і правадырам перыяду войнаў з Масковіяй, вызначаюць культурна-гістарычнае значэнне яго літаратурнай творчасці»[9]. Думаю, што не меншае значэнне ў гісторыі еўрапейскай славеснай культуры маюць таксама выкананыя Ёганам Мюліусам паэтычныя перастварэнні кананічных хрысціянскіх тэкстаў. У зборніку «Паэтычныя творы...» гэтыя тэксты сабраныя пад агульным загалоўкам «*Carmina sacra*» («Свяшчэнныя вершы»). У першай кнізе «Свяшчэнных вершаў» змешчаны паэтычныя перастварэнні Дэкалогу, Апостальскага сімвала веры і малітвы Панскай (з Казання на гары) па-старагрэчаску. Паэт дэманструе сваё віртуознае мастацтва валодання памерамі антычнай паэзіі: Дэкалог ён перастварае гекзаметрам, Апостальскі сімвал веры — гліканэем, малітву Панскую — фалекейскім адзінаццаціскладовікам. Апроч таго, у зборніку «Паэтычныя творы...» прадстаўлены шматлікія паэтычныя перастварэнні псальмаў.


PRÆCIPVA
CHRISTIANAE PIETATIS CAPITA,
In quibus summatim veteris ac noui Testamenti doctrina compræhenditur, varijs carminum generibus reddita.
AVTHORE
IOANNE MYLIO LIBENRODENSI.
CRACOVIAE
LAZARVS ANDREÆ IMPRIMEBAT.
M. D. LX.

Кніга Ёгана Мюліуса «Найважнейшыя палажэнні хрысціянскай набожнасці», Кракаў, 1560.

Агульная інтанацыя гэтых твораў сведчыць пра тое, што яны мелі найперш дыдактычную скіраванасць і адукацыйнае прызначэнне. Сапраўды, гэтыя перастварэнні, хутчэй за ўсё, выкарыстоўваліся паэтам на занятках па лацінскай і старажытнагрэчаскай славеснасці з Аляксандрам і Андрэем Хадкевічамі. Адметна і тое, што паэтычныя перастварэнні псальмаў Ёгана Мюліуса з'явіліся на дзесяць гадоў раней за «Psałterz Dawidów» (1579) Яна Каханоўскага і больш чым на сто гадоў


DE CONIVNCTI-
ONE FIDELIVM CVM
IESV CHRISTO SAL-
VATORE.
ODE DICOLOS PENTA-
STROPHOS.
IOANNIS MYLII LIBEN-
RODENSIS.
Ad Lectorem.
Qui tedas properat CHristi didicisse iugales,
Aetheriis simul praemia nosse thori:
Hanc Myli blandam uideat precor ille Camoenam
Nam recinit suaui sacra Hymenaea Chely.
Ioannes Biedrzycki.
IMPRESSVM
CRACOVIAE, PER LAZARVM
ANDREAE.
Anno a Christo nato,
M.D.LXI.

«Ода пра злучэнне вернікаў са Збаўцам Езусам Хрыстом», Кракаў, 1561.

раней за «Псалтирь рифмотворную» (1680) Сімяона Полацкага. Ён жа, у сваю чаргу, стаў прамым прадаўжальнікам творчага эксперымента Эабана Геса.

Зборнік «Паэтычныя творы Ёгана Мюліуса» (1568) завяршаецца двума раздзеламі: «D. Andreae Chodcievitii equitis Lithuani MELETAI» («Практыкаванні пана Андрэя Хадкевіча, літоўскага арыстакрата») і «D. Alexandri Chodcievitii equitis Lithuani MELETAI» («Практыкаванні пана Аляксандра Хадкевіча, літоўскага арыстакрата»). Адпаведна, перад намі нішто іншае, як плён паэтычных практыкаванняў на лацінскай мове «літвінскіх афіцэраў» Андрэя і Аляксандра Хадкевічаў. Тут змешчаны пераважна кароценькія двухрадкоўі, напісаныя элегічным двувершам на розныя тэмы. Магчыма, у гэтым раздзеле Ёган Мюліус сабраў лепшыя вынікі хатніх заданняў, выкананых яго яснавяльможнымі вучнямі. Няма сумнення, што Аляксандр і Андрэй Хадкевічы разам са сваім настаўнікам практыкаваліся ў паэтычным майстэрстве. Пацверджанне гэтаму — дзве чатырохрадковыя эпітафіі, напісаныя на смерць Соф'і Хадкевіч і падпісаныя, адпаведна, яе братамі — Андрэем і Аляксандрам (яны таксама ўключаны ў зборнік «Паэтычныя творы...»).

Характар вершаваных твораў, напісаных Ёганам Мюліусам, сведчыць пра тое, што ён зрабіў паэтычную культуру неад'емнай часткай паўсядзённага прыдворнага жыцця (падобны феномен у культуры Беларусі будзе ярка прадстаўлены пазней, у XVIII ст., у творчасці княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл). У паэтычным зборніку Ё. Мюліуса мы знойдзем не толькі вершы на шлюб, на пахаванне, «на шчаслівае вяртанне», але нават на самыя, здавалася б, нязначныя выпадкі. Напрыклад, у зборніку 1568 г. змешчаны твор пад назваю «Пану Андрэю Хадкевічу, які хварэе на кашаль», а непасрэдна за ім — «Да пана Андрэя Хадкевіча, які пазбыўся хваробы». Як для сапраўднага творцы, для Ёгана Мюліуса паэзіяй было напоўнена само жыццё, і яго ўласнае жыццё не магло існаваць без паэзіі.

Але найперш паэзія адукаванага філолага Ёгана Мюліуса


PRECATIO
NES HAVD INELE-
gantes, quibus & mane & vesperi iuue-
nes sua studia Deo Opt: Max: com-
mendare, foelicemque in literis pro-
gressum orare poterunt, Latinis
& Graecis versibus con-
scriptae.
AVTHORE.
Ioanne Mylio Libenrodensi.
Lucae capite 12.

«Вытанчаныя малітвы...», Кракаў, 1561.


CARMEN ELEGIA-
CVM
IN NATIVITATEM
ET CIRCVMCISIONEM
IESV CHRISTI
Saluatoris.
AVTHORE,
IOANNE MYLIO LIBEN-
RODENSI.
CRACOVIAE,
LAzarus ANdreae excudebat.
Anno salutis humanae,
M.D.LXI.

«Элегія на Нараджэнне і Ахвяраванне Пана», Кракаў, 1561.

была прызначаная для выхавання сапраўднага шчырага хрысціяніна і мудрага цнатлівага грамадзяніна. Так, сярод практыкаванняў маладых Хадкевічаў знаходзім двухрадкоўі з характэрнымі назвамі: Андрэй напісаў вершы «Пастыр над людзьмі Хрыстос», «Хрысціянам трэба несці крыж», «Слова Божае трывае», а таксама «Шануй урача», «На скупога чалавека», «Нельга смяяцца з бедных», «Фартуна»; Аляксандр напісаў — «Бога нельга падмануць», «Вячэрнія развагі таго, хто кладзецца спаць», «Пра багатага і Лазара» і многія іншыя. Ёган Мюліус прапаноўваў таксама маладым княжычам своеасаблівае паэтычнае спаборніцтва. Сведчанне таму — наяўнасць у адным і другім раздзелах «Практыкаванняў» вершаў з аднолькавымі назвамі: «Хрыстос — крыніца жывой вады», «Шлюб у Кане», «Баяцца Бога — найвышэйшая мудрасць», «Апостальскі сімвал веры», «Малітва Панская».

Ёган Мюліус з Лібенродэ быў глыбока перакананы ў тым, што любоў да мастацтва, прынамсі вытанчанай паэзіі, можа даць вельмі добры і значны плён


Poëmata
IOANNIS MYLII
LIBENRODENSIS,
POETAE LAVREATI,
ex diœcesi generosorum Comitum de Hoenstein.
Eorum, quæ sunt in hoc opere, Catalogus versa pagella apparet.
Cum Gratia & Privilegio Cæsareo.
M. D. LXVIII.

«Вершаваныя творы» Ёгана Мюліуса, Лейпцыг, 1568.

у справе выхавання будучага дзяржаўнага дзеяча. Пра гэта ён гаворыць у прадмове да «Практыкаванняў...»: «О благаслаўлёны чытач, калі зборнік маіх вершаў быў падрыхтаваны ўжо напалову, я знайшоў разнастайныя практыкаванні маіх былых вучняў, Андрэя і Аляксандра, літоўскіх арыстакратаў з славутага роду Хадкевічаў. Я падумаў, што карысна будзе выбраць з іх ліку некаторыя вершыкі і выдаць іх разам з маімі, бо на гэтай падставе лёгка можна зразумець, што можна спадзявацца атрымаць ад такіх талентаў. Больш за тое, я спадзяюся, што першыя вопыты такога кшталту будуць стымулам для іншых, у першую чаргу для дзяцей паноў, каб у свой вольны час яны больш цесна зносіліся з Музамі і сачынялі штосьці падобнае ці нават яшчэ больш значнае»[10]. У гэтых словах сфармуляваны той новы падыход да вырашэння пытання пра духоўнае выхаванне арыстакрата, які праз дзесяць гадоў — з адкрыццём у Вільні езуіцкай акадэміі (1579) — будзе практычна ўвасоблены ў грамадскім жыцці Вялікага Княства Літоўскага.

Няўмольны лёс адмераў вельмі кароткі жыццёвы век і Андрэю, і Аляксандру Хадкевічам, не даўшы ім пакінуць пасля сябе нашчадкаў. Аднак асветніцкія ідэі і паэтычныя дасягненні Ёгана Мюліуса з Лібенродэ, сугучныя духоўным памкненням і маральным арыенцірам нашых суайчыннікаў, былі акцэптаваныя і далей развітыя ў творчасці айчынных паэтаў — Іллі Пельгрымоўскага, Яна Радвана, Яна Крайкоўскага.

Прапаную чытачам «Нашай веры» пераклады некаторых вершаў са зборніка «Паэтычныя творы Ёгана Мюліуса».

*Збор матэрыялаў для артыкула ажыццяўляўся пры падтрымцы Фонда імя Аляксандра фон Гумбальдта (Alexander von Humboldt Stiftung).*

[1] Гл.: Knape, J., Till, D. Deutschland // Renaissance / Alfred Noe (Hg.). Graz: Akademische Druck- u. — Verlagsanstalt, 2008. — S. 278.
[2] Pollmann, K. Das lateinische Epos in der Spätantike // Von Göttern und Menschen erzählen: Formkonstanzen und Funktionswandel vormoderner Epik / Jörg Rüpke (Hg.). — Stuttgart: Franz Steiner Verlag, 2001. — S. 95.
[3] Bruchnalski, W. Jan Kochanowski // Alma Mater Vilnensis. Czasopismo Akademickie. 9 zeszyt. — Wilno, 1930. — S. 20.
[4] Psalterium Davidis carmine redditum per Eobanum Hessum. <...> — Lipsiae, 1546. F. 3 v. — 4 r.
[5] Гл.: Jowmiański, H. Polityka Jagiellonów. — Poznań, 1999. — S. 590–601.
[6] Катон, Марк Порцый — старажытнарымскі палітычны дзеяч і пісьменнік, аўтар дыдактычна-маралізатарскіх твораў.
[7] Ioannis Mylii Libenrodensis, poetae laureati Cato graecolatinus. <...> — Lipsiae, 1568. F. 3 v.
[8] Poemata Ioannis Mylii Libenrodensis, poetae Laureati, ex dioecesi generosum Comitum de Hoenstein. <...> — S. l, 1568.
[9] Juliusz Nowak-Dłużewski. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce. Czasy Zygmuntowskie. — Warszawa, 1966. — S. 205.
[10] Poemata Ioannis Mylii Libenrodensis, poetae Laureati, ex dioecesi generosum Comitum de Hoenstein. <...> — S. l, 1568, f. 306 r.

# Ёган Мюліус

## Ранішняя малітва таго, хто ідзе ў школу

Надходзіць час світання,
Насычаны спакоем.
Я абудзіўся з сонцам,
З яго святлом прывабным.
Чало маё, спачыўшы,
Не прагне больш падушкі.
Вось чыстую малітву
З глыбіняў сэрца праўлю:
«О благаслаўлёны Сыне
Айца ў высокім небе,
Смяротных Адкупіцель,
Ты ў горадзе нябесным
Сядзіш пры ім, спагадны,
Сын гэткага[11] народа,
Выдатны красамоўца,
Які чыніў дзівосы,
Заўсёды быў гатовы,
Каб задаваць пытанні;
Заўсёды быў гатовы
Да добрае навукі;
Любога чалавека
Мог выслухаць ахвотна.
Цяпер іду я ў школу,
Каб там з павагай слухаць
Настаўнікаў шаноўных.
Спрыяй мне, добры Пастыр!
Хачу спазнаць я вельмі
Карысныя навукі
І плод здабыць салодкі
Ад розных добрых ведаў.
Дапамажы мне ў гэтым!
Як без Тваёй падтрымкі
Не дасягну нічога,
Так пры Тваёй апецы
Я змог бы вельмі многа.
Прыдзі ж мне на ўспамогу,
О літасцівы Езу.
Прастуй мой шлях, каб быў ён
Шырокім і шчаслівым.

[11] У арыгінале — гульня словаў: *puer gregi perito* можна перакласці двума спосабамі: «сын заняпалага народа» і «сын здольнага народа».

**Дэкалог**
Вось я, твой Пан Валадар, засядаю ў нябесным палацы.
Помні: апроч Мяне, боствaў другіх не шануй.
Бога святое імя не ўжывай для нікчэмнай патрэбы:
Нельга нікому, нідзе брыдкія словы казаць.
Я ўсталяваў быў Шабат — добра помні, каб святы абходзіць:
Гэтак спазнаеш ты шлях веры сапраўднай святой.
Бліжняга дзейсна любі, ды пры гэтым бацькоў не забудзься:
Маці належна шануй, бацьку ўшаноўвай не менш.
Гнеў недарэчны няхай не пануе ў напышлівым сэрцы:
Можаш праз гэта душу спляміць смяротным грахом.
Бойся благога агню беззаконнай ды гнюснай пажады,
Бойся распусты ліхой ды пералюбаў любых.
Хай не ахопіць цябе крадзяжу неадольная прага:
Кожны маёмасць сваю хай зберажэ праз цябе.
Можа, паклічуць цябе на судовую справу як сведку —
Слова няпраўды тады асцерагайся сказаць!
Дом пабудуе сусед, забяспечыць яго і аздобіць, —
Не пажадай ты, глядзі, дом той як-кольвек здабыць.
Жонка, служанка, слуга і асёл, і карова, і ніва
Пану належаць свайму, хай застануцца пры ім.

*З «Практыкаванняў пана Андрэя Хадкевіча,*
*літоўскага арыстакрата»*

**Стары**
Так, я сагнуўся дугой, але ведаю многа, бо, зрэшты,
Розуму доўгі мой век многа дазволіў спазнаць.

**Чалавек чалавеку Бог**
Той, хто спрыяе другім, — гэта Бог на зямлі, несумненна,
Хто ж не спрыяе другім, — воўк на зямлі, гэта факт!

**Падобна да таго, як алень** і г. д. (Псальм 42)
Гоняць аленя сабакі, навісла ліхая пагроза...
Ён жа бяжыць да крыніцы, каб там наталіць сваю смагу.
Гэтак спяшаецца дух мой да Пана ў роспачы прыкрай,
Горача прагне спазнаць ён праўдзівага Бога ў нябёсах.

*З «Практыкаванняў пана Аляксандра Хадкевіча,*
*літоўскага арыстакрата»*

**Не хвалюйся наконт ліхамоўных**
Людзі нягодныя кажуць у адрас твой брыдкія словы?
Значыць, парадуйся: ты правільна робіш усё!

**Не ўсім трэба падабацца**
Хто падабаецца люду, для мудрых бывае агідны.
Ну дык навошта ліхім быць даспадобы, скажы?

**Паэты захоўваюць памяць пра герояў**
Быў Агамемнан не першым магутным асілкам; даўнейшых
Проста не ведаем мы: лёс ім не даў песняра.

*Пераклад з лацінскай мовы*
*Жанны Некрашэвіч-Кароткай.*



**Крыстына ЛЯЛЬКО** — галоўны рэдактар часопісаў «Наша вера» і «Ave Maria». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў вёсцы Хадзюкі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Беларусь». Аўтар кніг прозы «Дарога пад гару» (1985), «Світанак над бярозамі» (1989), кнігі паэзіі «На далонях любові» (2006).
У апрацоўцы К. Лялько выйшаў зборнік народных казак «Хітрэй свету не будзеш» (1988). Пераклала на беларускую мову кнігі Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі», «Дар і Таямніца», «Устаньце, хадзем!», «Памяць і самасвядомасць», энцыклікі «Fides et ratio», «Ecclesia de Eucharistia», Апостальскі ліст пра Ружанец «Rosarium Virginis Mariae», творы іншых польскіх тэолагаў і пісьменнікаў.
Жыве ў Мінску.

# Крыстына Лялько

*«Яшчэ не ўмееш быць адзінокім...»*
Кс. Ян Твардоўскі

* * *

Трымаюся за ўспаміны,
як за парэнчы на хісткім мосце,
як за саломінку на глыбокай вадзе,
як за сяброў у раптоўнай бядзе,
як за промень сонца на дальнім пагосце,
што прабіўся праз верхавіну
адзінокай высокай яліны.

* * *

Раніцою прыйдзеш да мяне
з далікатнаю просьбаю сябра
аб малітве ў цяжкую хвіліну.
Нагадаеш: клопат пра бліжніх —
на першым месцы, а потым ужо
нараканні, уздыханні — уся тая марнасць,
якою так часта замяняем
найважнейшыя рэчы на свеце,
забываючы словы Апостала:
*tempus breve est**.

* 1 Кар 7, 29.

* * *

Грому парожняю калясніцай
разбудзіць мяне навальніца
сярэдначы ўстаць і маліцца.

* * *

Навучыў Ты мяне
казаць сабе «не»
нават у сне.

* * *

Калі б з Табою гаварыць не ўмела,
то анямела б...

* * *

Партыта Баха «О Божа, святы Божа», —
парывістая і светлая,
неўтаймоўная і высокая,
як хвалі на акіяне
ў ветраны сонечны дзень,
як ад скалаў няўлоўны цень
у той наш першы дзень у Порто.
Партыта Баха... Віртуозна й натхнёна
іграе Ігар Алоўнікаў.

* * *

Сястра Нікіфора
з вачыма, як мора,
калі яно сіняе-сіняе;
сястра Нікіфора —
слабенькая, кволая,
з такою святою пакораю,
з такою ўнутранай сілаю...

* * *

А ў Порто — зімой, як летам:
семнаццаць цяпла і сонца.
Асветлена і сагрэта
усё тым сонцам да донца.
А ў Порто — высокія хвалі
і цёмная графіка скалаў:
яны надзейна хавалі
нас ад дзевятага валу.
А ў Порто — сівое барока,
і вулкі — не размінуцца...
Там мост — ажно пад аблокі,
і можна па ім вярнуцца
у светлыя даўнія мроі,
да цёмнай графікі скалаў,
дзе хвіліна
побач з табою
прыгожай
бясконцасцю
стала.

* * *

Ды гэта ўсё ён, акіян вінаваты,
і вецер на ім —
весялун блазнаваты,
што зблытаў думкі мае і намеры,
уздымаючы хвалі-хімеры...

Няўжо гэта ён, акіян вінаваты,
што забыла я там пра вяртанне
дахаты,
і што хваля ягоная ўсё яшчэ
б'ецца
такая салёна-пякучая
ў сэрцы?

* * *

Навошта знаходзіць, калі ведаеш,
што ўсё роўна згубіш? —
Дзеля кароткае радасці,
якая пакіне ў душы яшчэ больш суму?
Дзеля таго, каб зразумець нечакана,
што самыя светлыя мары паміраюць
без рамантыкі старых вулак,
без напорыстых свежых вятроў,
без ласкавага сонца,
якое штодня ўзыходзіць
над бязмежнасцю акіяна,
над высокімі пікамі скалаў,
каб саграваць іх шурпата-салёныя спіны,
за якімі можна схавацца
ад непазбежнае страты?..

Навошта знаходзіць, калі ведаеш,
што побач няма такіх скалаў?..

* * *

А. С.

У нататніку з ліловымі матылямі
чытаю табой не напісаныя словы.
У нататніку з ліловымі матылямі
знаходжу табою пакінутыя высновы.
У нататніку з ліловымі матылямі,
на чыстым нерушы поля
адчую раптам кропелькі болю,
як церпкіх ягадаў прысмак —
пачуццяў нечых тужлівы прысмерк,
якіх ніхто не зразумее ніколі.

* * *

Сёння ты ў мяне ёсць:
як вандроўнік, як мілы госць,
з душою ўзлётнаю птаха —
ратуеш мяне ад страху.
Сядзіш за сталом і маўчыш,
маўчанне — каштоўны чынш?
Зайшоў нечакана ў хату,
глядзіш на мяне вінавата...

З тваёй і з сваёю віною —
паміж небам я і зямлёю.

* * *

Як вецер у чыстым полі,
праніжа думка міжволі:
я ведаю, чаго не будзе ніколі.

Як камень на сэрца ляжа,
і штосьці яму падкажа:
жыццё ўсё само развяжа.

Не спяшы запрагаць і ехаць, —
нічога не зробіш спехам
і жаль не заслоніш смехам.

Хай выльюцца чыстыя слёзы,
заменяцца вершы прозай...
Вострыя ў лёсу лёзы.

* * *

Трэба ж камусьці адвесці вочы, —
як выхапіць сэрца з агню,
як на самым краёчку ночы
ўстаць і паехаць насустрач дню.

* * *

Пры сустрэчы спыняецца час,
ды ўсё роўна прыходзіць расстанне,
непазбежнае, як світанне,
і ўсё вырашае за нас.

* * *

Нікім не заменіш тых,
што адышлі ў вечнасць.
Чапляцца за прывіды — недарэчна,
прыдумваць, мроіць, ствараць такіх,
па якіх сумуеш і плачаш,
якіх любіла і якія любілі цябе...
Жыцьме цяпер у светлай журбе:
нічога не вернеш, не перайначыш.

Галіна Тычко

# Беларускі рэлігійны друк на эміграцыі




*Юры Гарбінскі*
*Беларускі рэлігійны друк на Захадзе. 1945–2005.*
*Нью–Ёрк–Варшава, 2009. – 884 с.*

Знакаміты англійскі навуковец Пол Джонсан у сваім дакладзе на XII Міжнароднай канферэнцыі па сродках масавай інфармацыі ў Сеуле ў 1993 годзе сказаў: «Сродкі масавай інфармацыі з’яўляюцца ў патэнцыяле вялікай свецкай царквой, скіраванай на рассейванне цемры невуцтва і сцвярджэнне ісціны. Евангелле ад Яна, калі задумацца, прысвечана прэсе, і Езус Назаранін можа быць названы першым журналістам, які прыносіць чалавецтву Добрую Навіну. Ці можа хто-небудзь усумніцца ў тым, што Чалавек, які прапаведаваў некалі пяці тысячам, сёння не пакарыстаўся б магчымасцямі газеты ці тэлебачання?» Далей прафесар Джонсан вызначаў свае патрабаванні да сродкаў масавай інфармацыі і выдзяляў сярод іх найгалоўнейшыя «запаведзі», сярод якіх ён назваў «жаданне адкрываць і паведамляць ісціну», «заахвочваць да атрымання ведаў», «рабіць адрозненне паміж „грамадскай думкай“ у яе высокім гістарычным сэнсе, якая стварае і фармуе канстытуцыйную дэмакратыю і хуткаплынным, непастаянным феноменам папулізму» (Россия, 1993.  9 (119), 24 лют. – 2 сак.).

Безумоўна, навуковец асвятляў найперш стан свецкіх СМІ, аднак у жыцці грамадства не менш важную, калі не большую, ролю адыгрывае і рэлігійны друк. Па сутнасці і рукапіснае, і друкаванае слова ва ўсім свеце і на Беларусі звязана з гісторыяй рэлігіі: тыя ж рукапісныя кнігі Еўфрасінні Полацкай ці першыя друкаваныя выданні Францішка Скарыны – усё гэта найперш тэксты Бібліі. І хоць рэлігійны друк на Беларусі мае старадаўнія традыцыі, да нядаўняга часу гэты аспект жыцця нашага грамадства быў мала даследаваны.

Цікавасць да гісторыі і сучаснасці рэлігійнага друку ў нашай краіне ўзрасла напрыканцы XX – пачатку XXI стагоддзя. Самым значным даследаваннем стала кніга С.В. Говіна «Канфесійны друк у Беларусі» (Мінск, 2008), рэцэнзія на якую ў свой час з’явілася ў «Нашай веры». Аўтар слушна адзначаў, што актывізацыя рэлігійнага жыцця на Беларусі, заўважная на пераломе XX – XXI стагоддзяў, спалучана ў значнай ступені з шырокім выкарыстаннем друкаванага слова, аўдыёвізуальных СМІ, інтэрнэта. Кніга С.В. Говіна знаёміла з дагматыкай як традыцыйных канфесій, што на працягу стагоддзяў існавалі на Беларусі, так і з разнастайнымі рэлігійнымі тэндэнцыямі новага часу і, безумоўна, найперш з развіццём сродкаў масавай інфармацыі. У даследаванне былі ўключаны дадатковыя дапаможныя матэрыялы, у прыватнасці, «Бібліяграфічны паказальнік рэлігійных выданняў у Беларусі (1863–2005 гг.)», «Слоўнік рэлігійных тэрмінаў».

Аднак беларускі рэлігійны друк існуе не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і па-за яе межамі. Асабліва вялікая роля замежных выданняў была ў перыяд БССР, калі легальнае друкаванае рэлігійнае слова ў нашай краіне было пад забаронаю. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны на Захадзе апынулася каля 100 тысяч беларусаў, якія заснавалі там свае друкаваныя выданні. «Беларускі друк на эміграцыі – гэта адначасна частка Беларусі, якую эміграцыя прадстаўляла і якой ганарылася праз доўгія гады ў сужыцці з іншымі дзяржавамі і народамі»,– адзначыла адна з прадстаўніцаў беларускай эміграцыі Зора Кіпель.

Менавіта З. Кіпель і спрычынілася да стварэння ўнікальнай кнігі Юрыя Гарбінскага «Бела-

---

**Галіна ТЫЧКО** — доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры БДУ культуры і мастацтваў. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (1993). Даследуе сучасную беларускую літаратуру, займаецца перакладамі з польскай мовы. Аўтар манаграфіі «Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнай і польскай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя» (2001) і шматлікіх публікацый.




Вокладка часопіса беларусаў-католікаў у ЗША «Беларуская Царква» (Чыкага, 1956–1965).

рускі рэлігійны друк на Захадзе. 1945—2005, што была выдадзена ў 2009 годзе ў Нью-Ёрку–Варшаве пад патранатам Беларускага інстытута навукі і мастацтва (славутага БІНІМ — ЗША), Варшаўскага ўніверсітэта і Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук. Кніга прысвечана светлай памяці Зоры Кіпель і Алены Юрэвіч, і ў яе выданні прынялі ўдзел многія вядомыя беларускія арганізацыі замежжа, а таксама дзеячы беларускай эміграцыі, у асноўным з ЗША, сярод якіх такія вядомыя асобы, як Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Антон Шукелойць, Янка Шубут, Лявон Юрэвіч і інш.

Кніга Ю. Гарбінскага — надзвычай аб'ёмнае і грунтоўнае даследаванне. Яно ўключае ў сябе пяць раздзелаў і дадаткі, куды ўваходзяць статыстычныя матэрыялы Беларускай бібліяграфічнай службы (ББС), якая існавала ў Германіі ў 1945—1951 гг., і ўтрымліваюць інфармацыю аб развіцці беларускай эміграцыйнай прэсы на Захадзе: у Аўстрыі, Бельгіі, Францыі, Германіі і Вялікабрытаніі.

У першым раздзеле аўтар падрабязна даследуе стан вывучэння эміграцыйнага перыядычнага друку, у тым ліку рэлігійнага, на працягу 1946–2005 гадоў. Пачынальнікам гэтай працы Ю. Гарбінскі лічыць загадчыка Беларускага заграгнічнага архіва Тамаша Грыба. Важны ўклад у вывучэнне пытання, падкрэслівае Ю. Гарбінскі, унеслі пісьменнік Антон Адамовіч і журналіст-бібліёграф Мікола Панькоў, а таксама а. Леў Гарошка, кс. Пётра Татарыновіч, Я. Садоўскі, В. Кіпель і інш.

Юры Гарбінскі пералічвае ў сваёй кнізе асноўныя крыніцы даследавання, прадстаўленыя архівамі БІНІМ (ЗША), ББС, а таксама архівамі іншых арганізацый і прыватных асобаў на эміграцыі. Найбольшую цікавасць з іх уяўляюць прыватныя зборы Зоры і Вітаўта Кіпеляў, дзе колькасць выданняў эміграцыйнай перыёдыкі мае звыш 440 адзінак. У гэтай калекцыі, якая захоўваецца ў фондах Славянска-балцкага аддзела Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі, сабраныя амаль усе вядомыя беларускія рэлігійныя выданні, а таксама царкоўныя календары, паштоўкі, малітоўныя карткі-памяткі, карткі-іконы, маркі і іншая друкаваная прадукцыя, што выходзіла на Захадзе да 2005 года.

Змест, абсяг і спецыфіка беларускага перыядычнага друку на Захадзе даследуюцца ў другім раздзеле кнігі. Асаблівую цікавасць тут мае падраздзел «Рэлігійная тэматыка ў сьвецкіх выданнях», дзе аналізуецца праблематыка публікацый, іх жанравая спецыфіка. Аўтар адзначае важную ролю матэрыялаў, якія асвятлялі падзеі з міжнароднага рэлігійнага жыцця, напрыклад, « Царква ў бядзе», «Саборы Праваслаўнай і Каталіцкай Цэркваў» (Другі Ватыканскі Сабор) і інш. Адзін з аўтарытэтных дзеячаў беларускага замежжа Янка Запруднік так характарызуе спецыфіку беларускага эміграцыйнага друку: «І ў свецкіх, і ў фармальна рэлігійных публікацыях рэдактары і выдаўцы не рабілі розніцы паміж рэлігійнай і свецкай тэматыкай. У рэлігійных выданнях закраналіся палітычныя праблемы, у сваю чаргу, у свецкіх — абмяркоўваліся рэлігійныя. Ніхто не сачыў за тым, што вось мы — рэлігійны часопіс і таму ў нас на 80% тэматыка павінна быць рэлігійнай».

Непасрэдна рэлігійнай перыёдыцы, шляхам і параметрам яе развіцця прысвечаны трэці раздзел, дзе аналізуюцца няпростыя гістарычныя шляхі беларускай рэлігійнай прэсы. Гісторыю беларускамоўнага рэлігійнага друку па-за межамі Беларусі ўмоўна можна падзяліць на некалькі перыядаў. Першы з іх датуецца 1913–1920 гадамі і звязаны з выхадам двух каталіцкіх перыядычных выданняў: газетай «Bielarus», якая друкавалася ў Вільні, і тыднёвікам «Krynica», што выдаваўся ў Петраградзе, а пазней пачаў выходзіць у Мінску.

Асобную старонку ў гісторыі беларускага канфесійнага друку займае заходнебеларускі перыяд (1921–1939 гг.) — час, калі Заходняя Беларусь была ўключана ў склад Другой Рэчы Паспалітай. Тады выходзіла 13 беларускіх рэлігійных выданняў, 6 з якіх былі праваслаўныя, 5 — каталіцкія і 2 — пратэстанцкія. Апрача таго, існавала задума выдаваць у Віленскай дыяцэзіі уніяцкі часопіс «Беларускі Вуніят», якая так і не ажыццявілася.

Падчас Другой сусветнай вайны ніводная з беларускіх канфесій не мела свайго перыядычнага выдання. Паводле звестак, прыведзеных у кнізе вядомага гісторыка Ю. Туронка «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944)» (Мінск, 2000), у перыяд з 1939 па 1944 гг. выйшла ўсяго 9 кніжных выданняў, з якіх 5 былі каталіцкія, 3 — праваслаўныя, 1 —пратэс-




Вокладка беларускамоўнага буклета-інфарматара «Радыё Ватыкан» (Ватыкан, 1987).

танцкае. У асноўным гэта былі літургічныя кнігі, прызначаныя для правядзення набажэнстваў. У Савецкай Беларусі, як вядома, да 1988 года легальна не выходзіла ніводнае рэлігійнае выданне.

Беларуская эміграцыя была вельмі разнароднай: у дадатак да яе палітычнага, сацыяльнага і ўзроставага размежаванняў існавала размежаванне канфесійнае. Іншыя народы на чужыне звычайна аб’ядноўваў рэлігійны чыннік, аднак шматканфесійнасць Беларусі выявілася і ў эміграцыі. Каля 70% яе складалі прадстаўнікі праваслаўя, 20% былі католікамі і прыблізна 7–8% — пратэстантамі. У чэрвені 1948 г. у Канстанцы (Германія) была адноўлена Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква (БАПЦ), якая адыграла значную ролю ў захаванні нацыянальнай тоеснасці на чужыне, безумоўна, і з дапамогаю друкаваных выданняў. У перыяд з 1948 па 2005 гады беларуская эміграцыя выдавала 78 перыядычных выданняў і календароў, 68 з якіх былі беларускамоўныя і 10 — англамоўныя. Сярод іх найбольш — 34 — належалі БАПЦ, 21 — Каталіцкаму Касцёлу і 13 — пратэстанцкай Царкве.

У пасляваенны час беларускія рэлігійныя выданні выходзілі ў Германіі і Аўстрыі, пазней у Францыі, Бельгіі, Іспаніі, Ватыкане, Вялікабрытаніі і ў Італіі. Найбольш значнымі з іх былі штомесячны часопіс «Праваслаўны Беларус» (1947–1949) — рэдактар і выдавец Кастусь Якуб, і каталіцкі часопіс «Божым шляхам», першы нумар якога выйшаў у 1947 годзе ў Францыі. Ініцыятарам стварэння часопіса і яго першым рэдактарам быў святар Леў Гарошка. Дзякуючы рэлігійнай талерантнасці, змястоўнасці і шырокаму дыяпазону матэрыялаў гэты часопіс заслужана лічыўся самым значным і аўтарытэтным у беларускім эміграцыйным друку. Спачатку выданне выходзіла штомесячна, але з 1951 года — раз у два месяцы.

Юры Гарбінскі прыводзіць звесткі, якія пацвярджаюць, што першыя беларускія рымакаталіцкія парафіі на Захадзе былі арганізаваныя на пераломе 1946–1947 гг. у Нямеччыне, дзе была абсталяваная і каталіцкая капліца. Аднак на гэты час беларускія вернікі не мелі сталай духоўнай апекі, і духоўныя паслугі выконвалі польскія, літоўскія і латышскія святары. Справу маральнай падтрымкі вернікаў у значнай ступені ўзялі на сябе свецкія і каталіцкія друкаваныя выданні. З сакавіка 1947 года пачынае выходзіць часопіс «Adrad•eñie», які заснавала група беларусаў католікаў у Рэгенсбургу. Рэдагаваў выданне Андрэй Попка, і з гэтым часопісам супрацоўнічалі кс. П. Татарыновіч, Я. Кісель, а таксама пісьменнікі Н. Арсеннева і С. Хмара. У тым жа 1947 годзе ў Ватэнштэце выходзіў яшчэ адзін каталіцкі часопіс «Bielaruskaja Dumka», дзе матэрыялы друкаваліся кірыліцай і лацінкай. Выданне распаўсюджвалася фактычна па ўсёй Заходняй Германіі, і з ім супрацоўнічалі а. Л. Гарошка, Н. Арсеннева і А. Салавей.

Падрабязна даследуе Ю. Гарбінскі лакалізацыю беларускага рэлігійнага друку ў розных краінах свету. У манаграфіі адзначаецца вялікі ўклад, які ўнесла ў справу распаўсюджвання Божага слова з дапамогай прэсы дзейнасць Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане. У Вялікабрытаніі ў перыяд з 1950 па 2005 гг. выходзіла 7 каталіцкіх выданняў. Тут дзейнічала філія Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб’яднання імя св. Аўгустына, якое ў 1951 годзе ўвайшло ў міжнародную арганізацыю інтэлектуалістаў-католікаў «Pax Romano». Гэта арганізацыя мела свае філіі ў Італіі, Бельгіі, Іспаніі, Францыі, ЗША, Аўстраліі і сістэматычна наладжвала тыдні каталіцкіх студыяў. Працу яе каардынавалі а. Ч. Сіповіч і а. А. Надсон.

Дзейнасць гэтай арганізацыі высока ацэньвалі і католікі, і праваслаўныя беларусы. У прыватнасці, Юрка Віцьбіч адзначаў: «Мне думаецца, што беларускае каталіцкае духавенства на чужыне робіць вялікую нацыянальную справу». Ён падкрэсліваў, што гэтая праца і ёсць «наладжванне непасрэднага кантакту беларусаў-каталікоў з Ватыканам». Цэнтральнае месца сярод каталіцкай прэсы ў Вялікабрытаніі займаў часопіс «Божым шяхам», які выходзіў у 1964–1980-я гг. у Лондане. Рэдагаваў яго а. Язэп Германовіч. Гэты часопіс быў пераемнікам аднайменнага выдання, якое раней выходзіла ў Парыжы пад рэдакцыяй а. Л. Гарошкі. У Італіі

з 1950 па 1970 год выдаваўся часопіс «•nič», які рэдагаваў П. Татарыновіч, і які, паводле задумы, павінен быў пашыраць тэматыку і ідэйны змест выдання а. Л. Гарошкі «Божым шляхам». Аднак гэты часопіс не набыў папулярнасці, паколькі ён выдаваўся лацінкай і, апрача таго, яго мова была вельмі спецыфічнай. Кс. П. Татарыновіч з гэтай нагоды пісаў: «Мае „наватворы“, на якія так утаропліваюцца, як баран на новыя вароты, гэта годнае помачы, а не байкоту шуканне й туга па нечым лепшым, музыкальнейшым, тэхнічна здатнейшым, гэта творчая проба, а не аподэктычнае накіданне. Што дападзе да густу — прышчэпіцца, а чаго здаровы смак не прыме — хай адпадае». Але чытачы, відаць, лічылі інакш: часопіс не здабыў вялікую аўдыторыю, і ўсяго было выдадзена толькі 120 нумароў.

У Паўночнай Амерыцы рэлігійны друк беларускай дыяспары прадстаўлены 31 выданнем, 17 з якіх — праваслаўныя, 7 — каталіцкія і 7 — пратэстанцкія. Большасць з іх — 28 назваў — выдаецца ў ЗША, 3 — у Канадзе. Самымі значнымі сярод гэтых выданняў з'яўляюцца праваслаўныя — «Царкоўны Сьветач» (Саўт Рыўер) і «Голас Царквы» (Нью-Ёрк).

Беларусы католікі ў Паўночнай Амерыцы, у прыватнасці ў ЗША, знаходзіліся ў больш складанай сітуацыі, чым праваслаўныя. Там каталіцкія парафіі засноўваліся не па этнічным прынцыпе. Этнічныя касцёлы могуць існаваць выключна там, дзе этнас жыве кампактна, таму толькі ў Чыкага ў 1955 годзе была арганізавана парафія Хрыста Збаўцы ўсходняга абраду, дзе душпастырскую і выдавецкую працу вялі беларускія бэнэдыктынцы аа. Я. і У. Тарасэвічы. У 2003 годзе гэтая парафія была ліквідаваная.

У 1958–1973 гг. у ЗША выходзіў часопіс для рыма-каталікаў «Siaúbit»(«The Sower»), выдаўцом і рэдактарам якога быў кс. Ф. Чарняўскі. Гэтае выданне, аднак, не знайшло належнай аўдыторыі і паслядоўнай падтрымкі духавенства. Каталіцкія беларускія святары на сваім трэцім з'ездзе ў 1972 годзе ў Лондане прынялі рэзалюцыю, дзе адзначалі: «У эміграцыйных абставінах, дзе асабісты кантакт з вернікамі ёсць часта немагчымы, апостальства цераз прэсу набірае асаблівай важнасці. Маючы гэта на ўвазе, трэба старацца, каб беларускія рэлігійныя перыядычныя выданні былі як найлепшымі з пункту гледжання зместу, мовы і вонкавага выгляду, бо слабы і неахайна выдадзены часопіс адбівае ахвоту і цікавасць у чытачоў. Беручы пад увагу абмежаваныя сілы і магчымасці нашае эміграцыі, было б лепш мець адзін добры рэлігійны часопіс, чым некалькі слабых».

У кнізе Ю.Гарбінскага прыводзяцца таксама звесткі пра тое, што ў ЗША разам з беларускамоўнымі рэлігійнымі выданнямі выходзілі чатыры каталіцкія бюлетэні на англійскай мове.

Усе дакументальныя факты і звесткі, аналітычныя абагульненні і вывады ў манаграфіі Ю. Гарбінскага надзвычай цікавыя і важныя для беларускай гуманістыкі і гісторыі рэлігіі. І ўсё ж для звычайнага чытача ці не найбольшую цікавасць мае не тэарэтычная, а практычная частка кнігі, якая пачынаецца з чацвёртага раздзела і прадстаўлена схемамі і дыяграмамі, што адлюстроўваюць статыстыку функцыянавання беларускай перыёдыкі на Захадзе. Панарама рэлігійнай перыёдыкі беларускай дыяспары прадстаўляе фотарэпрадукцыі вокладак беларускіх хрысціянскіх выданняў, якія выходзілі ў розны час і ў розных краінах свету, а раздзел «Выбраныя ілюстрацыі графічных друкаў беларускай дыяспары» прадстаўляе ўзоры



Вокладка аднаго з першых часопісаў беларусаў-католікаў на Захадзе «Адраджэнне» (Рэгенсбург, 1947, Віндышбэргердорф, 1948).

ўнікальных беларускіх паштовак, картак-памятак з малітоўнымі тэкстамі, буклетаў і іншай прадукцыі, якая выдавалася за мяжой. Тут можна пазнаёміцца з такімі незвычайнымі экспанатамі, як велікодная рукапісная паштоўка з часоў лагераў ДП (Ватэнштэт, 1947), фотапаштоўка са здымкам рэлігійна-нацыянальнай харугвы, асвечанай папам Піем XII з нагоды ўдзелу беларусаў у святкаванні Марыянскага года (Ватыкан, 1953) і інш.

У цэлым паводле ахопу матэрыялаў, грунтоўнасці і шырыні прааналізаваных з'яваў і фактаў, якія датычаць развіцця беларускага рэлігійнага друку на Захадзе, кніга Ю. Гарбінскага з'яўляецца своеасаблівым энцыклапедычным даведнікам, які будзе карысным і навукоўцам, і проста вернікам, і ўвогуле ўсім, хто неабыякавы да нацыянальнай спадчыны.






# Данута Бічэль на мосце святога Францішка

*Данута Бічэль. Мост святога Францішка: успаміны. — Мінск: Медысонт. 2010 г. — 290 с.*

*«Не трэба плакаць на мосце — не муціце слязамі Нёман — Нёман і так залішне зялёны ад дубоў і ракітаў. Можаце па-савецку называць гэты мост Старым ці мостам „злучэння Беларусі“ ў адну дзяржаву БССР — мост нават не скаланецца, бо гэта мост святога Францішка. Стары мост, па якім хадзілі войны і камуністы, разбураны. Мы ходзім цяпер па мосце святога Францішка — і ў мінулае XII стагоддзе, і ў цяперашняе XXI, бо ўсё вяртаецца разам з Езусам, усё пачынаецца нанава, але нічога не паўтараецца».*

Гэтымі словамі не завяршаецца новая кніга Дануты Бічэль, але пачынаецца дарога праз мост святога Францішка — дарога праз «Акіян» — дарога праз усё XXI стагоддзе, калі пад апекай Божай і пад уладай, нарэшце, чалавечага розуму не будзе ніводнай вайны ні ў Еўропе, ні ў Беларусі. І кніга «Мост святога Францішка» праз тых сяброў і сучаснікаў Дануты Бічэль у нашым XX стагоддзі, без чыйго жыцця і смерці ніякай новай будучыні проста не магло быць — так і паўтараўся б той «стары савецкі час» з пакалення ў пакаленне, як у якой-небудзь Паўночнай Карэі, дзе савецкі камунізм пабудаваны «не ў асноўным», а да апошняй дробязі ў апошнім чалавеку.

Сябры і сучаснікі Дануты Бічэль «не роўныя, але розныя», зусім не падобныя да яе самой, а звыклы да аднадумства савецкі і постсавецкі «наш чытач» будзе здзіўлены яшчэ і тым, што тыя сябры і сучаснікі «нават не аднадумцы» Дануты Бічэль, а жывыя людзі з уласнымі жывымі душамі.

І вось якімі людзьмі населеная кніга — Татарчык з Татар-

цаў, Фадзей, Чынчык па імені Антак, Валодзя Лебедзь, Цэдзік Людвікаў, Толік Кіеня, Мікалай Супрэн, Косцік Карабан, Азіят, Адам Міцкевіч, Тамаш Зан — праўнук Тамаша Зана, Макаровы Стась, Чэслаў Нёман, Гаргона з вострава на балоце, Эрык Загнетаў, Юрачка Сунічны Дожджык, Коля Кульгавеня, Кастусь Тарасаў і Сяржук Сокалаў-Воюш, Геніюшы, Антон Войцік, Зоська Верас і ўсе Войцікі, Казімір Місюра, Мост святога Францішка, Яська і Марылька...

Не, тут няма памылкі: Мост святога Францішка — таксама чалавек, прынамсі, у гэтай кнізе. Жывы чалавек. І ўсе людзі ў гэтай кнізе жывыя. Так, паміж намі, у кнігах Дануты Бічэль усе людзі жывыя — у часе жыццё праходзіць, быццам яго не было, а ў кнігах яно жыве далей. Але толькі ў кнігах Дануты Бічэль — гэта вам не «нейкі Чобат» з ім жа самім выдуманымі «крэсалогіяй» ці «аналітычнай гісторыяй» (значна менш пыталі, што гэта значыць, алеківалі галовамі, што і мы такія ж разумныя). Што праўда, каб усе людзі былі такія, як у Дануты Бічэль, то даўно быў бы канец нашага свету і рай на зямлі пасля таго канца... Але — што мы ведаем пра тое XXI стагоддзе? Куды вядзе дарога праз мост? Данута Бічэль таксама нічога не ведае. Не ведае, але верыць. Пра што і піша. І гэтая кніга, «Мост святога Францішка», толькі для тых, хто сам верыць і каго не трэба вучыць верыць. Не ведаю, дзе яна возьме на Беларусі ажно пяцьсот чалавек, якія вераць, — такі наклад кнігі — але гэта ўжо справа аўтара і выдаўца; трэба думаць, і яны ж самі пра гэта думалі, калі рабілі тое, што ўсё-такі нарабілі...

Новая кніга «Мост святога Францішка» працягвае нядаўнюю кнігу «Хадзі на мой голас» ( Гродна–Вроцлаў, 2008 год), населеную так густа, як шматкватэрны дом — там ажно трыццаць пяць раздзелаў, а тут, у новай кнізе, людзі проста ідуць праз мост, кожны ў свой час і кожны сваёй дарогай. На мой розум, першай прафесіі інжынера, такой канструкцыі часу і месца ў беларускай літаратуры яшчэ не было. Безумоўна, знайсці такую свабоду можна і ў Адамчыка, і ў Караткевіча, і хоць бы ў «нашага польскага шляхціца» Баршчэўскага з яго «Шляхціцам Завальнем», але там ёсць падзел — тут аўтар, тут твор, — а «Мост святога Францішка» звязвае «два берагі» так, што не разабраць, дзе жыццё пад акупацыяй, а дзе кашмарны сон, і дзе канец вайны, а дзе вайна без канца, і хто цяпер і тут тая савецкая Гаргона, і якое пралетарскае «дзікае паляванне» каго забрала з гэтага свету на той...У падтытуле кнігі, што праўда, папярэджана — «Успаміны», але па апошняй старонцы разумееш, што гэта былі ўспаміны душы, таму паўтару яшчэ раз, што «Мост святога Францішка» добры для пераходу толькі для тых, «хто сам верыць, і каго не трэба вучыць верыць». Але таксама папярэджваю — каму вера стала прафесіяй, тым не перайсці «Мост святога Францішка», бо яны будуць чапляцца і падаць на кожным кроку.

«Казімір Місюра пакінуў апосталаў у касцёле і паехаў у Воранава» — гэта ўсяго толькі пра «ліквідацыю наступстваў пажару» ў Фарным касцёле ў Гродне, а можна падумаць, што той Казімір Місюра не разьбяр па дрэве... а сам Стварца.

Свабода пісьма, праява той адзінай у свеце свабоды, якой ёсць свабода выбару, бо як толькі зроблены нейкі выбар, то адразу на галаву высыпаюцца адны абавязкі, і няма той свабоды — непамысная без той не зямной, а нябеснай свабоды, якая здаўна называецца свабодаю душы, і «Мост святога Францішка» як бы ўсё роўна вядзе ад свабоды душы да свабоды выбару, а нават вяртае ад свабоды выбару да свабоды душы. І нічога дзіўнага, што на тым мосце не разабраць, хто «просты творца», а хто сам нябачны Стварца — і таксама добра, што ў кнізе цэлую старонку займае дэфініцыя зла, а зло ў любой праяве — гэта ўсё роўна дзейнасць бяздарнасці, а вось дабро ў кнізе нячутнае і нябачнае, як дар Божы, як нараджэнне на свет ад Яся з Марылькай, як паветра над Нёманам, якім дыхаць і дыхаць, пакуль стаіць «Мост святога Францішка».

*Алесь Чобат*



# МОСТ У КРАІНУ НЕМАНІНУ

Данута Бічэль. Мост святога Францішка: успаміны. — Мінск: Медысонт. 2010 г. — 290 с.

Дарога з разгону хоча пераскочыць цераз рэчку, і — з'яўляецца мост. Як шлях у невядоманязведанае, з берага расчаравання — на бераг надзеі. Бежанец з зямлі, чужынец для вады, мост найбліжэй да паветранай стыхіі. Мост — злучво паміж светамі дабра і зла, чыстая прастора, таму на ім добры малойца заўсёды перамагае ліхую сілу. У беларускіх народных песнях мост служыць правобразам шлюбу, таму ў нашых незлічоных Зарэччах і Замасточчах, Мастах і Мастаўлянах спрадвеку гучала дзявочае: *«Цераз рэчку-ручаіну я масточак паракіну. Хадзі, любы, хадзі, мой, хадзі летам і зімой»*. *І* чулася ў адказ радаснагоднае: *«Масці кладку, заві ў хатку»*.

Будаўнікі мастоў у старажытныя часы складалі асобную касту і нават вызваляліся ад службы ў войску. Дайце веры, сучаснае слова «пантыфік» паходзіць ад лацінскага тэхнічнага тэрміна *pontifex*, што літаральна азначае *«той, хто будуе масты»*.

Мне ўспамінаюцца самыя незвычайныя масты, па якіх давялося праходзіць. Немагчыма забыць Карлаў мост у Празе, якому амаль шэсцьсот гадоў. Найлепш шпацыраваць па ім зігзагамі — ад скульптуры да скульптуры, якіх на мосце налічваецца каля трох дзесяткаў. Ідзеш, чытаеш надпісы, і перад табой праходзіць уся гісторыя Чэхіі. А ўнізе ў срэбных каралях штучных перакатаў паблісквае Влтава...

У Калінінградскай вобласці, колішняй Усходняй Прусіі, уразіў мост, разведзены з часоў Другой сусветнай вайны. Немцы, адступаючы, развялі, а саветы, прыйшоўшы, звесці не змаглі. Так і ўзвышаюцца роспачна ўгору дзве палавіны моста, як сімвал нестыкоўкі пруска-расейскай палітыкі ў дачыненні да гэтай зямлі.

Помніцца і самы доўгі беларускі мост у Жыткавічах — цераз разлівістую Прыпяць. Яго ўвогуле будавалі ў падсохлай пойме, лічы, у чыстым полі, а потым ужо, як наравістую кабылу ў аглоблі, заганялі пад мост раку.

Ды ці мала ў свеце ёсць цікавых мастоў, якія вагаюцца, плаваюць, узвышаюцца над вадой на галавакружную вышыню, злучаюць не проста берагі, а — мацерыкі.

Але самы цікавы, самы ажыўлены мост збудавала Данута Бічэль. Якая ж добрая назва для біяграфічнай прозы — «Мост святога Францішка»! *«Як дагнаў я свае леты на кляновым мосце, вяртайцеся, мае леты, да мяне у госці»*, — нібы чую я голас сваёй бабы Настулі ў зацішку пад вішнямі на нашым хутары пад Дзярэчынам. Данута Бічэль — таксама хутаранка, відаць, таму амаль усіх герояў яе новай кнігі я ўспрымаю як сваю радню. Усе яны сваякі — духоўныя ці крэўныя — і аўтарцы. Чытаю эсэ пра Адама Міцкевіча і разумею, што ён ёй брат раднюткі — па паэзіі, па долі, па Нёмане. *«Краю мой Нёман»*, — так Данута Бічэль злучала ў адно радзіму і раку ў зборніку «Загасцінец». А Міцкевіч звяртаўся да Нёмана ласкава, нібы па воднай плыні рукою гладзіў: *«Niemne, domowa rzeko moja!»* Цікава, між іншым, як пароснаму патлумачылі гэты міцкевічаўскі вобраз перакладчыкі: *«рэчка майго дому»* (А. Стаповіч), *«родны мой Нёман»* (Ю. Гаўрук), *«рака Айчыны»* (А. Салавей), *«рэчка мая радаводная»* (Р. Барадулін), *«родная рака»* (П. Бітэль), *«хатні мой Нёман»* (В. Жуковіч)...

Вышэй я абмовіўся — біяграфічная проза. Але ж піша яе паэтка! І таму проза натуральна перацякае ў паэзію. Як у тым жа эсэ пра Адама Міцкевіча, калі на



Прэзентацыя кнігі Дануты Бічэль «Хадзі на мой голас» у зэльвенскім лесе. 2008 г.

прапанову малайцаватага хлопца Стана Скалабана пісаць сачыненне пра Лабановіча і Ядвісю ўлюбёная ў «песняра Літвы» гераіня раптам пачынае адказваць рытмічна і зарыфмавана: *«Вось што, юнача, табе адкажу я: гэта містычная нават кашуля, і Нёман містычны цячэ краем жыта, у хвалях містычных кашуля памыта. Толькі прызнайся, ў каго ты пазычыў сёння ўначы гэты німб таямнічы?»* Проза і паэзія пераліваюцца, як вада ў спалучаных сасудах, у яшчэ адным эсэ — пра Анатоля Сыса. Шчыра кажучы, не прыпомню гэткага змешвання жанраў у іншых пісьменнікаў. А можа, гэта не змешванне, а нейкі новы жанр, якому з цягам часу падшукаецца найменне?

Ад Нёмана-ракі ў кнізе лёгка перакінута кладка да Чэслава Нёмана (менавіта на такім напісанні настойвае аўтарка). Апошнім часам гэтаму спеваку надаецца шмат увагі ў беларускіх і польскіх СМІ, а ў вёсцы Старыя Васілішкі на Лідчыне нават адчыніўся нядаўна ягоны музей. Усе беларускія фаны Чэслава Нёмана, відаць, пабываюць у тым музеі, на розныя галасы наспеўваючы ягоны хіт «Dziwny est tę świat». Але мала хто з іх ведае, што першая ў Беларусі выстава, прысвечаная іхняму куміру, была зладжаная яшчэ за савецкім часам, у гарадзенскім музеі Максіма Багдановіча, калі там працавала Данута Бічэль. Але гэта так, да слова прыйшлося. Чэслаў Нёман сёння — легенда. Хлопец з беларускай вёскі вырваўся за жалезную заслону, пакарыў сваімі песнямі Варшаву... Асабіста мне ў гэтай легендзе бракавала адной крэскі, адной згадкі, якую я з удзячнасцю напаткаў у кнізе «Мост святога Францішка» — пра тое, як спявак прыходзіў на начныя эфіры польскага тэлебачання і спяваў беларускія песні. Адшукайце іх запісы, мілыя даследчыкі, яны павінны гучаць і ў васілішкаўскім музеі!

Чытаю «Мост святога Францішка» — нібы хаджу па роднай Гарадзеншчыне і сустракаю дарагіх сэрцу людзей. З мастакомрэстаўратарам Валодзем Кіслым мы аднойчы ездзілі ў Варшаву — на прэзентацыю кнігі ўспамінаў князя Яўстаха Севярына Сапегі. Да скідзельскага самотніка, паэта Алеся Чобата, я стараюся заязджаць па дарозе ў Гародню і заўсёды ўражваюся яго дыягенаўскім аскетызмам і платонаўскай яснатой розуму. З Сержуком Сокалавым-Воюшам мы аднойчы цэлы дзень блукалі-ездзілі па Празе і пазнаходзілі ўсе тамтэйшыя адрасы Ларысы Геніюш. Аляксей Карпюк рэкамендаваў мяне ў Саюз пісьменнікаў, сам прывёз рэкамендацыю ў Менск і, не зважаючы на свой страшны дыягназ, аптымістычна дабраслаўляў земляка ў літаратуру. З Анатолем Іверсам мы сустракаліся ў ягонай вясковай хаціне ў Слоніме, на вуліцы Дабрыяна, і колькі там было пачута такога, чаго не знойдзеш у акадэмічных гісторыях літаратуры! З Зоськай Верас мне таксама пашчасціла спаткацца — у яе знакамітай лясной хатцы пад Вільняй, дзе аўтарка беларуска-польска-расейска-лацінскага батанічнага слоўніка жыла ў поўным суладдзі з прыродай, як і святы Францішак з Асізі.

Цяпер вы разумееце, за што я люблю біяграфічную прозу Дануты Бічэль. Яе не цікавіць побыт, яна піша пра галоўнае — пра судакрананне душамі. Бо — *«няма ў цябе, чалавеча, нічога, апрача душы»* (Піфагор Самоскі). *«Дзе скарб ваш?»* — пытаўся апостал Мацей у людзей будучых тысячагоддзяў. *«Скарбы — у душы»*, — ціха адказваў яму беларус Максім Гарэцкі.

Калі я ўпершыню трапіў у гарадзенскую кватэру Дануты Бічэль, сеў на пянёк (сапраўдны!) пасярод пакоя і агледзеўся, то пабачыў на сцяне партрэт польскага паэта Мацея Юзафа Канановіча. Пра яго мне калісьці трохі расказваў Янка Брыль, акцэнтуючыся на іхняй супольнай вандроўцы ў вёску Дубраўка на Шчары (туды ад майго Дзярэчына кіламетраў пяць напрасткі). Пасля тае вандроўкі Мацей Кананович напісаў шчымлівыя вершы пра надрэчныя дубы, што так і не сабраліся ў вырай, бо ў гнёздах заставаліся пісклянятыя жалудоў... Зробленае Канановічам для Беларусі заслугоўвае ордэна Скарыны,



Слова пра аўтарку гаворыць літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч.

але як матэрыяльную ўзнагароду перашлеш на той свет? Можна толькі далікатна судакрануцца душамі, і ўдзячнае эсэ Дануты Бічэль, паверце, таксама вартае ордэна. Чытаючы яго, я спачатку трохі заблытаўся ў радаводным дрэве Канановічаў, але потым нарэшце ўцяміў, што сын гарадзенскай пані Стасі Канановіч Мірык, з якім мы бавілі час на летніх вакацыях, не хто іншы, як пляменнік таго Мацея з Лодзі. Чуеш, Мірык, я абавязкова напішу табе ў далёкую Данію ліста, а ты мне адкажаш, і так мы пагаворым пра твайго дзядзьку. А пачну я свой ліст з апісанага Данутай Бічэль выпадку пра тое, як аднойчы ў прыцемненай залі варшаўскага кінатэатра Мацей Канановіч устаў і выразна прамовіў: «Pan inżyner Tadeusz Kościuszko est nazawsze w naszych sercach». А яшчэ прыгадаю, як ён першы кілішак заўсёды выпіваў за Касцюшку, а на вуліцах пытаўся ў маладзёнаў, як даехаць да вуліцы Касцюшкі. А яшчэ ёнператварыў сваю лодзеўскую кватэру ў музей Касцюшкі...

Як жа ўмее Данута Бічэль вылушчыць са стажка жыццёвага гарохавіння галоўнае! Якасць, уласцівая далёка не ўсім творцам...

Гарадзенскі Край паэтка называе Краінай Неманінай. Удалая назва. Тут і Нёман, плывучы па якім можна пісаць гісторыю культуры Панямоння. Тут і біблейскае «не мані». Тут і наша змушанае аняменне...

Загарнуў «Мост святога Францішка» і падумаў: няўжо я прымаю ў кнізе абсалютна ўсё? Няўжо нічога не выклікала пярэчання? Не, ёсць і спрэчныя, на маю думку, мясціны. Праўда, іх няшмат. Спачатку думалася — чатыры-пяць. Перачытаў, аказалася — дзве-тры. Скажам, я не магу прыняць нацыянальнага самалупцавання на фоне ўзвялічвання іншага народа. Калі Данута Бічэль раптам пачынае звяртаць увагу на побыт, ёй, як мне падаецца, здраджвае густ. Ну не ва ўсіх беларусаў на падворках круглы год ляжаў гной, як і не на ўсіх польскіх падворках быў ідэальны парадак (эсэ пра Элізу Ажэшку). Зразумейце, я зусім не супраць таго, каб пісьменнік, калі таго вымагаюць абставіны, сцябаў свой народ розгамі сарказму і сатыры, як тое рабілі ўкраінец Уладзімір Сасюра ў паэме «Мазепа» ці наш Янка Купала ў «Тутэйшых». Перасцярог бы я аўтарку і ад перадчасных прысудаў: «літаратура для Уладзіміра Някляева — гульня ў словы», «нявестка Ларысы Геніюш была раўнадушнай да беларускай мовы». З Валянцінай Геніюш, нараджэнкай вёскі Бярэжкі пад Зэльвай, я неаднойчы сустракаўся і яе беларускай мовай увесь час захапляўся. Што ж, яна яе ў спольшчаным Беластоку, дзе жыве апошнія паўвека, вывучыла? Зрэдку трапляюцца ў кнізе і рэдактарскія недагляды (а рэдактараў у кнігі — ажно два). Прыкладам, Іван Бровікаў ніколі не быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, ён узначальваў Савет Міністраў.

Але хай гэтае драбноцце не спыніць вас па дарозе ў Краіну Неманіну, дзе ходзяць басаніж і судакранаюцца душамі.

...Гадоў пятнаццаць таму мы з Анатолем Сысам вазілі ў Гародню Дануце Бічэль сігнальны асобнік яе паэтычнага зборніка «Снапок». Летась мне выпала адвезці ў сталічнае выдавецтва электронны набор будучай кнігі «Мост святога Францішка».

Данута Янаўна, Вы толькі пішыце, а мы і надалей — будзем вазіць...

*Міхась СКОБЛА.*
*Фота аўтара.*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

Юры Лаўрык

# Рукапіс, знойдзены на гарышчы, або Лісты да бэрнардына Філіпа Шчарбінскага

Рукапіс, знойдзены на гарышчы... Такая частая ў прыгодніцкай літаратуры тэма! Хто б мог падумаць, што й мне некалі выпадзе магчымасць да яе далучыцца, бо ў мае рукі трапяць менавіта такія рукапісы, і я буду з хваляваннем іх чытаць? Сапраўды, «чаго вока не бачыла, і вуха не чула і што не ўваходзіла ў чалавечае сэрца, тое Бог падрыхтаваў тым, хто любіць Яго» (1 Кар 2, 9).

Перадгісторыя гэтай знаходкі звязана з апісанымі ў артыкуле В. Кошмана археалагічнымі назіраннямі за рэканструкцыяй менскага будынка колішняга кляштара бэрнардынаў. Падчас яго рэканструкцыі, на бэльцы пад страхою, быў знойдзены канверт з лістамі пачатку 1860-х гадоў. Археолаг Вадзім Кошман, які ведаў пра маё зацікаўленне лёсам мінскіх бэрнардынаў і ў свой час зычліва адгукнуўся на просьбу дапамагчы ў агледзінах былога кляштара (за што я хачу выказаць яму шчырую падзяку!), прапанаваў мне расчытаць і перакласці згаданыя лісты з польскай мовы. Так я далучыўся да гэтай «прыгоды» і дзякуючы гэтай ласкавай прапанове змог прыгледзецца бліжэй да жыцця аднаго з бэрнардынскіх клерыкаў — Філіпа Шчарбінскага і яго сям'і.

Як ужо сказана, адрасатам лістоў выступае клерык бэрнардынскай семінарыі Стась Шчарбінскі, які пры складанні манаскіх шлюбаў узяў сабе імя Філіп. З кароткіх радкоў, напісаных яму бацькамі, мы даведваемся, што ён меў добрыя поспехі ў вучобе і нават выдатна выступіў са сваім першым казаннем — з чым яго і віншавалі. Разам з тым, ягоныя здольнасці да навукі не заміналі яму крыху ленавацца, і штогод Стась імкнуўся выехаць дадому раней, яшчэ да пачатку вакацыяў...

Аўтарамі знойдзеных у кляштары лістоў выступаюць ягоныя сваякі — бацька Юзаф і маці Кацярына, стрый (дзядзька па бацькоўскай лініі) Станіслаў, а таксама брат Людвік. Гэта была каталіцкая сям'я, што жыла ў мястэчку Ілукшта Віцебскай губерні. Бацька вёў нейкія справы з панскім дваром паблізу Ілукшты (можа, гэта згаданы ў іншым лісце маёнтак Вышкі?) і чакаў адтуль разліку ці то за выкананую працу, ці, хутчэй, за прададзены тавар (бо гаворыцца пра павелічэнне акцызу). Брат Людвік наведваў парафіяльную школу, якой кіраваў ксёндз Паеўскі.

Тое, што мы чытаем на гэтых дробна спісаных аркушыках, часта можна сустрэць і ў сённяшніх лістах бацькоў з глыбінкі да сваіх ад'ехаўшых на вучобу дзяцей: запыты пра здароўе, аповед пра мясцовыя навіны, згадкі пра пераданыя грошы ды прадукты і наракანні на тое, што дзеці не пішуць. Вядома, сённяшнія сродкі сувязі — мабільныя тэлефоны, электронная пошта — паўплывалі на форму карэспандэнцыі, якая стала больш сціслай, «дзелавой», аднак чытачы сталейшага веку, выгадаваныя на традыцыйнай «паштовай культуры», лёгка пазнаюць тыя фармулёўкі, якімі і яны нядаўна карысталіся...

У лістах рэгулярна згадваюцца мясцовыя святары, якія, безумоўна, адыгрывалі значную ролю ў жыцці каталіцкай супольнасці Ілукшты: кс. Паеўскі, кс. Траццяк, а найчасцей — не названы па імені ксёндз дэкан. Відаць, менавіта ён спрычыніўся да паступлення Стася Шчарбінскага на навучанне да бэрнардынаў; і надалей ксёндз не выпускаў здольнага клерыка са свайго поля зроку, магчыма, плануючы ўзяць яго казнадзеем у адну з парафіяў свайго дэканата. Бацькі Стася заўсёды пішуць пра ксяндза дэкана з вялікай пашанай і заклікаюць сына падпарадкоўвацца ягоным наказам, каб не паўтарыць лёс нейкага Навіцкага, які таксама вучыўся ў семінарыі, але, вярнуўшыся дадому, адмовіўся ад духоўнага шляху і пачаў заляцацца да «гувернёркі» ў суседнім з Ілукштай маёнтку Вышкі.

Падобна, што ксёндз дэкан падтрымліваў сувязі з паўстанцамі — бо, як вынікае з лістоў, у лютым 1863 года ён быў арыштаваны царскімі ўладамі і амаль чатыры тыдні ўтрымліваўся пад вартай у Рызе. Небяспечная атмасфера гэтых змрочных часоў

---

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага універсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага універсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.



Канверт з адрасам: «Его Преподобію Ксендзу Филипу Щербинскому въ Монастыре Бернардиновъ въ Минскъ» і штампам паштовага збору.



Адваротны бок канверта з рэшткамі сургучнай пячаткі.

досыць выразна праступае ў стрыманых радках перлюстраваных лістоў, якія пісаліся ў час, калі паўстанне ўжо разгарэлася: бацька заклікае Стася быць асцярожным, не ўдавацца ў размовы абы з кім, не пісаць занадта адкрыта пра навіны... Але разам з тым ён не забываецца нагадваць, каб сын «пільнаваўся свайго абавязку». Менскія бэрнардыны, а разам з імі, трэба думаць, і ксёндз Філіп Шчарбінскі, не забываліся на свой грамадскі абавязак, бо пасля падаўлення паўстання кляштар быў скасаваны. На жаль, пра само паўстанне ў лістах нічога не сказана, але з іх можна выразна адчуць атмасферу, якая тады панавала не толькі ў губернскім («ваяводскім», карыстаючыся тэрміналогіяй лістоў) Менску, а нават у невялікай правінцыйнай Ілукшце.

Зрэшты, не буду пераказваць змест лістоў, з якім чытач можа азнаёміцца і сам у прапанаванай яму публікацыі. Выкажу толькі некаторыя думкі пра іх як пра пісьмовыя помнікі, што чакаюць больш дэталёвага вывучэння.

* * *

Знойдзеная на паддашшы бэрнардынскага кляштара карэспандэнцыя ўяўляе з сябе канверт, у які ўкладзена сем лістоў і аркушык з запісам касцёльнага гімна «Pieśń do SS. Patronów Krulewstwa(!) Polskiego». На жаль, не ўсе лісты датаваныя, але большасць пазначана датамі з 18 лютага 1862 года па 19 сакавіка 1863 года. Сыходзячы з апісаных у недатаваных лістах падзеяў і храналагічных прывязак («мы атрымалі ліст 15 верасня», «не ведаем, як будзе пасля Новага году»), найранейшы з іх, верагодна, трэба датаваць вераснем 1861 года, а апошні — канцом 1863 года.

Канверт мае напісаны па-расійску адрас: «Его Преподобію Ксендзу Филипу Щербинскому въ Монастыре Бернардиновъ въ Минскъ». Замест прывычнай нам маркі на ім стаіць пячатка аб паштовай аплаце — 1 капейка за канверт і 10 капеек за лот вагі, — а таксама штампы паштовых аддзяленняў.

Усе лісты напісаны на так званай «polszczyznie kresowej» (гэта тая своеасаблівая гаворка, што некалі шырока ўжывалася на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай). Большасць лістоў напісана тым самым почыркам, але адзін з іх зроблены іншай рукой. Іншым чалавекам была каліграфічна выпісана і «Песнь да святых Патронаў Каралеўства Польскага». Можна сказаць, што пісальнік асноўнай часткі лістоў (большасць з іх, напэўна, належыць руцэ бацькі) — асоба хоць і адукаваная, але не надта звыклая да пераказу сваіх думак на паперы. Стыль лістоў паспешлівы, збіўлівы, у іх часта прапушчаны словы і нават цэлыя выразы. Досыць часта сустракаюцца арфаграфічныя і граматычныя памылкі, амаль не ўжываюцца дыякрытычныя знакі, уласцівыя тагачаснаму польскаму правапісу. Будучы, так бы мовіць, «беларусафонам», аўтар вельмі часта блытае на пісьме насавыя гукі «ą» і «ę» са спалучэннем галосных «о», «е» і «н», а таксама «ó» з «u».

Апошні ліст напісаны ўжо іншаю рукою. Бацька тут згадваецца ў 3-й асобе («наш каха-

ны айцец захварэў»), але ліст пачынаецца зваротам «каханы сыне», таму можна меркаваць, што яго пісала маці. Ліст вельмі кароткі, бо адсылаўся ў спешцы з неспадзяванай нагоды і нават не мае канверта — ён проста быў складзены і запячатаны сургучом.

Адрозным почыркам занатавана і «Песнь да святых Патронаў Каралеўства Польскага»; сыходзячы з правапісу і дбайнасці пісьма, запіс гэтага гімна, напэўна, зроблены рукой асобы маладзейшай і лепш адукаванай. Гімн уяўляе з сябе адну з тых рэлігійных песняў, якімі каталіцкае святарства ўздымала патрыятычны дух моладзі падчас паўстанняў 1831 і 1863 гадоў. І ў загалоўку гімна, і ў яго тэксце гучыць назва Каралеўства Польскага, аднак гімн сваім пафасам нагадвае пра колішнюю незалежнасць Рэчы Паспалітай і заклікае да яе аднаўлення ў межах перад падзеламі — у ім ёсць зварот да святога Станіслава, які ад Длугашавых часоў сімвалізаваў сваёй асобаю злучэнне польскіх земляў у адну дзяржаву, і да святога Казіміра — Апекуна Вялікага Княства Літоўскага.

* * *

Ніжэй я прапаную пераклад апісаных лістоў. Паколькі ён рыхтаваўся для публікацыі ў часопісе, разлічаным на шырокае кола чытачоў, я дазволіў сабе адысці ад строгіх правілаў археаграфічнай публікацыі дакументаў. У прыватнасці, дзеля таго, каб лісты лягчэй успрымаліся, я паправіў стыль, запоўніў пропускі і, увогуле, прывёў тэкст у чытэльны выгляд, але імкнуўся нічога не змяняць без патрэбы. На жаль, той непаўторны водар часу, які надае аўтэнтычным лістам іх мова, наўрад ці ўдалося захаваць цалкам у перакладзе.

# Лісты да ксяндза Філіпа Шчарбінскага

**1 . Верасень 1861 г.(?)**

Каханы наш сыне, мы атрымалі ліст 15 верасня і вельмі з гэтага ліста ўзрадаваліся. Ты нас суцешыў, выцер нам слёзы з вачэй нашых і скараціў мне дарогу. Я [ўжо] хацеў ехаць, бо мы непакоіліся, а ты цяперака нас супакоіў, прыслаўшы гэты ліст. Вельмі мы ўсцешаныя, што ты ўступіў у Закон бэрнардынаў. Мы вельмі задаволеныя, [і] не толькі мы, але і кс. дэкан задаволены, і кс. Паеўскі задаволены. Няхай Цябе Бог благаславіць, і мы даём табе бацькоўскае благаславенства. Толькі просім напісаць, на якім ты курсе і чыім [вучышся] коштам: ці скарбовым, ці не? Пішы пра ўсё. Зычым табе ўдачы! З любоўю, тваё бацькі.

Бацька, Юзаф Шчарбінскі, і мама, Кацярына Шчарбінская.

Зычым табе добрага здароўя, удачы і поспехаў.

—————

Таксама шлю паклон, [твой] стрый Станіслаў Шчарбінскі. Каханы Стасю, таксама ўсцешыў і мяне ты гэтым лістом, а асабліва [тым], што ты ўступіў у святы Закон бэрнардынаў. Дай табе Божа здароўя і шчаслівага жыцця. З любоўю, твой стрый Станіслаў.

—————

Усцешаны брат Людвік шле паклон і піша, макаючы пяро ў слёзы радасці, бо ты прыслаў ліст, [і] дзякуючы Богу, які пакіраваў, каб ты застаўся ў законе. А мне трэба за то Бога прасіць, каб Бог пакіраваў і намі. З любоўю, брат Людвік Шчарбінскі.

Прашу напісаць цябе кс. дэкану і кс. Паеўскаму пра тое, як маешся.

**2 .**

Сыне мой дарагі Стасю, пасылаем табе нашае бацькоўскае благаславенне, каторае няхай табе да скону твайго жыцця служыць, і паведамляем табе аб сваім здароўі. Мы, з ласкі Бога Найвышэйшага, здаровыя, чаго і табе зычым: добрага здароўя і ўсялякае ўдачы ды ў навуках добрых поспехаў.

Каханы наш Стасю, пасылаем табе 3 (тры) рублі на харчаванне падчас посту. Толькі, калі ласка, не журыся ў чужой старонцы. Мы будзем цябе ўспамагаць, наколькі нашыя магчымасці дазволяць. [Калі будзе] вялікая патрэба, то пішы нам, а мы будзем старацца паводле нашае магчымасці. Не разводзячыся шмат пяром, перапрашаю, бо не маю пра што болей пісаць. Зычым табе добрага здароўя і ўсялякае ўдачы! З любоўю, тваё бацькі.

—————

Таксама любячы твой стрый Станіслаў ёсць здаровы і вясёлы, гэтак жа і табе зычыць добрага здароўя, у навуках добрых поспехаў і ўсялякае ўдачы. Шчыра зычліва табе стрый Станіслаў Шчарбінскі. Яшчэ паведамляю, [што] 18 лютага быў К. Даўшто(?) ў Ілукшце. Ён ад'ехаў назаўжды да Пецярбурга.

—————

Цалуе тваё рукі, просячы Бога, каб Бог даў табе добрага здароўя і і добрае ўдачы ва ўсіх тваіх пачынаннях, з любоўю твой брат Людвік Шчарбінскі.

Го[да] 1862 ме[сяца] лютага д[ня] 18.


Pieśń do SS. Patronów Królestwa Polskiego.

Wysokich Niebios wysocy Panowie,
Tego świata możni Patronowie
Ratujcie nędznych ratujcie prosimy,
Boście przeklęci...

Dziś twe ołtarze zanosim wołanie.

Patrzcie ...
Nachylcie ucha długo ...
Utulcie serca Boga rozgniewane
Wściągnijcie ... gniewem hartowane

Biskupie ... Krakowskiego
Patronie ... Królestwa Polskiego
Patrz iako leży Polska ...
... się twej Ojczyźnie synem.

Wojciechu ...
Boga Rodzicy wybrany ...
Zastaw się prosim za przestępnikami
Niech cię ... znamy.

... Polska upadła powstanie.
Racz podnieść rękę którąś ...
Gdyś się Polakom Patronem ...

Jacyncie drogi skarbie bez szacunku
Rzeczpospolitej ... frasunku
... wszystkie wody ...
... Płaszczem żeby ...
Czysty Panicu ... Królewicu
Po Państwie Polskim ... Dziedzicu
Lilio biała ... żywy,
Bądź Kazimierzu Ojczyźnie szczęśliwy.

Тагачасны «самвыдат» — касцёльны гімн з патрыятычнай скіраванасцю.

**3.**

Дарагі наш сыне, мы атрымалі ліст праз панну Фінкоўну і вельмі ўзрадаваліся з прычыны твайго допісу і паведамлення пра тваё здароўе ды жыццё.

Дзякаваць пану Богу за Яго Найсвяцейшы Провід — мы вельмі з гэтага цешымся, а асабліва з таго, што нам апісвала панна Фінкоўна, дзякуючы Богу за такі добры Дар, што ты выдатна скончыў навукі. А для нас, тваіх родных, гэта галоўнае, [таму] мы дзякуем Богу за такі добры Дар для цябе. [Панна Фінкоўна] не толькі нам распавядала, але і ксяндзу Траццяку, што ты выдатна выступіў з казаннем, [за што] усе дзякавалі Богу. О дарагі наш сыне, якая ж для нас гэта радасць з радасцяў!

Зычым табе добрага здароўя, а ў навуках добрых поспехаў. З любоўю, твае бацькі, Юзаф і мама Шчарбінскія. Мы атрымалі ліст ад 6 кастрычніка. Наш кс. дэкан даў прачытаць нам прысланы табой ліст, а сам пытаўся: ці цешыцца бацька са свайго сына? Я вельмі радуюся. Яшчэ напішу пра Пугачэўскага. Ён цалкам выехаў з Ілукшты, каб атрымаць месца, Навіцкі ж заняўся нядобра гувернёркай у Вышках.

___________

Цалуе твае стопы [твой] брат Людвік Шчарбінскі. Ён ходзіць да школы да кс. Паеўскага.

___________

З любоўю да майго каханага пляменніка, твой стрый Станіслаў зычыць добрага здароўя і добрае ўдачы!

Мы дзякавалі Богу за першы пачатак казання.

З любоўю, твой стрый Станіслаў Шчарбінскі.

___________

Паведамі нам пра сваё адзенне — асабліва, ці маеш плашч і шапку добрую.

Быць можа, змагу прыехаць. Хачу пабачыць цябе на свае вочы і пагаварыць з табою.

[Твой] бацька Шчарбінскі.

1862 ме[сяца] лістапада д[ня] 13, Ілукшта.

**4.**

Найкаханейшаму сыну.

Мы атрымалі ліст 25 студзеня. Мы цярпліва чакалі і моцна сумавалі, і ўсё думалі, якая таму прычына, што ты доўга не пішаш. Зараз жа ты вельмі нас усцешыў, прыслаўшы ліст, бо нам казалі, быццам бы ваша семінарыя згарэла толькі што, і мы з гэтага вельмі засмучаліся. А так, слава Богу, жывем і [ўсе] у добрым здароўі, чаго і табе зычым: добрага здароўя і поспехаў. Ты пісаў, [што] адаслаў сукню. Мы [пра тое] ніякіх звестак не маем, а таго клерыка на вочы не бачылі і ні ад кога не чулі. Хіба, можа, на грам[ніцы(?)] ... (*неразборліва*. — Ю. Л.)

Мы больш ні пра што не за-


Kochany synie zasyłamy tobie
Nasze rodzicielskie błogosławieństwo i wiadomo
o swoim zdrowiu jesteśmy zdrowi z łaski Boga
czego i ci życzym dobrego zdrowia i uspiecho
Drogi nasz synie opisałeś nam swoje zdrowie
bardzo to nam cieszyło przynajmniej choć
wiemy czy żyjesz i wiadomo o twoim powodzeniu
Co o przybyciu piszesz kochany synie
w tym czasie nie przybywaj bo nie mam czym
co do przysłania i nie masz potrzeby tak rano
przyjeżdżać Chyba Bóg da wezmę obrachunek
ze dworem to już czas można przed Zielonymi
Świątkami możesz pisać o przysłaniu pieniędzy
a dopiero u nas bardzo smutna pora i nie
pomyślność wielka naszego pasterza
Dziekana wzięli w areszt już trzeci tydzień
jak w Rydze pod arestem i nie wiemy jak prędko
powróci a z kim będziesz miał rozporządzenie
x Trzeciak wyjechał zupełnie
Kochany synie proszę nie pisać o jakich
wiadomościach bo listy przymujem
zawsze rozpieczętowane bądź ostrożnym
nie udawaj się w żadne gawędy a patrz
swego obowiązku

Przyszły list 9 marca a wysłali 9 Marca 1863 r.

Ліст бацькі ад 9 сакавіка 1863 г.
з паведамленнем пра арышт ксяндза дэкана.

смучаемся і на твае паводзіны не злуемся. Як Бог кіруе, каханы сыну, ты лепей за нас разумееш, і так паступай. [Ты пішаш, што] маеш прыехаць на вакацыі занадта рана. Змілуйся, не зрабі сабе дрэнна, як у мінулым годзе. Слава Богу, ты ў законе, а не так, як Навіцкі. Ухавай, Божа, ад гэтага! А прыехаць я не забараняю, калі [гэта будзе] на дабро для цябе. Мы жывем па-ранейшаму, як табе вядома, каханы сыне.

З любоўю, твае бацькі Шчарбінскія, тата і мама.

Зычым табе добрага здароўя і поспехаў.

---

Таксама і стрый твой Станіслаў шле вестку пра сваё здароўе: я здаровы, з Божай ласкі, чаго і табе зычу ад Найвышэйшага Стваральніка. [Жадаю, каб] Бог у добрым здароўі даў пабачыцца, і прашу нам паведамляць пра свае здароўе і жыццё, хаця б лістоўна. Заўсёды пра цябе памятаю, твой стрый Станіслаў Шчарбіцкі.

---

Кланяюся і цалую твае ручкі хоць завочна ... (*неразборліва.* — Ю. Л.), быццам перад вачыма сваімі бачу брата свайго такога мілага. Кланяюся ў твае ногі. Б[рат] Людвік Шчарбінскі.

Го[да] 1863 ме[сяца] студзеня д[ня] 28.

**5 .**

Каханы сыне, пасылаем табе нашае бацькоўскае бласлаўленне і паведамляем пра сваё здароўе. Мы, з ласкі Бога, здаровыя, чаго і табе зычым: добрага здароўя і поспехаў. Дарагі наш сыне, ты нам пісаў пра сваё здароўе. Гэта нас вельмі парадавала: прынамсі мы хаця б ведаем, ці ты жывы і пра твае поспехі. Тое, што ты пішаш пра прыезд, каханы сыне, цяпер не прыязджай, бо не маю чым па цябе прыслаць, і няма патрэбы так рана прыязджаць. Хіба што Бог дасць, і я атрымаю разлік з дворам, дык тады можна [будзе]. Ты можаш напісаць перад Зялёнымі Святкамі, каб я прыслаў грошы. А пакуль у нас вельмі маркотная пара і няшчасце вялікае. Нашага пастыра кс. дэкана ўзялі пад арышт — ён ужо трэці тыдзень як у Рызе пад арыштам, і мы не ведаем, як хутка вернецца, а з кім будзе мець распараджэнне. Кс. Трацціяк выехаў цалкам.

Каханы сыне, калі ласка, не пішы ні пра якія навіны, бо лісты мы атрымліваем заўжды распячатаныя. Будзь асцярожны, не ўдавайся ў аніякія размовы, а пільнуй свайго абавязку.

Пра сутану: можа, ты ведаеш, у якой парафіі той клерык, з якім ты перадаваў сутану — мы яе не атрымалі. Маё дзіцятка, не прыязджай зараз, а карыстай [з магчымасці вучыцца]. Перад Зялёнымі Святкамі будзе можна, калі Бог дазволіць. А такім чынам, будзь здаровы, каханы наш сыне, і пасылаю табе тры рублі на чырвоныя яйкі.

З любоўю, твае бацькі, Юзаф і Каця[рына] Шчарбінскія.

---

Цалуе твае рукі [твой] брат


Kochany Synie
Zasyłam także za wiadomienie o naszym ...
Przez rzeczna okazija przez księdza wojewódzkiego
Chwała Bogu żyjem po staremu jak ci wiadomo
a teraz niewiemy jak ma nastąpić po
nowym roku bo u nas akcyz nastąpił
nie mogę opisać po jakiej cenie
wszystko dobrze tylko nasz kochany
ojciec Chory. i nie wiemy dlaczego kocha
ny Filipie do nas niepiszesz

Апошні ліст, напісаны маці ксяндза Філіпа Шчарбінскага.

Людвік, дзякуючы за тваю добразычлівасць, і зычыць Бога прасіць, каб Бог даў табе здароўя і поспехаў.

Брат Людвік Шчарбінскі.

—————

Стрый: дзякую, любы пляменнік, што прыслаў вестку пра сваё здароўе. Я не мог зразумець, што была за прычына, чаму ты так доўга ніводнага ліста не пісаў нам. Я вельмі маркоціўся, а цяпер мы, прынамсі, ведаем адныя пра другіх, найулюбёнейшы пляменніку. Зычу табе добрага здароўя, а пісаць болей не маю пра што. Твой стрый Станіслаў Шчарбінскі.

—————

[Надпіс уздоўж вертыкальнага краю аркуша:] Атрыманы ліст 6 сакавіка, а выслалі 9 сакавіка 1863 го[да].

**6 .**

Мой дарагі сыне, магу цябе падзякаваць за віншаванне з маімі імянінамі на дзень св. Язэпа. Мы атрымалі ліст 16 сакавіка ад кс. дэкана. Ён шчасліва твой ліст знайшоў. Гэты ліст дачакаўся вяртання дэкана, які быў у Рызе без малага чатыры тыдні, і мы ўсе вельмі ўзрадаваліся з прыезду нашага пастыра. Каханы сыне, тое, пра што ты пісаў, без [цябе] самога нельга зрабіць, бо еўшы(?) праз паслоў, не растлусцееш. Будзь спакойны, трывай да мая. Калі Бог дазволіць, тады прышлеш [ліст], а я прышлю [што просіш]. Шмат табе трэба, патрабуе Бог. Дасць, можа, [Бог] на св. Юр’я разлік.

Каханы сыне, твой прыезд можа быць для кс. дэкана непрыемным <...>? бо не будзе для нас, так і для дэкана, а дэкан не быў задаволены ў мінулым годзе з [твайго] ранняга прыезду. Так ці інакш, але ты ведаеш, што я хоць зараз рады з табой пабачыцца, карыстай [з магчымасці вучыцца] на працягу гэтага часу, каб быць паслухмяным дэкану.

Мы выслалі табе ліст з укладзенымі трыма рублямі 18 лютага. Каханы сыне, зычым табе добрага здароўя і ўдачы ў тваіх намерах. Калі будзеш пісаць лісты, дык мы вышлем [адрас], на якую пошту табе пісаць. Бывай здаровы, каханы сыне Філіпе.

Бацька і маці.

—————

Кланяюся каханаму брату і рукі цалую, твой брат Людвік Шчарбінскі.

—————

Мой дарагі пляменнік, вельмі я з таго ўсцешыўся, што ты добра чуешся — таму мяне нязмерная радасць агарнула. Дзякую [Богу] за гэта [і] буду з нецярплівасцю чакаць твайго прыезду, калі Бог [на тое] дазволіць.

Мой улюбёны, не рабі бацьку непрыемнасці, учыні паводле ягонага жадання. Ён не хоча, каб ты прыязджаў раней часу — як ты пісаў, [што маеш намер] прыехаць на Вялікдзень — гэтага не трэба, любы мой пляменніку. Складаю свае просьбы перад Багам, каб ты вытрываў.

Стрый Станіслаў Шчарбінскі.

[Надпіс уздоўж вертыкальнага краю аркуша:] Го[да] 1863 ме[сяца] сакавіка д[ня] 19.

**7. Канец 1863 года (?)**

Каханы сыне, пасылаю табе вестку пра нашае жыццё са зручнаю аказіяй — з ваяводскім ксяндзом. Слава Богу, жывем па-старому, як табе вядома, а цяперака не ведаем, як будзе пасля Новага году, бо ў нас акцыз надышоў, не магу апісаць па якой цане.

[У нас] усё добра, толькі наш каханы бацька хворы. І не ведаем, чаму, каханы Філіпе, ты нам не пішаш.

Мы паслалі п[ану] клерыку 4 рублі срэбрам, а адказу няма. Віншуем з Новым годам, каб Бог даў у добрым лёсе дачакацца другога ў добрым здароўі, і добрага жыцця. А цяпер перапрашаю, што не маю чаго прыслаць, апрача двух сыроў. Віншуем і зычым добрага здароўя! З любоўю, твае бацькі Шчарбінскія, у Ілукшце.

[Адрас:]
*Ксяндзу Філіпу*
*Шчарбінскаму*
*У Бэрнардынах*
*У Мінску*

Вадзім Кошман

# Археалагічныя работы на тэрыторыі бэрнардынскага кляштара ў Мінску

ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі» на працягу апошніх гадоў правёў маштабныя археалагічныя даследаванні на тэрыторыі двара былога бэрнардынскага кляштара ў Мінску. Работы праводзіліся па заказе КУП «Мінская спадчына», якая выступае Заказчыкам работ па рэканструкцыі і рэстаўрацыі помніка архітэктуры XVII–XVIII стст. — комплексу будынкаў  6, 8 па вул. Кірылы і Мяфодзія з прыстасаваннем пад гасцінічны комплекс і аб'екты гандлёва-бытавога прызначэння.

Неабходнасць правядзення археалагічных даследаванняў была абумоўлена дзеяннем Закона Рэспублікі Беларусь ад 09.01.2006 г. «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» і «Палажэння аб ахове археалагічных аб'ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ» (Пастанова Савета Міністраў РБ ад 22.05.2002 г.,  651). Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 мая 2007 г.  578 (Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь, 2007 г.,  119,5/25167) комплексу будынкаў былога кляштара бэрнардынаў (XVII–XIX стст.) нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі «2», якая пад шыфрам 712Г000081 унесена ў



Вырабы з каляровага металу. Нацельны крыжык (XII ст.)

Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

Гісторыя касцёла і кляштара, якія праіснавалі з 1624 па 1864 г., у той ці іншай ступені асветлена ў шэрагу артыкулаў[1], аднак спецыялізаванае гістарычнае і архітэктурнае даследаванне комплексу дагэтуль не праведзена. Археалагічнае даследаванне кляштара і яго двара пачалося ў 2007 г. (кіраўнік Ю.У. Каласоўскі) і працягнулася ў 2008, 2010 гг. (кіраўнік А.М. Мядзведзеў). За гэты час было вывучана больш як 1000 кв.м пры магутнасці культурнага слоя 1,0–2,5 м. Па сённяшні дзень праводзіцца археалагічны нагляд за землянымі работамі, якія ажыццяўляюцца вакол будынка кляштара (кіраўнік В.І. Кошман).

У выніку гэтых работ атрымана вялікая калекцыя археалагічных артэфактаў, якую складаюць *вырабы з гліны* (ганчарнае начынне XII–XVIII стст. (венчыкі, сценкі, донцы гаршкоў, макотры), *кафля* (зялёнапаліваная і тэракотавая з раслінным і геаметрычным арнаментам XVII–XVIII стст.; паліваная і тэракотавая кафля з гладкай ліцавой пласцінай (XVIII ст.)), *люлькі для палення тытуню*; *жалеза* (нажы, праколкі, цвікі, падкоўкі на абцас, прадметы ўзбраення — наканечнікі коп'яў і стрэлаў, шпоры), *каляровага металу* (свінцовыя гандлёвыя пломбы XII–XIX стст., нумізматычны матэрыял, бранзалеты, пярсцёнкі, гузікі), *шкла* (фрагменты шкляніц, чарак, стопак, штофаў, ваконнага шкла), *камня* (асялкі, шыферныя праселкі) і г.д. Выяўленыя археалагічныя артэфакты цалкам укладаюцца ў храналагічны дыяпазон функцыянавання кляштара і, безумоўна, звязаны з побытавай і гаспадарчай дзейнасцю яго насельнікаў.

Найбольш важным аказалася выяўленне напластаванняў XII–XIII стст., якія лакалізуюць на гэтай тэрыторыі адзін з пасадаў старажытнага Менска. Удалося зафіксаваць планіроўку

**Кошман Вадзім Іванавіч** — старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук. Закончыў гістарычны факультэт БДПУ імя М. Танка, аспірантуру ІГ НАН Беларусі. Займаецца даследаваннем сістэмы рассялення ў IX–XVIII стст., матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва, эканамічных і культурных сувязяў беларускіх земляў на падставе археалагічных і пісьмовых крыніцаў. З 2007 г. праводзіць ахоўныя археалагічныя даследаванні падчас земляных і будаўнічых работ у гістарычным цэнтры Мінска.



Вырабы з гліны. Кафля (XVII ст.)



Вырабы з гліны. Кафля (XVII ст.)

шэрагу старажытных сядзібаў з агароджамі, якія фактычна не змянялі свайго месца з XII ст. да першай паловы XVII ст. Падчас даследавання раскопаў 2007, 2008, 2010 гг. было выяўлена мноства археалагічных аб'ектаў XII–XVIII стст. (рэшткі фундамента будынка з арачнымі скляпеннямі, аснаванні печаў, гаспадарчыя і падпечныя ямы).

У выніку праведзеных работ можна адзначыць наступнае:

1) Культурны слой на дваравой тэрыторыі кляштара характарызуецца пашкоджанасцю напластаванняў з прычыны разначасовых земляных і будаўнічых работ і прадстаўлены цёмна-шэрым і чорным слоем з утрыманнем праплдосткаў гліны, жоўтага пяску, спарахнелай драўніны і інш.;

2) Частка фундаментаў і сцены кляштара складзены з чырвонай цэглы-пальчаткі памерамі 28 х 14,5 х 5,7-6 см; 27 х 14,5 х 5,5 см; 32 х 15 х 6-6,5 см; 11,5 х 8,5 х 4,5-5 см на вапнавай рошчыне. У шэрагу месцаў фундаменты складзены ў тэхніцы *opus mixtum*, калі валуны буйных і сярэдніх памераў чаргуюцца з кладкай з цэглы-пальчаткі;

3) Культурныя напластаванні ўнутры памяшканняў і калідораў кляштара моцна папсаваныя разначасовымі перакопамі (працэсам узвядзення будынка і яго рамонтамі), а таксама правядзеннем камунікацый (вадаправод, ацяпленне, каналізацыя) у савецкі час;

4) Выяўлена паўночная частка прыкасцёльных могілак. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца фіксацыя на глыбінях 0,30–1,0 м (ад узроўню паверхні грунта ў цокальным паверсе кляштара) асобных чалавечых парэшткаў, прадстаўленых косткамі шкілету. Асабліва шмат гэтых парэшткаў выяўлялася ў калідоры і памяшканнях у заходнім крыле кляштара, набліжаным да паўночнага боку касцёла. Чалавечыя парэшткі фіксаваліся як у непасрэднай блізкасці ад фасада касцёла, так і на адлегласці да 20–25 м. У шэрагу выпадкаў разам з косткамі знаходзіліся драўляная труха і цвікі, што сведчыць аб пахаваннях у трунах. Відавочна, што гэта адзіны комплекс могілак, які размяшчаўся вакол касцёла і неаднаразова фіксаваўся пры археалагічных даследаваннях гандлёвых радоў, вывучэння падмуркаў касцёла ў 1980–2000 гады. Адметна, што частка пахаванняў была пашкоджана ўжо пры будаўніцтве кляштара, што можа сведчыць як аб пэўным храналагічным разрыве паміж будаўніцтвам касцёла і кляштара, так і аб перабудовах комплексу пасля разбурэнняў сярэдзіны XVII і XVIII ст. Антрапалагічнае вызначэнне паказала, што косткі прадстаўлены шкілетнымі парэшткамі не меней як 51 чалавека, з якіх 32 былі дарослымі і 19 дзецьмі.

Большая частка археалагічнага матэрыялу, атрыманага падчас апошніх даследаванняў, знаходзіцца ў працэссе апрацоўкі, аднак ужо можна з упэўненасцю гаварыць аб тым, што дзякуючы гэтаму вывучэнню прыадкрыта адна з цікавых старонак старажытнай гісторыі Верхняга горада Мінска, хоць асноўныя адкрыцці яшчэ непарадзе. У планах навукоўцаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі падрыхтаваць і выдаць манаграфію па выніках раскопак бэрнардынскага двара ў Мінску.



Вырабы з жалеза. Вастрыё з рухомым кольцам (XI–XIII стст.)

[1] Лаўрык Ю.М. Мінскія бэрнардыны ў 1796 годзе / / Наша вера. – 4, 2010 г.; Дзянісаў У.М. Мінскі касцёл і кляштар бернардзінцаў // Архітэктура Беларусі. – 1993 г.; Яроменка А., Радзевіч І. Кляштар бернардзінцаў у Мінску // Наша вера. – 3, 2000 г.

## CONTENTS

Article by Archbishop Tadeusz Kondrusiewicz *Holiness in teaching of John Paul II* opens this issue of Our Faith. It is dedicated to the beatification of the Great Pope (p. 2-4).

In column *New Evangelization* we publish Message of His Holiness Pope Benedict XVI for the 45th World Communications Day *Truth, Proclamation and Authenticity of Life in the Digital Age* (p. 5-6).

Article *Saint from the Darkness* by Pawel Bielinski tells the readers about the life and missionary path of Blessed Mother Teresa (article is translated from Polish by Yulia Shedzko) (p. 7-11).

The publication of Valery Buival *Nicola Pisano. The Annunciation, the Nativity of Christ and the Adoration of the Magi* is dedicated to the masterpiece of Pisa master, who was the precursor of Italian Renaissance (p. 12-13).

We continue to publish the translation of *Flowers of St. Francis* made by Aksana Danilchyk, as well as the translation of *Following Christ* by Thomas a Kempis, made by Stanislau Grynkevich (p. 14-16, 17-20).

Article by Natalia Trauberg *About Humility and Dignity* is dedicated to reflections on the essence of the gospel humility in a person's life (p. 20-21).

Article by Zdzislau Sitska *Days of Father Shaplevich* tells us the story of the heroic way of the former pastor of the Darava parish, which is in the Brest region (p. 22-26).

Article by Anna Serehan *Cantata by U. Syrakomla «Francis of Assisi» and the Spiritual Search of the Literature of Romanticism* is dedicated to one of the unexplored works in the literature study. We also offer excerpts from Cantata translated from Polish by the author of the article (p. 27-31).

*A Person, People, Power* is the title of the article by father Piotr Rudkouski OP in column *Faith & Socium* (p. 32-34).

Uladzimir Konan offers to the readers publication entitled *Sources of the Belarusian Theology: Cyril of Turov*, in which he explores the theological and poetic creativity of the Belarusian enlightener (p. 35-41).

In column *Poetry* we print poems by Vasil Zuyonak, Ales Chobat, and Kristina Lialko. In *Prose* we place impression by Yulia Shedzko *Music of the Underground Silence* (p. 42-44, 45, 52-54, 34).

Zhanna Nekrashevich-Karotkaya in column *Translations* presents her article *The German Teacher of the Belarusian Magnates: Moral-didactic Poems of Johann Mulius from Libenrode*, in which introduces readers to the works of German poet (p. 46-51).

In column *On the Bookshelf* Galina Tychko presents a review of research by Yuri Garbinski *Belarusian Religious Press in the West*; Ales Chobat and Mihas Skobla share their thoughts concerning book by Danuta Bichel *The Bridge of St. Francis* (p. 55-58, 59-60, 61-63).

Yuri Lauryk in column *From the Archives of Time* tells the readers about handwritten finding — letters to father Philip Shcharbinski (p. 64-69).

Article by Vadzim Koshman is dedicated to archaeological excavations on the territory of the Bernardin convent in Minsk (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel des Erzbischofs Tadeusz Kondrusiewicz „Die Heiligkeit in der Lehre von Johannes Paul II.", der den LeserInnen anlässlich der Beatifikation des Großen Papstes angeboten wird (S. 2-4).

In der Rubrik *Neue Evangelisierung* ist die Botschaft des Heiligen Vaters Benedikt XVI. zum 45. Welttag der Kommunikationsmittel „Wahrheit, ihre Verkündigung und die Authentizität des Lebens im digitalen Zeitalter" veröffentlicht (S. 5-6).

Der Artikel „Die Heilige von der Dunkelheit" von Paul Bjalinski ist dem Lebens- und Missionsweg der seligen Mutter Teresa gewidmet (übersetzt aus dem Polnischen von Julija Schedzko) (S. 7-11).

Die Publikation von Walery Bujwal „Nicola Pisano. Die Frohe Botschaft, Geburt Jesu und Anbetung der Hirten" handelt von dem Meisterwerk des Meisters aus Pisa, dessen Name und Werke mit dem Beginn einer neuen Epoche in der italienischen Kunst – mit der Vorrenaissance – verbunden sind (S. 12-13).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung von Aksana Daniltschyk „Die Blümchen des Heiligen Franziskus" sowie der Übersetzung des Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi", die von Stanislau Grynkewitsch ausgeführte wurde (S. 14-16, 17-20).

Der Artikel von Natallja Trauberg „Über den Gehorsam und die Würde" ist den Reflexionen über das Wesen des evangelischen Gehorsams im Leben des Menschen gewidmet (S. 20-21).

Der Artikel von Zdzislau Sizko „Tag und Nacht von Priester Schaplewitsch" handelt vom heroischen Priesterweg des ehemaligen Vorstehers der Gemeinde Darawa, die sich im Brester Gebiet befindet (S. 22-26).

Einem der in der Literaturwissenschaft nicht erforschten Werke ist der Artikel von Ganna Serekhan „Kantate von U. Syrakomlja. „Franz von Assisi" und geistige Suche nach der Literatur des Romantismus" gewidmet. Es werden auch Auszüge aus der Kantate angeboten, die von der Autorin des Artikels aus dem Polnischen übersetzt wurden (S. 27-31).

„Person, Volk, Macht" – so heißt der Artikel des Vaters Pjotr Rudkouski OP in der Rubrik *Glaube & Socium* (S. 32-34).

Uladsimir Konan bietet den LeserInnen die Publikation „In den Anfängen der belarussischen Theologie: Kyrill von Turow" an, wo er das theologische, poetische und rhetorische Schaffen des belarussischen Aufklärers untersucht (S. 35-41).

In der Rubrik „Poesie" sind die Gedichte von Wassilj Sujonak, Alesj Tschobat, Kristina Ljalko veröffentlicht. Auf den Seiten der literarischen Prosa wird die Impression von Julija Schedzko „Die Musik der unterirdischen Stille…" angeboten (S. 42-44, 45, 52-54, 34).

In der Rubrik *Übersetzungen* ist der Artikel von Shanna Nekraschewitsch-Karotkaja „Der deutsche Lehrer der belarussischen Magnaten: moralisch-didaktische Gedichte von Johannes Mylius aus Liebenrode" veröffentlicht, wo sie die LeserInnen mit dem Schaffen des deutschen Autors bekannt macht (S. 46-51).

In der Rubrik *Im Bücherregal* bietet Galina Tytschko die Rezension über die Untersuchung von Jury Garbinski „Der belarussische religiöse Druck im Westen" an; Alesj Tschobat und Michasj Skobla teilen ihre Reflexionen über das Buch von Danuta Bitschel „Die Brücke des Heiligen Franziskus" an (S. 55-63).

Jury Lauruk erzählt in der Rubrik *Aus den Archiven der Zeit* über den handschriftlichen Fund – Briefe an den Vater Filip Schtscharbinski (S. 64-69).

Der Artikel von Wadsim Koschman ist den archäologischen Ausgrabungen auf dem Territorium des Bernhardinerklosters in Minsk gewidmet (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma rozpoczyna się artykułem arcybiskupa Tadeusza Kondrusiewicza *„Świętość w nauczaniu Jana Pawła II"* powstałym z okazji beatyfikacji Wielkiego Papieża (s. 2-4).

W rubryce «Nowa ewangelizacja» zamieszczone zostało *Orędzie papieża Benedykta XVI na 45. Światowy Dzień Środków Społecznego Przekazu „Prawda, przepowiadanie i autentyczność życia w erze cyfrowej"* (s. 5-6).

Artykuł *„Święta od ciemności"* autorstwa Pawła Bielińskiego poświęcony jest drodze życiowej i misjonarskiej błogosławionej Matki Teresy z Kalkuty (tłumaczenia z języka polskiego dokonała Julia Szedźko) (s. 7-11).

W publikacji Waleryja Bujwała pt. *„Nicola Pisano. Zwiastowanie, Narodziny Jezusa, Pokłon pasterzy"* mowa o arcydziele pizańskiego mistrza, imię i dzieła którego związane są z początkiem nowej epoki w sztuce włoskiej — prerenesansu (s. 12-13).

Kontynuuje się publikacja tłumaczenia Aksany Danilczyk „Kwiatków św. Franciszka" oraz dzieła Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa" w tłumaczeniu Stanisława Hrynkiewicza (s. 14-16, 17-20).

Artykuł Natalli Trauberg *„O pokorze i godności"* przedstawia refleksję autora na temat istoty pokory ewangelicznej w życiu człowieka (s. 20-21).

W artykule Zdzisława Sićki *„Dni księdza Szaplewicza"* opowiada się o heroicznej drodze kapłańskiej niegdyś proboszcza parafii darowskiej na ziemi brzeskiej (s. 22-26).

Artykuł Hanny Serechan *„Kantata «Franciszek z Asyżu» Władysława Syrokomli i poszukiwania duchowe literatury Romantyzmu"* został poświęcony jednemu z dzieł, niezbadanych dotąd przez znawców literatury. Proponują się również fragmenty owej kantaty w tłumaczeniu z języka polskiego przez autorkę artykułu (s. 27-31).

*„Osoba, naród, władza"* — taki tytuł ma artykuł o. Piotra Rudkouskaha OP umieszczony w rubryce «Wiara & Socium» (s. 32-34).

Uładzimir Konan proponuje Czytelnikom publikację pt. *„U źródeł teologii białoruskiej: Cyryl Turowski"*, w którym bada teologiczną, poetycką i retoryczną twórczość białoruskiego krzewiciela oświaty (s. 35-41).

Rubryka «Poezja» przedstawia wiersze Wasila Zujonka, Alesia Czobata i Krystyny Lalko. W ramach prozy artystycznej proponuje się impresja Julii Szedźko *„Muzyka ciszy podziemnej..."* (s. 42-44, 45, 52-54, 34).

Żanna Niekraszewicz-Karotkaja w rubryce «Tłumaczenia» prezentuje artykuł pt. „*Niemiecki nauczyciel magnatów białoruskich: wiersze moralno-dydaktyczne Johannesa Myliusa z Liebenrode*" w którym zapoznaje Czytelników z twórczością niemieckiego poety (s. 46-51).

W rubryce «Na półce z książkami» Halina Tyczko proponuje swą recenzję na badania Juryja Harbinskaha „Białoruski druk religijny na Zachodzie"; również Aleś Czobat i Michaś Skobła dzielą się refleksją na temat książki Danuty Biczel „Most świętego Franciszka" (s. 55-58, 59-60, 61-63).

Jury Lauryk w rubryce «Z archiwów czasu» opowiada o odnalezionym rękopisie — listach do o. Filipa Szczarbińskaha (s. 64-69).

Artykuł Wadzima Koszmana poświęcony jest pracom archeologicznym na terytorium byłego klastoru oo. Bernardynów w Mińsku (s. 70-71).

## SOMMARIO

Questo numero della rivista inizia con la pubblicazione dell'articolo dell'Arcivescovo Tadeusz Kondrusiewicz „Il concetto della Santità nell'insegnamento di Giovanni Paolo II" preparato in occasione della beatificazione del Grande Papa (p. 2-4).

Nella rubrica *La nuova evangelizzazione* si pubblica il Messaggio di Santo Padre Benedetto XVI per la XLV Giornata Mondiale di Comunicazioni Sociali „Verità, annuncio e autenticitŕ di vita nell'era digitale" (p. 5-6).

L'articolo di Pavel Bielynski „La Santa apparsa dalle tenebre" è dedicato alla vita e all'attività missionaria di madre Teresa (traduzione dal polacco è di Julia Šedzko) (p. 7-11).

Il critico d'arte Valery Bujval pubblica l'articolo "Nicola Pisano: Annunciazione, Natività, Adorazione dei Magi" raccontando del capolavoro del maestro pisano. Il suo nome e le sue opere sono connesse all'inizio della nuova epoca nella storia dell'arte italiana Pre-rinascimento (p. 12-13).

Continua la pubblicazione della traduzione dei *Fioretti* di San Francesco fatta da Aksana Danilchyk e la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, tradotto da Stanislau Grynkevič (p. 14-16, 17-20).

L'articolo di Natalia Trauberg „Dell'umiltà e della dignità" riflette sull'essenza dell'umiltŕ evangelica nella vita dell'uomo (p. 20-21).

All'eroico destino del sacerdote parrocchiale della regione di Brest Šhaplevič è dedicato l'articolo di Zdzislau Sitska (p. 22-26).

L'articolo di Hanna Serekhan si chiama „La cantata di U.Syrakomlia „San Francesco d'Assisi" e la ricerca spirituale nella letteratura del Romanticismo". Accanto si pubblicano i brani della cantata stessa tradotti dal polacco dall'autrice dell'articolo (p. 27-31).

„Persona, popolo, potere" si chiama l'articolo del Padre Piotr Rudkouski OP collocato nella rubrica „Fede&Socium" (p. 32-34).

Uladzimir Konan propone ai lettori il testo „Alle fonti della teologia bielorussa: Cirillo di Turau" con le riflessioni sull'attivitŕ teologica, poetica e rettorica dell'illuminista bielorusso (p. 35-41).

Nella rubrica „Poesia" si pubblicano i versi di Vasil Zuionak, Ales Chobat, Krystyna Lialko invece la narrativa è rappresentata dall'impressione letteraria di Julia Shedzko „La musica del silenzio sotterraneo..." (p. 42-44, 45, 52-54, 34).

Sotto la rubrica *Traduzioni* Žanna Nekraševič-Karotkaia pubblica l'articolo „L'insegnante tedesco dei nobili bielorussi: versi morali e didattici di Iohann Mulius da Libenrode" presentando ai lettori l'opera del poeta tedesco (p. 46-51).

Nella rubrica *Sullo scaffale* Halina Tyčko pubblica la ricensione del saggio „La stampa religiosa bielorussa all'Occidente" scritto da ricercatore Juras Garbinski invece Ales Chobat e Mikhas Skobla riflettono sul libro di Danuta Bicel „Il ponte di San Francesco" (p. 55-58, 59-60, 61-63).

Jury Lauryk nella rubrica *Dagli archivi del tempo* racconta del reperto manoscritto – lettere al Padre Filip Ščarbinski (p. 64-69).

L'articolo di Vadim Košman č dedicato agli scavi archeologici fatti nel territorio del monastero dei bernardini a Minsk (p. 70-71).

---

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 1 (55)/2011.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*
*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 10.03.2011 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак № 378.*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*
*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*



# 1 мая 2011 года, у нядзелю Божай Міласэрнасці, адбудзецца беатыфікацыя Слугі Божага Яна Паўла II.













